**ГЕНАДЗЬ ЛАПАЦІН**

# “К КАЖДАМУ РАЗГАВОРУ ПРЫКАЗКА Ё...”

З вопыту вывучэння дыялектнай фразеалогіі.
(Матэрыялы да фразеалагічна-парэміалагічнага слоўніка асобы. Варвара Аляксандраўна Грэцкая. Запісы 2005 – 2013 гг.)
Частка 2.

Гомель
2018

УДК 811. 161. 3’374
ББК 81.2. Беи 4(Гом)
Л 77

Рэцэнзенты:
**Валодзіна Т.В.**, доктар філалагічных навук, загадчык аддзела фалькларыстыкі і культуры славянскіх народаў ДНУ “Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры” НАН Беларусі;
**Коваль В.І.**, доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык кафедры рускага, агульнага і славянскага мовазнаўства ўстановы адукацыі “Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Францыска Скарыны”;

**Лапацін, Г.І.**
**Л77 “К каждаму разгавору прыказка ё...”** З вопыту вывучэння дыялектнай фразеалогіі. (Матэрыялы да фразеалагічна-парэміалагічнага слоўніка асобы. Варвара Аляксандраўна Грэцкая. Запісы 2005 – 2012 гг.). Частка 2. На правах рукапісу. /Генадзь Лапацін. – Гомель, 2017. –с.

Гэтая кніга ўнікальная двойчы. Па-першае, упершыню ў фразеалагічна-парэміалагічнай прктыцы створаны фразеалагічна-парэміалагічны слоўнік асобы, якой з’яўляецца былая жыхарка пасёлка Амяльное Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці Варвара Аляксандраўна Грэцкая. І, па-другое, гэта фразеалагічна-парэміалагічная карціна сусвету ва ўяленнях беларусаў, увасобленая ў жыццё аной вёскі. Кніга будзе карыснай для ўсіх, хто цікавіцца беларускай народнай культурай.

УДК 392.1(=826)(476.2)
ББК 63.521(=411.3)-534(4Беи-4Гом)

**Обшчы язык знайсці → Свят душой. (Свята душой.)**

**Пабойся Бога → Праўду да калены гаварыць.**

**Пабыў такоў Іван Пятакоў і пайшоў.**
(а) Усё калісь казалі. Пагуляя... Гаворя: “Ну, пойдзім дамоў”. Баба гаворя: “Во пагуляў. Спасіба”. Дзед Жаваронка на бабу Алёну: “Пайду ўжо. **Пабыў такоў Іван Пятакоў і пайшоў**”.
Ці вот хто пабудзя, украдзя... Гавораць: “**Пабыў такоў Іван Пятакоў і пайшоў**”.

**Павыраслі да неба, а дурныя як трэба.**
Матка на нас: “Цоўбы павыраслі... А дурныя... **Павыраслі да неба, а дурныя як трэба**”. Ці падрасце дзіцёнак... Я на Карыну казала: “Ты ўжо цоўба добрая вырасла”. Яна: “Баб, што-та за цоўба?” – “Ета, як скора вырасла, дак *цоўбы* завуць”. Ціперяка такіх не гавораць. Ужо нікому ні анцірэсна... Ціперяка па-гарадскі.

**Пагаварыць, як вады напіцца.**
Другі чылавек прыдзя гуляць, дак ўсё баба гаворя: “Ну, вот чылавек. З етым чылавекам **пагаварыць,** дак **як вады напіцца**. А другі прыдзя, меля бряхню, а еты чылавек – **як вады напіцца**. Як вот вады хочыш напіцца, *аж душа баліць*. Ета прыказка такая.

**Паганага слова з песні ні выкідаюць.**
Хоць і плахоя, што ў песні ё. Гавораць, **паганага слова з песні ні выкідаюць**. Яно іздзелана. Нада і плахоя ўстанаўліваць. Чылавек жа дзелаў тую песню к толку. Мы ў плахіх дзялах, плахіх славах радзіліся, у плахіх і памрём.
<*А калі слова выкінуць?*>
Не дадзеланная. Гавораць: не дадзеланая казка бывая і не дадзеланая песня. Ета ўсё калісь... Пачынаіш песню, дак пей усю, штоб яна не была не дадзеланая... І дапеваіш. Песні ўсі красівыя. У міне німа песень, штоб я яе не любіла. Я ўсі люблю.

**Паглядзіш, на чом свіння хвост носіць**.
Станя ёй гадоў чатырнаццаць-пітнаццаць... А дальшэ гады і спрашываць ні нада. **Паглядзіш** тады, **на чом свіння хвост носіць**. Яна скажа: “Ета – *дваццаты век* ваш... Закрыйцесь!”

**Па гулях хадзіць.**
Наша матка на нас усё будзя казаць. “Мам, пойдзім пагуляіма”. Яна: “Вы б толькі **па гулях**, гулі, **хадзілі**...”

**Пад адкрытым небам (жыць).**
<*Вы сказалі:* “**Пад адкрытым небам жыву**”. *Калі так казалі?*>
Ну, як німа ні хаты... Нічога... У чылавека... **Пад адкрытым небам** начуя...
<*Вы сказалі пра сябе:* “За вярёвачку дзёрні...”>
Ета запор?.. Гавораць: “Ета такі запор... **Пад адкрытым небам**...”

**Пад аткос пайці.**
Ужо негодны нікуда. Во напіўся... Вот як нап’ецца... Мельчыха прыдзя і кажа: “Мой ужо **пад аткос пашоў**”. Ета ўжо ўсі знаюць, што ўжо выпіў дзесь харашо.

**Пад балдой.**
Пенсію палучыў, сядзеў **пад балдой**. Ну, п’яны...

**Пад бяду дак бягом падбягу.**

Кажаць: **“Пад бяду дак бягом падбягу”.** І рад бы вот... Проста цягня чылавека... Ці Бог дае... Рад бы ня дзелаць... Цягне, да ўсё.

**Пад дымам.**

П’яны – вот табе і **пад дымам**. “Ідзець ўжо **пад дымам**”.

**Пад еўру → Як валы.**

**Падкалупываць да жывога → Як катоў, ганяць.**

**Падкоп дзелаць.**

Яны пад Парукава **падкоп дзелалі**... Пісалі... Перва ў раён пісалі... Збароўскі сказаў: “Ідзіця!.. Заяўкі мне ні нада... Бачу, што калхоз Парукаў *падняў на высокаю точку*”. Яны пачалі пісаць у Гоміль, тады ў Мінск, у ЦК...

**Пад натуру.**

<*Вы сказалі:* “Я люблю купіць сама сябе **пад натуру**.>

Вот купі такоя, што ты ня любіш… У мяне адно плацця, Туся прывязла, і не люблю яго дажы надзеваць. **Пад натуру**... Штоб ты надзяваў... Кажды б дзень надзяваў. Яно наравіцца так.

**Падняць на высокую точку → Падкоп дзелаць.**

**Пад рюмаком.**

Дзед калісь Майка прыдзя к нам... Ён жа любя... Матка: “Ты сёдні ***пад рюмаком***?” А ён будзя *навесяле*... “Пацягнуў, Палашка”.

<**Пад рюмаком** і **навесяле** – адно і тое?>

Хоць – *навесяле*, хоць – **пад рюмаком**... Ета адно... Ета знай, што нецвярёзы чэлавек.

**Пад чадам → Бельмы заліць.**

**Падымі полку, да паглядзі там толку.**

(а) Во падымі бабі андарак, да паглядзі там што. Я усё свайму малому гаварю, будзя хадзіць, я кажу: “Німа грошай”. – “Баб, ну паглядзі-ка, там, у кармані, пацапай, можа. Я гаварю: “**Падымі полку, да паглядзі там толку**”. Німа ні чарта. Німа грошай.

(б) Ты б гаварыў: “Здзелаць што-нібудзь”. – “Да я толку ні дабяру, як яго здзелаць”. – “**Падымі полку, да паглядзі толку**”.

**Пайці на ўсе чатыры стораны →** Штоб (твой) чорт вышы (на версі) быў.

**Пайці па швам.**

(а) Яна **пайшла па швам**. Блядаваць ужо пайшла...

(б) Нэля пойдзя... Баба: “**Пайшла ўжо па швам**”. Гаворяць, загуляя...

(в) Ён свехсрочнік быў, прыехаў, правёў яе колькі, у вотпуску пабыў... Прапаршчык... Ажаніўся з ёй... Аставіў... “Ну, мне куды цябе дзець. Еслі дадуць там якую-небудзь... (Там салдатам давалі кварціркі.) Дак я прыеду і забяру”. А яна **пайшла па швам**. Свякруха прышла: “Прыкраці! Аляксей еслі дазнаіцца, і я скрываць ня буду...”

(г)Ужо **пашла па швам**. Дак бабы і пачынаяць... Бабы знаяць... Німа ўжо позна: “Ета ноч ўцяшалася... **Па швам пашла**...” І мы так... бабы гаварылі, і мы гаворым так:

"Нэля ўжо па швам пашла..." – "Нет нікому дзела. *У мяне свой чэймадан, каму хочу таму і дам.* Ета ў яе первая прыказка была. Нет нікому дзела.

(д) Запіў, дак ета кажаць: "Ето ўжо **па швам пашоў**". Ці гуляшчы які... На любога можна сказаць... На харошага ня скажаць.

**Пайці прямым саабшчэніем → Як штык.**

**Пайці ўрозмазь.**

*Чалавека відна па славах*. Вот ён гаворя бряхню. Ужо ж чутна, што ён ужо брэша. Во наш Сяргей пачане... Я яму гавару: "Закрыйся! Ета ты ўжо пайшоў у розмазь".

<Што значыць **пайшоў урозмазь**?>

Ну абы што ўжо гаворя. Казала баба наша... Наш Ягорка быў, ён ня любіў урозмазь кашу. Счас кашу зваряць, ён ложку возьмя, прыдзя... Баба памяшая: "Ну, во кашка зварылась... " На прыпячак становя. Ён счас падойдзя: "Баб, выцягні кашу!" Гадоў восем яму была. "Нашто кашу выцягіваць?" – "Выцягні! А то счас буду крычаць на ўсю хату!" Яна: "Што, наліць кашы?" – "Без цябе знаю!" Ложку возьмя, паварачыя: "Еш сама! Урозмазь я есць кашу ня буду!" – "Дзеўкі, будзіця есць урозмазь?" Я буду казаць: "Еш сама. Ты наварыла, дак еш сама. Мы ня будам. Налей нам жыдкае". Яна тады малака...

Яна не густая, ні жыдкая – **урозмазь**. А туды малака валле, жыдзей здзелая... Ета нам харашо. "Ідзіця пакушайця". "Вот, баб , ета мы будзім есць".

<*Каша – зразумела, а* гаворыць **урозмазь**...>

Абы-што гаворя.... Ета – як каша ўрозмазь.

**Пазавідываць можна**.

Ну, Насця іхняя – вылітая матка... Красівая... Маруся ні так і Танька ні так. А Насця іхняя красівая была... Такая талковая, будзя гаварыць табе... **Пазавідываць можна**...

**Пайшло дзела у ад →Які сшыўся, такі і падзяруся.**

**Па(ём ды інш.) і сабака б не забряхаў.**

(а) Па маёй бядзе **і сабака не забрэша**. Каму я ўжо нада? Я нікому ня нада. Ета маладых жалка. А такіх, як я, ніхай валяцца. Па сем грабоў у дзень – старых. Здароўя німа. Сілы німа. *На чорта* мы жывом?

(б) Па ўрэдным чылавеку... Ці пайшоў... Ці куды... "А, **па ём і сабака не забрэша**!" Па харошых дак журяцца, а па такіх...

(в) <*Па кім сабака не брэша?*>

Наш Валерык памёр. Ета праўда. І вот людзі ж ходзяць. І ён вышоў і: "У-у-у!.. У-у-у!.." – выя. Ішчэ да етага... Жывы ён быў... У бальніцы. І ён выя, сабака наш. Яны гаворяць: "Варька, твой сабака выя". І атняслі... Назаўтряга німа сабакі... Мы абед... Ета трэцці дзень быў... І пашлі туда Гарык із Любай, Туся... Свае... Прышлі на кладаўё... Сабака ляжыць кала магілы. Мы гаворым: "Ну, чаго ты тут ляжыш?" А бальшы Сяргей гаворя: "Палядзі, як у яго слёзы на вачах". Во магілачка Валерыкава, і ён ляжыць, слёзы капаяць із вачэй. Панімаіш? Сабакі, яны чустваяць і знаяць. І як німа, гаворым: "Ён ужо там". І Буханіха там жыла блізка, дак кажа: "Ідзець сабака..." А ён яго, можа, з-за етага... Ідзець, вуды бярэ: "Друг, пашлі!" І пойдуць ці ў Цапіла, ці ў Грэбільку, ці на канаву... І яго бярэ... І накормя яго там ўжо. Гаворя: "Я перва сабаку накармлю, а тады ўжо што злаўлю сабе". Дак, можа, за етага. Дак Буханіха гаворя: "Нада такому вумнаму быць. Сабярэцца... Палядзіма... Ідзець-ідзець, голаву апусціўшы... Пашоў на кладаўё. Выліжыцца там..." Вумныя ё і сабакі...

**Пакласць у карман → Чорт папа жэня.**

**Па коллю рэсць.**

Сказала матка: “Еслі хто на бабу скажа... Ругнецца... Ці бабу не паслухая... Я за матку буду вам *чэсць аддаваць...* Вы знаіця якую...” Яна тады не шчадзіць... *Аборай адчысця...* “Будзіця знаць, як у дзісцяпліні... А то бацькі німа, дак вы будзіця ***па коллю рэсць...***”

<*Па коллю рэсць* – гэта як?>

Ну, як колля стаіць... Над ім ніхто не камандуя... А вы штоб зналі... Штоб мне за вас стыдна нідзе не было”.

**Па крайняй меры → Счоту німа.**

**(Пакуль што-та адбудзіцца), дак і рак на гарэ свісніць.**

(а) Пакуль я дайду, **рак на гарэ свісніць**. Таму шта рак... Ён жа ня скора ходзя.

(б) Пакуль мяне даждзешся, дак і **рак свісня**. Не магу скора хадзіць.

Яшчэ гаварылі... Як пасылая баба куда Тусю нашу: “Туся, ідзі туды...” – Сечас!” Яна будзя казаць: “Тусечка, цябе *толькі па смерць пасылаць*. Дак бы чылавек уволю б нажыўся, пакуль ты па смерць... Ня скора...”

(в) Калісь усі казалі. Вот: “Баба, пойдзіш у Закружжа?” А яна гаворя: “ Мая ўнучачка, пакуль я дайду да тога Закружжа, дак **і рак свісня”.** – “А ці яны свісцяць?” – “Вот то-та ж і яно, ён ня свісня, а я не дайду”.

**Палец а палец ня біць.**

Як яны ў горадзе жывуць... **Палец а палец ня б’юць**... Ну, зваряць сабе, пад’ядуць – і на бакаўца.

**Палец смактаць → На шампанскім прапіўшы, на спічках не збярэш.**

**Палкай не шыбнуць.**

На плойму... Плоймы багата бягаць у “Стряле”. Яны ж знаяць, кажды зная, лучшэ гатуяць, а плойма ета: “Ну, скора будзя “Стряла?” – “Кароў падоім, выганіма, сходзім на поля...” І начынаяць *“Стрялу” вадзіць*”. А плойма ўжо паначыкеніваіцца, празнічная ўсё панадзяюць. Ідуць бальшыя, і яны ўслед. Госпадзі! Цьма іх – дзяцей тых! І вот ідуць, яны ж хочуць усюдых дазнацца. І яны наперядзі і ззадзі, і “дзед” і “баба” наперядзі. **Палкай не шыбнуць** у тую... Іх сільна многа. Ета ж адзін-два, як ціпер, па аднаму вышчаняць, да і ўсё. А тады ж, па крайняй меры, у кожнай сям’е па восем душ, да па дзесяць. Па вуліцы бегаяць дзеці. Калісь кала нас лаўжы – галлё вазілі, брусы такія тоўстыя – бярэзнік. Із галлём вазілі і лаўжы. Тады ўжо галлём топяць печ, што б не жарка дужа было, топяць, абы чыгуны варылісь. Дак мы на тым галле... І калісь абедаць... Матка на бабу: “Ідзі, гукай дзевак”. Баба тая прыдзя: “Ой, вас тут сабралася – **палкай не шыбнуць**!” Ета ўжо сільна многа. Там плоймы з усяго сяла – **палкай не шыбнуць**. Яны калі із тога краю прыдуць, із етага. *Божа мой*! У “Мечыка” гуляім, і кажды хоча. Саседка прыдзя к нам, я гавару: “Дзе Алёна?” – “Такіх, як ты да Алена – дак **палкай не шыбнуць**! Вон на вуліцы цэлая атара!”

**Палкі не перясёк.**

Нікалі **палкі не перясёк**. Будзя спатыкацца, на дарозі будзя ляжаць, і ён не перясячэ. Ты падымі. Ты к парядку пастаў палку тую. І перясячы, і спалі, як будзя ляжаць. А ён пераступя і пайшоў. Яму ета ні нада. А ё мужчыны: ён табе ідзець, ён бача наперядзі, як нада здзелаць. Ён табе і палку перясячэ, і цвет пасодзя, і гряду пасодзя. Вот ета – хазяіны! Усі так гаворяць, і калісь гаварылі, я так гавару. І калісь баба казала: “Дзетачкі, ляжыць палка ці што-нібудзь, бачыш, яна не к парядку, вазьмі яе, прыбяры,

штоб не мяшала”. А ў нас у адных, калісь было: пакуль у калідор у тэй прыдзіш, дак *можна галаву звярнуць*. А ў харошага ўсё ў дварэ будзя чыста.

**Пальчыкі абліжыш.**

(а) Яна паднясла – **пальчыкі абліжыш**. Усё ўкусна гатуя. Ета калісь ўсі: “Што ты зварыла?” – “Ой, **пальчыкі абліжыш**. Смашна”.

(б) <*Вы сказалі на малога:* “Ён згатуя, што **пальчыкі абліжыш**”.>

Вот смашна здзелая што-нібудзь... Смашна... “О-о-о, ты ўжо згатавала... **Пальчыкі абліжыш**...” Ці драчонаў спячэ... І з салам... Ціперяка катлеты, а тады драчоны былі... Ішлі ў ход...

(в) Ты ўмеіш гатаваць, і наш умея малы.... Ён **пальчыкі абліжыш** іздзелая...

**Памёр, загніў і ляжы, Максім → Царства нябесная.**

**Памінкі да ўгодкі для сваёй глоткі.**

Вот дзелаяць памінкі па мёртваму. Ну, ці ён есць? А ўсё – у сваю глотку. Усё казалі: “А-а-а! **Памінкі да ўгодкі –да ўсё для сваёй глоткі**”. Правільна. Мяртвы ж ня з’есць. Ці ён прыдзя есць? Калісь баба наша: “Дзеці! Бацька прыдзя на Радзіцілей. Садзіцеся на печы і глядзіця хто – цераз комін, хто – за грубай”. Сядзім, сядзім – і бацькі німа: “А дзе бацька?” – “Ён палядзеў на вас, да і пайшоў”. Ета так дурыла нас. А бліны? “Ешця бліны!” Ужо пячэ бліны на Радзіцелей. “Ешця! Ета бацькавы бліны”. А бацька ж ня есць і ні прыходзя. На Радзіцеляў баба ўчыняя багата бліноў: Радзіцілі прыдуць, штоб каждаму па бліну была, пасчытая – усіх: і дваюрадных, і... Матка і кажа: “Ну, куды ты, *як на свадзьбу*, напякла?” – “Няхай! Паядзіма!” І паядзім за дзень.

<*Яна лічыла жывых ці ты , хто памёр?*>

Хто памёр: для тых толькі пячэ.

<*А елі вы?*>

А елі мы. Вот табе, і гаворяць: “**Памінкі да ўгодкі, а ўсё...**” Матка і будзя казаць: “Ну, во напякла бліноў! Мёртвыя не ядуць!” Мы: “А чаго не ядуць?” – “Ета ж матка паддурыя”. Баба апраўдаіцца: “Ета матка паддурыя. Яны прыдуць: хто панюхая, там іх накормяць, а яны – хто панюхая, хто трошкі адкуся”. І баба, як пячэ, трошкі атломя, сабе ў рот укіня. Наш Ягорка калісь казаў: “Баб, я яго есць ня буду! Ці кот, хтой-та?” Яна гаворя: “Ета ж бацька сабе трошкі атламіў”. – “А бацька! Дак буду есць”.

**Паміраць сабірайся, а палоску (жыта) сей.**

(а) **Паміраць сабірайся, а палоску сей**, штоб галодны ня быў.

(б) Гаворяць: “**Паміраць сабірайся, а жыта** сей”. Паміраіш, а ўсё адно дзела дзелай. Сёдні здзелаіш, заўтря ня будзіш. Гаворяць: “Жыта сей...” – “А я паміраць ужо буду... Я ўжо слабы...” А вісна падойдзя, а жыта ўжо не пасеіш... І хлеба...” Ета лодыры...

(в) Кажаць: “**Паміраць сабірайся, а жыта пасей**...” А, бывае, не памрэш...Сабіраіцца: “Во ўжо саўсем!” А, бывае, не памрэш... А есць жа хоча... Калісь Мельчыха гаворя: “Варячка, ідзі ты мне цыбулькі пасадзі...” Я кажу: “У мяне цыбулі багата... Хваця і табе...” Баба там жыла... Дзеці памёрлі... Мельчыха... А Кішваронiха, цётка яе сядзіць, да і кажа: “Варячка, ідзі... Яна ж туда не дайдзя... Ідзі, дома пабудзь, прыдзі, скажы: “Пасадзіла грядку табе цыбулі... А то ж яна мне ўзвідзе і зноў: “Пасадзі, цётачка!..” На сваю цётачку, бацькаву сястру: “Цёць, пасадзі ж з Варячкай цыбулькі! Штоб была цыбулька ў мяне свая...” А паміраць ужо сабіралась... Я прышла... Яна: “Дзе ты была? Цыбульку пасадзіла?” – “Пасадзіла...” – “Во дак ета ў мяне будзя свая... Пайду пёрушак нарву...” І тая цыбуля ішчэ ні ўзыйшла і бабу ўгробілі... *На тый свет загналі..* Дахтары... Укол далі...

**Па мітусах іціць. Па старцах іціць.**

А тады ўжо сталі хвацеры... Вот ты жывеш бедна... Бульба... Там... Ці выгаря ў цябе на агародзе... Яна счытая, што яна не пражыве... Бульбы ня хваця... І голад... Яна не пражыве на сваём, колькі там накапая бульбы. Вот скажа: "Па пуду бульбы, ці па дзве каробкі". Скажа: "Хочыця ка мне хадзіць – па дзве каробкі бульбы..." Ты дзве каробкі бульбы нясеш, і я дзве каробкі – вот ёй ужо чатыры каробкі. І сколькі дзевак. Бабы ходзяць гуляць... Бабы замужнія, ета ... Яны ідуць... Хвацера нанята дзеўкамы. Іграяць. Яны там сядзяць кругом, слухаяць, глядзяць. Ета называіцца: "хвацера". Туды і хлопцы, і дзеўкі ішлі.

<*У Каляды ці калі?*>

Начынаяць з Піліпаўкі і да Паста. Бальшыя хадзілі, там прялі, вышывалі... Бальшыя дзеўкі, каторыя замуж гатаваліся.

Сказала матцы пра бульбу, дак яна мне гаворя: "Самым нада **па мітусах іціць**. Ні дам я табе бульбы".

Хто гаворя: "**Па мітусах іціць**".... Хто: "**Па старцах іціць**".

**Памяняць бык на індыкі.**

(а) Вот гаваряць, жонку ты ўзяў другую... І цяпер ё такія... Памяняя харошаю... Думая: "Ах, тая лучшэ!" А там... **Памяняў быкі на індыкі**. Ета пасловіца скрозь ідзець. Другі жонку кіня... "Такая-сякая!.." Абсудзіць ні за што, як ня ўзлюбіць... А возьмя ішчэ худшую, што яна будзя камандаваць...

(б) Калісь бульба... Скацерку расцеляць... Худзенькаю... У міскі не насыпалі... Адна міска была... Высыпаяць пасярёд стала... Расол з гуркамі стаіць, капуста... Наша Туся пакуль палядзіць... Тую возьмя, пацапая, кіня. Баба будзя казаць: "Тусячка (ці на Ягора, ці на мяне), **мяняіш быкі на індыкі**. І то ж такая бульбінка, як і ета". І тую самаю: "Ой, баб, праўда!" Вот табе **і быкі на індыкі**.

**Паняў, чым дзед бабу ганяў?**

К любому разгавору гаворяць.

<*К любому разгавору – гэта* як?>

Вот будуць гаварыць, паспоряць. Што-нібудзь адзін аднаму даказыяць. Ну, і гаворяць: "**Паняў, чым дзед бабу ганяў?**" – "Паняў!" – "Дак ня спорь са мной".

**Паняція ня імець → Рука  руку мыя.**

**Па паясок (паясочык).**

(а) У нас была Куцая Танька там, прыдзім на работу... Яна свінней даглядала, а мы кароў даілі. Яе дачка са мной ўряд даіла. І я з ёй дружыла, з Валькай. Ой, Валя! *Лёгінька дыхніс табе.* Прыходзя Валька ўранні: "Цёць! Сёдні я ноч не спала!" – "Чаго?" – "Матку рятавала". – "Дак што з ёй такоя?" – "Абажралася бульбы. Бульбы зварылі ўвечары, да туды сала разжарылі, трошкі цыбулькі туды, да патаўкла. Астаецца. Жалка ж свежаю кінуць. А тады ходзя, крычыць на ўсю хату. Распірая жывот у ёй". Я гавару: "Дак што, памірала матка?" – "Ну, **па паясок** нажралась ужо". У цябе жалудак тут. Вот па самы... Ямачка тут ё. Вот пад самы жалудак. Астаецца толькі гарлянка.

(б) Калісь казалі: "**Па паясок**". Я табе пела песню пра сінічку. Ета калісь баба пела. Вот сядзіць і пяе. Калісь казалі: "**Па паясочык** пад'елі. Вот у песні і то гаворяць: "Пцічка з'ела каласочык, натаптала брюшка аж **па паясочык**..."

Паляцела сінічка
У поля па пшанічку.
Ляцела, ляцела,
Села, пасядзела,
Трошкі аддыхнула

І ў палёт махнула.
І нашла сінічка
Ды многа пшанічкі.
Села на каласочык,
Давай малаціці.
Склявала сінічка
Да весь каласочык,
І наела брюшка
Аж **па паясочык**.
Хацела злавіць мошку,
Паламала ножку,
Хацела ўзлятаці,
На ножку не ўстаці.
Сінічка пішчала,
На помач пцічак звала.
Падляцела к сінічкі
Сівая варона.
Склявала пшанічку,
Склявала і сінічку.

**Па первае чысло.**

Дурная **па первае чысло**... Як харошы чылавек: "Харошы **па первае чысло**... Ой, ета **па первае чысло** чылавек..." Можна сказаць, гаварылі так: "Ты дурны **па первае чысло**...."

**Па позыках бегаць.** Гл. таксама: **На шампанскім прапіўшы, на спічкам не збярэш.**

.Пазычаць. Вот прыдзя: "А ну-ка, пазыч!"

**Папоўскага рукава век не насыпіш → У папа рукаў шырокі.**

**Папоўскі рукаў → У папа рукаў шырокі.**

**Папрывучываў чорт дзьявала.**

Адзін тут п'яніца ходзя закурыць. Прышоў пазаўчоря: "А дзе Сярёжка?" Я гаварю: "Нашто ён табе?" – "Да, у мяне дзвесці рублей не хватая. Мне нада купіць што-та". Я гаварю: "Ты папрасі магазіншчыцу. Хай табе *дасць на веру*". А ён гаворя: "Не. У мяне там даўгоў ужо багата. Сказаў, што прынясу, да нечым расплаціцца". Дак я гаварю: "Не я ў цябе магазіншчыца. Ты б мне падаў хлеба кусок купіць, я б за тыя грошы, не счытаўшы, у касу. А то вас **прывучыў чорт дзьявалоў**, дак вы і будзіця хадзіць".

**Папу ўсё мала → Сыпіцца (сыпаць), як з рукава.**

**Парушыны ня ўзяць → Штоб (яму) рукі вагнула.**

**Парэзаць на табаку → Восень на серым (рябам) каню ездя.**

**Па сікрэту (сказаць) → Бондарява карова; Еш, пакуль рот свеж; Зямля гаворя.**

**Па совесці → Ад камля.**

**Паставіць сябе → Як звер.**

**Па сцёжкі працягівай (прасцягай) ножкі.**

Гаворяць: “**Па сцёжкі працягіваць ножкі**”. Вот грошай німа... Калісь наш Сяргей: “Баб, дай грошай!” Я гаварю: “Сяргей, **па сцёжкі прасцягай ножкі**! Німа грошай – нада эканоміць”. **Па сцёжкі прасцягаюць ножкі**. Ё... А як жа німа, сідзі на месці.

**Пасчытаць рэбры.**

Калісь усе казалі, і матка. Як правініся, матка і гаворя: “Глядзіця, а то **пасчытаю** ўжо **рэбры**, дак будзіця знаць”. Мы ўжо знаім, лупасіць будзя аборай – **рэбры пасчытая.**

**Па хвасту ўдаряць.**

Сяргей сказаў: “Я сказаў: “Еслі там **па хвасту ўдаряць**, вы мяне назад прыміце?” А яму сказалі: “*У абеі рукі прымім*”. Ня то шта скажаць: “Ідзі... Мы цябе ня прымім. Уволіўся. Ідзі!”

Ета гаворяць: “*У абеі рукі. Набрала у абеі рукі*!” Багата ўжо чыго-нібудзь, да харошага.

Усё кажаць: “Што, **па хвасту ўдарылі**?” Што няўдача.

**Пашлі дурака па быка, дак ён пяць прывалачэ.**

Скажыш: “Ідзі... Кружку вады прынясі”. Прынясець кружку... Ня кружку... Коптарам будзя ліцца... Што яна лішняя... *На чорта* яна... Так і ўсяго...

**Пашло на нет**.

<*Гэта як?*>

На звод... Ета ўсі так казалі: “пашло на звод ужо з курямі...” І калісь... Пачануць дохнуць... У адным дварэ адсыпяцца... Тады ў другом... А чаго... *Чорт яго зная*... Ці хвароба такая ходзя... Калісь авечкі... Вот ад чаго авечкі дохнуць?.. Козы, авечкі ня любяць хадзіць у вадзе... Што пасвіліся толькі на бугрыках, на сухом... А папасюць дзень-два на том – усё... Голавы паапускаяць... Будуць іцці, як чуць ня ўпадуць... Заводзяцца нейкія на лёгкіх цярэшкі... Ці на печані... Вот табе... *Галава дурная*... Забыла... *Галава дурная...*

<*Чаму вы сказалі* **галава дурная**?>

У мяне ўжо *галава дурная...* Забываю ўсё...Розум цяряіцца... Усі так казалі... Што-нібудзь палoжа, ходзяць: “Во галава дурная – паклала, да ня знаю...”

**Пашоў і паехаў (ня ўдзержыць) → З грязі залезя ў князі;Рябінавая ноч.**

**Пашоў, як праваліўся → Пашоў, як удавіўся.**

**Пашоў, як удавіўся.**

Калісь пойдзя Туся, пашле куды матка, яна пойдзя да суседзяў, гуляя ў іх. Калісь кросны матка тчэ, а Туся ня ўмела кросны ткаць, да ішчэ якія мы былі, дак другоя дзелалі. Матка гаворя: “Во ўжо цэвак німа, цэўкі нада сукаць!” А яна як **пашла, як задавілася**, як *правалам прайшла*. Пайшла, *як праваліласяа*. Німа і німа.

**Паязжаная (прыязжаная) сваха.**
**(Як) паязжаная (прыязжаная) сваха.**
**Як прыязжаны сват**

<*Вы сказалі на курыцу* **паязжаная сваха**.>

Ці ходзіш там, дак: “Што ты, як **паязжаная сваха**?” Ну, прыехаўшая сваха... Як вот **прыязжаная сваха** ходзіш... Ці прыбярэсся, дак паязжаная сваха...

<*На каго так казалі?*>

Вот ты б... Ці на мужчыну гаворяць: “Здароў! Ты ўжо сёдні, *як прыязжаны сват*!..” Як прыехаўшы сват... Прыбраўшы... Ці **прыязжаная сваха**...

<*Чаму так казалі?*>

Сваты ж прыязжаюць усі прыбраныя.

<*Чаму вы так на курыцу сказалі?*>

Ну, бачыш, ходзя па хаці, як **паязжаная сваха**. Ніхай сядзіць у вядрэ. А яна сюды прыляцела...

<**Прыязжаная** *ці* **паязжаная***?*>

Ці **прыязжаная** ці **паязжаная** сваха. Вот ты ідзеш калісь на астаноўку... Сустрякаюць уранні, ці за вадой ідуць, ці ваду нясуць: “Куды ўжо, **паязжаная сваха**, паедзіш?” – “А паеду ў Ветку”. Вот ета звалі скрозь.

**Пень асінавы.**

Вот пад “Страданія” падпяваць, прыпеўкі... Яны не глядзяць калена. Калі ім уздумаіцца, тады і пяюць. Ягор наш будзя казаць: “Во ўжо – **пні асінавыя**! Вядуць куды папала!”.

<*На каго казалі* **пень асінавы**?>

Хоць бы і на цябе... Пачануць што-небудзь... “Ета дзелай”. А ты другое... Хоць і здзелаіш абы як...Кажуць: “У-у-у! **Пень** еты во **асінавы**!” Ета усі так казалі.

<*Чаму* **асінавы**?>

Асіна – горькая, да ўсё...

**Першая жонка – шаўковая, другая – пасканная, трэццяя –пяньковая (канаплёвая).**

Гаворяць: “**Первая жонка шаўковая, а другая – пасканая, а трэццяя**...”

**Першая жонка – шаўковая, а ўтарая – пасканoвая, а трэццяя – пяньковая**. Яны ж цяперь *на ражон лезуць*, а раз харошая жонка первая, нашто яе мяняць –жыві на здароўе.

Канаплёвая – крэпкая. Ужо ж ні лёну чыта. З іх вярёўкі... Мычаць... Іх памнуць, ні трэпяць ужо... Павытрусяць, цурбалкі павыпадуць, а тады... Еслі прясць... Еслі вярёўкі віць... У нас дзед адзін... Вярёўкі, вожкі віў...

І пра жонак гаворяць: “**Первая – шаўковая, другая – пасканая, а трэццяя – канапляная**”. Із канапель ткуць палаценцы... Уцірацца... Тканыя палаценцы... Яны белыя, мягкія.. Пасцілкі пад бок... Ціперь прастыня...

<*А з пасканей..?*>

З посканяў – вярёўкі, вожкі...

Усё калісь казалі: “Посканям буду снаваць, а пянькой буду ткаць”. – “Чым жа будзіш ткаць? Лёну ж німа”. Дак: “Пасканыя ці пяньковыя”, – будуць казаць. “Табе сарочку якую шыць?” А хоць будзя мужчына: “Ты мне ўжо дала...” Калісь у нас адзін быў, адна сарочка, у бані пабудзя, жонцы і кажа: “Дай перядзець! Што я табе дам! У цябе адна сарочка...” У дзеда адна сарочка... Дак ён: “Што ты, яна ж ад грязі стаіць, як пяньковая!” Ад грязі... Значыць, яна такая крэпкая і грязная.... “Навыварат надзень!” А путныя бабы, хоць і адна сарочка, загадзей пасцірая і над духам высуша. Но толькі штоб мужыку даць мягкаю сарочку. Выкачая на качолку... Ціпер жа на качолкі... Я дак толькі палаценцы, а то на качолкі і штаны, і сарочкі, і бабскія, і дзяціныя сарочкі і штаны – усё на качолкі. Ён мякінічкі, *хоць у вуха* ўлож.

З поскані ўціркі ткалі. Тады *палаценцы* ні казалі, а *ўціркі*. А з пянькі вярёўкі, яны крэпкія, тады ж і лес вазілі.

Усё Мелька казаў: “Пасканная ты, пасканная! – На сваю Мельчыху. – Памёрла мая Насцічка...”

**Перябіць хлеб →Як убіты (спіць).**

**Перявярнуць дуба дагары.** Гл. таксама: **Агонь разлажываць.**
**Дуба да гары глядзець.**
Як пачнуць ужо шукаць, дак **перявернуць дуба дагары**.
**Дуба дагары гляжу** (кніжку ўверх тэкстам.)

**Перягаварываць небыліцу → Лясы тачыць.**

**Перясол на спіне, а недасол на стале.** Гл. таксама: **У каждам сяле па чорціку і ў каждай сям'і па чорціку.**

(а) Вот звары боршч і не дасалі. А я сяду і скажу: "Не дасолена. Не пасаліла. Укусу німа". І ты пасоліш, но па-свойму. А я буду гаварыць: "**Недасол, дак на стале, а перясол на спіне**: "Нашто перясаліла!? А недасол – вон соль! Бяры!" І баба наша казала: "Дзетачкі, колькі будзіця жыць з мужыкамы, лучшэ не дасаліця і ў разгаворы, і ў сварцы. Уважця".

Так усі казалі. Калісь Крыўцовы, прыду, суседзі, мужык урэдны быў, на Яўгінню, на цётку: "Во! Не пасаліла!" Яна будзя казаць: "**Недасол на стале, а перясол на спіне**! Калі б перясаліла, усі б ня елі баршча. Падсаліця... І паясцё. А як бы перясаліла, нада выліваць – есць нільзя".

<*А чаму на спіне?*>

А палкай улупяць ці *кухталя* якога *дадуць* па спіне.

"Баб, ты чуіш, як Дзюбіха з Насцяй сваряцца?" Чуць ні час у іх канцэрт ішоў. Адна другой дасалія. Адна другой не ўважа.

(б) У сварцы "не дакары" – кажаць... І яно пройдзя, забудзіш і не будзіш памінаць. Кажаць: "Не дакары, не дасалі ў сварцы. Лучшэ ўваж".

(в) Баба казала: "Шавец сядзіць, глядзіць, кроя рукамы, шыя гузікі, глядзіць. Свякруха солі ўзяла, пасаліла боршч. Нявестка пахадзіла, пахадзіла... На тую салёнку: "Боршч не салёны. Наверна, не саліла матка". Не пакушала нявестка, ложку узяла... А ён сядзеў, сядзеў, да і гаворя: "Свякруха пасаліла боршч, нявестка пасаліла. Чаго ж мне не пасаліць?" Ета ён расказываў. "Дай я!" Нявестка са свякрухай штось ужо не паладзілі, не гаварылі. Я і думаю: "Мая ложка тож не лішняя". Падышоў, ложку зачэрпаў і пасаліў той боршч. Селі есць, і ён жа, шавец, тожы з імі сядзіць, есць. Пакушалі. Мужык кажа: "Хто саліў боршч?" Свякруха кажа: "Я". – "Ета ж ты столькі насаліла?" А яна: "Ложку ўсыпала". Ён і кажа на нявестку: "Тут ложкай не пахня. Варка, ці Адарка, саліла ты?" Яна: "Я ложку тожы пасаліла". Ён: "Да тут жа нільзя к роту паднесць, такія салёныя!" Шавец сядзіць, гаворыць: "Да і я ж пасаліў. Бачу, жонка пасаліла, нявестка пасаліла. Думаю: "Чаму ж і мне не пасаліць? Я ўжо, наверна, пасалю дак пасалю". І боршч той вылілі. І ён на шаўца гаворя: "Не ў сваё дзела ня лезь! Хай соляць, як хочаць. А вы пытайціся адна ў аднае, ці сварыцесь, ці сердзіцесь, пытайціся: "Саліла ты боршч?" А так аборыч узяў, калісь аборыч вісеў у каждым дварэ: што ні так – аборай. Ён узяў і давай: "Во табе!" **Перясол на спіне, а недасол на стале**.

**Песнямы сыт ня будзіш**.

Баба казала: "**Песнямы сыт ня будзіш**". І матка, і ўсі так казалі... І будзіма сядзець на дварэ і пяёма з Тусяй... Дак баба выдзя: "Дзеўкі, песнямы сыты ня будзіця... На агарод шуруйця! А там пейця..." Вот мы пойдзім туда, пяём... Еслі пяе Алёна Краўцова там ўжо на агародзі... Поля, пяе... Са мной гуляла, мая таварышка... Яна пяе... І мы з Тусяй... Гаворым: "У, такая-сякая, ужо пяе ўперяд нас!" Мы начынаіма... А Ліда на еты бок жыла... Будзя на агародзі палоць, чэряз прясла перялезя і кажа: " Буду я з вамы... І давайця глядзець, штоб баба... А то баба прыдзя, будзя *воталь падымаць*". Баба Куліна... Скажа: "Ня поліш, а пашла туды..." А калі загледзімся... Пяёма... Наша баба

прыдзя... Нічога... Вот ужо баба была... Золата... “Дзевачкі, вы пейця, пейця, да нада ж палоць... “А тая прыдзя: “Ліда! Не глядзіць!... Толькі зная, пашла на агарод на чужы... А вы глоткі тож не разяўляйце...” – на нас с Тусяй...

<*Ваша ж баба любіла спяваць...*>

Яна з маткай... Матка прядзе... І баба... І яны прядуць... Усё баба казала: “Вазьмі, мой дзіцёнак, заводзь песню, якую табе нравіцца...” І будзя казаць: “Тады спарней работа ідзёць, як пяём...” І мы кажым: “Баба, спарней жа работа ідзёць... Ты казала..” – “Ну дак, сматря... Работа...” Проса таўком і песні пяём... Рассыпаіцца... Забудзім... Што нам тое проса...” Туся сто раз... А тады я сто раз... Пароўным... Счытаіма і песні пяёма... А Ягор будзя сядзець: “Рассыпаіця, такія-сякія!..” Баба: “Дзеці, узяліся за работу, дзелайце... Тады папеяцё!” Я бабу *кажды Бога дзень* памінаю... Хто іх памяне, калі ня мы...

**Печкі-лавачкі.**

“Вы ж з Вольгай, сваёй падругай, усё **печкі-лавачкі**...” Што *дзелаюць умесці, мы з табой, дак* **печкі-лавачкі**.

[**Кужэльная П. С.**:

**Печкі-лавачкі** – асуждаюць людзей. Асуждзеніе счытаіцца. Асуждаяць, улюбляяцца. Хто па якому смыслу гаворя. Вон ходзя туды і туды. **Печкі-лавачкі** там дзелая. Любяцца. А вы ходзіця з Вольгай, як сядзіцё, асуждаіця. Во і **печкі-лавачкі.**]

**Пір на ўвесь мір.**

Ну, ужо багатая свадзьба. Калісь жаніўся ў нас адзін... “Сына буду жаніць, дак здзелаю **пір на ўвесь мір**”.

<*Так толькі пра свадзьбу казалі?*>

Любоя. Ня толькі пра свадзьбу. І ты б хрэсьбіны дзелаў, сказаў бы, як Іван у нас казаў: “Дочку радзілі, здзелаю **пір на ўвесь мір**!”

**Плакаць горькімы слязамы → Чуж чужына.**

**План такі, што дзіця пасадзі, дзіця вырасце**.

Вы калісь гаварылі: “**План такі, што дзіця пасадзі, дзіця вырасце**”.]

Ну, план харошы... Вот, напрымер, у міне на Амяльном быў... Не баяўся ні жары, ні баяўся ні дашчоў... Дашчы ідуць, усё расце... І жара, прыпячэ, дак яно не выгарые... А ё... Як прыпячэ – усё! А тут у Галі... Тут ужо, як мокрае, ета ўжо прапашчае ўсё... Жара... Усё шуруе...

<*А чаму дзіця?*>

Таму шта дзеці... Уход харошы ё... І ё чым і карміць, і ў цёплым, і ў сухом, і ў чыстым... Дак гаворяць: “*На харошым плану і дзіця вырасце, а на плахом і трава ня хоча рэсць*”.

**Плёвае дзела.**

Бацька ж скора памёр наш, аперацыі не перянёс, лопнула язва... Як бы ціпер, дак **плёвае дзела**...

**Плятнём плясці.**

(а) Як пачане бряхаць, дак **плятнём пляце**. А тады прагаворя, тады ўжо ня зная. Бряхня ж, дак яна ж ні лепіцца. Заведушчы прыходзя, да і гаворя: “**Пляцень** прышоў ці німа?”

(б) Калісь Каця Коршунава і я... “Серпіянку” пойдам і падпеваім... Астальныя дзеўкі ня знаяць... Ня ладзяць пад гармонь... Нада пад калена... Штоб пад гармонь... Еслі не ладзіш пад гармонь, дак гарманіст скажа... Як наш Ягор, ён класна іграў, еслі пойдзя

другая... Пець хоча... Ня ладзя... Ён тады кіня гармонь, скажа: “**Плятнём не пляці**... Ты ўжо **пляцеш плятнём**... Ладзіць, дак ладзь!... А ня ладзіць, дак ідзі, стань...Я бунтуюся... Што ты мне пляцеш абы як?”

<*Чаму* **плятнём плесць**?>

Таму шта яна ня ладзя... Пад каждая калена нада словы гаварыць... Штоб ладзіў ты пад гармонь. Не гармонь табе ладзіла... Нада, штоб ты пець падлажыла пад гармонь... А не гарманіст табе, што ты будіш плесць... Калі хоча пачыная пець... А нада ж пад калена...

<*А чаму* **плятнём**? *Што такоя* **пляцень**?>

Пляцень жа пляцецца... Лазой пераплятаіш, кудлычыш... Так і яна плятнём пляце... Пляцень, знаіш, як плятуць... Колікі становяць адзін ад аднаго, тады лазінамы за кожды... Палучаіцца красіва... Ужо ні курыца туды ня пойдзя, ні парасёнак... Хоць і крывы, ён доўга... Па дзесяць гадоў...

<*Дак ён крывы ці красівы?*>

**Пляцень** ён красівы, толькі ён крывы... І возьміш стары... Ён высыхая... Сеч ці ламаць... Яна будзя павілюхамі... Ссохшая... Ужо *рады ні дасі*... Ня выпряміш... І гаворяць: “**Плятнём не пляці**!” І ў нас адна пачане гаварыць... Куды зря гаворя... Што зря гаворя... Дак: “Хто-та пайшоў?” – “Пляцень!” І празвалі... Дзеці бягаць... “Хто-та”? – “Ета – Плецяняты”. І мужыка звалі Пляцень, а яе – Плятніха, а дзяцей – Плецяняты. І карова ў стадзі... Ета – Плятнёва...

**Помаз із’есць.**

[**Кужэльная П. С.**:

Як смяецца хто сільна, дак гаворяць: “**Што ты помаз із’еў**? Помаз – што скавараду мажуць – сала... Ілі ў тряпачцы, ілі на вілцы... “Што ты **помаз із’еў**, што смяесся, аж усцыкаішся?”]

І ў нас казалі... Як толькі, дак... “**Ці ня помаз ты з’еў?..** А то я сёдні шукала, німа помаза”. Ета на тых, хто рагоча бяз дзела.

[**Кужэльная П. С.**:

: Сала на вілцы. А то было... Счас жа на вілку тыкаяць, да мажуць... А калісь у тряпачку салца... Раз, два памазаў, дзірачка здзелалась... Бярэш за тряпачку, да і мажыш... І ён ляжыць пад загнетам.]

**Праборку даваць.**

Я ўчора Томцы ***праборку давала***.

**Праклёнам праклясць.**

Плахі чылавек, што ён табе ўрэд ідзделаў, плахоя што-нібудзь. Ня ўладзіць, да не ўгадзіць, дак **праклясць** яго **праклёнам**. Вот так гаворяць: “Я цябе **праклёнам пракляну**!” А чаго – я ня знаю. Штоб яму плоха было.

**Прапала дзедава кляпала.**

(а) <*Пра карціну К. Пукірава “Няроўны шлюб”.*>

Я ўжо табе не скажу, як яе заглавіе, но толькі пад вянец, там напісана было, што за нялюбага, за багатага аддавалі ету дзевачку замуж, а яна ні хацела. Яе пад вянец, яна ж у хаце, бачыш. А душа ж іе ні прыставала к яму. Ён такі ўжо пажылы, відна, што пажылы, калісці ж па трыццаць пяць гадоў, да па сорак жанілісь. Дак Ягор прывёз мне тую карціну: “Во і табе, і сабе прывёз! ” Дак і ён адрэзаў. Прышоў і кажа: “Глянь, у цібе з цвітамі, дак і я атрэжу!” І ён атрэзаў. Я палядзела, што яна ж ня любя яго, і пачытала еты тэкст напісаны, што за багатага, да за нялюбага ідзець, дак я думаю:” Чаго еты дзіцёнак будзя страдаць? Дай я атрэжу!” Узяла ножні, атрэзала, да цвет усадзіла туды. А тое спаліла. Ка мне жэншчыны хадзілі: “Гдзе твая карціна? Гдзе ты тога старага

дзеда дзела?” Я гавару: “Спаліла! Усё! **Прапала дзедава клепала**! Цвет – во! Праўда, красівей?” Яны гаваряць: “Праўда! А то век мучыцца – стаіць у слязах дзеўка”. А я ліквідзірывала. А з ім, праўда, плоха была б? Карціна не карціна, а любоў жа нада.

(б) Ета як прыказка. Усё гаворяць, як што-нібудзь паціряіш ці ні найдзіш, будуць гаварыць, вот як бы я шукала табе, як песню тую, каторую помню, каторыя з галавы выходзяць, дак шукаяць, шукаяць, а ты будзіш сядзець, да і казаць, калісь дзед Майка : “Не шукай, Алёнка! (Ці на матку, ці на нас.) **Прапала дзедава кляпала!”**

(в) <*Што такоя* **кляпала**?>

Можа, крэмінь. Дзед Іванушкаў калісь прыдзя, закурыць. Прыдзя, жар раздзьмухая, у чалесніку жар выгрябая баба зімой. Ён прыкурываў. А калі прыдзя, грябе, грябе: “Німа, Алёнка, жарынак”. Яна гаворя: “Сёдні ня выгрябала. Сасновыя дровы, дак вугалля німа”. Ён ужо сядзіць, крямяча і крямяча крэмем аб кремем, і ваты дзяржыць. Возьмя ваты, тады крэмінь уверця, іскры ідуць із крэмня, і вата загарыецца, ён скарэй прыкурыя.

**Прапала дзела → У прадаўца здачы, а ў краўца астачы.**

**Прастудзіць (прасвяціць) вочы.**

<*Ягор сказаў:* “Пойдзім, **вочы прастудзім**”.>

Хто гаворя: “Пайду, хоць **вочы прастужу** ці **прасвячу**”. Хто: “**Прасвячу**”. Хто: “**Прастужу**”. “Пайду, схажу... А то ўсё дома і дома”. Управяцца...

<Што такое: **вочы прастудзіць**?>

Ну, атдыхнуць.

**Пратурыць, як сучку → Бегаць упрочкі.**

**Праўду да калены гаварыць.**

**Праўды** мужыку толькі **да калены гавары**. А ўжо які сікрэт, **вышы калена не гавары**. Мужык, штоб жонцы, а жонка мужыку. Патаму шта мужык пасварыцца з жонкай, выкажа. У нас адна была, ета, як толькі з мужыком пасварыцца, дак: “Ты на тога тоя казаў, на тога – тое”. На суседзяў. І будзя *бряхню тарочыць.* Калісь баба наша казала: “*Пабойся Бога*! Нашто ты пляцеш? Табе ж нада і спаць леч із ім, і паабедаць сесць, і работаць. А ты на яго такоя гаворыш”. Нада ўсё скрываць. Пагаварыў, пасварыўся. Жонцы – і той праўды не кажы. Казала Пашка: “Да калена”. Вышэ калена – ета ўжо сакрет, дак не гавары. Мужык можа прадаць, і можа жонка прадаць.

**Прыблудная авечка→ Ня плюй у лужыну, а прыдзёцца напіцца.**

**Прыдзя Пакроў, дак пасабірая ўсіх латроў**.

Прыказка такая была. **Прыдзя Пакроў, дак пасабірая ўсіх латроў**. Скажа: “Дзе вы летавалі? Як будзіця зімаваць?” Ні сеяў... Нічога...

**Прынясці брюха.**

Бацька на яе: “Толькі зная!.. Еслі **прынясеш брюха** ад ... Ка мне не прыходзь... Пряма ў ряку! Тапіся!.. *Туда табе і дарога*!”

<*Калі забярэмініла ў дзеўках:* **брюха прынясла**?]

Да. Каторыя забірэміняяць...

**Прышоў пост – ужо падхіля хвост. → Еш, пакуль рот свеж.**

**Прышчаміць язык.**

<*На каго казалі?*>

Штоб із двара нічога не выказывалі і лішняга не гаварылі. Туся наша, еслі ў дварэ што, пойдзя і раскажа ў чужом дварэ... Прыду к Барысавым, яна: "Вы тое і тое дзелалі?.." – "Хто табе казаў?" – "Казалі..." – не выказывае. Штось пачалі... Ён: "Туся ваша у нас расказвае..." Я прышла дамоў: "Мам, тое і тое... Ужо знаяць людзі..." Матка: "Хто табе казаў?" Я гаварю: "Канаплясты сказаў, што Туся казала". Яна на Тусю: "Твая работа? Дак ета ты ўсё выказваіш, што ў дварэ творыцца?" Штоб з двара нічога не выказваць, і лішняя не гаварыць у чужом дварэ. Вот табе і гаворяць: "**Прышчаміць язык**".

**Пры чорны дзень.**

Бяруць крошачку сала, і ў тряпачку, у чыстаю, у такую кряпчэйшаю, штоб не перягарэла. Нагрэюць скавараду і помазам памажуць-памажуць, тады блін наліваяць. Дак: "Бабачка, дай мне здарку!" У нас баба із-пад кішок лучшы возьме, матка абдзярэ, пасоляць, у трубку. То на помаз, то... "Нечым будзя боршч заправіць і етым..." Дак: "Куды ты?" – "А так... Абы куды". Баба і кажа: "Я табе казала: **пры чорны дзень** астаў".

Німа чым заправіць, дак і тым заправіш. Схавай. "Я, – гаворя, – усягда. Ніхай **пры чорны дзень** ляжыць. Бывая, нечым будзя і заправіць, бярэш здарочык, растаўчэш з цыбуляй".

Як настаня **чорны дзень**, што не за шта купіць і ўзяць негдзе. Штоб не хадзіць і не прасіць.

Калісь дзед Майка на жонку: "Дай-ка пайду куплю сабе чакушку! Дай! Празнік такі! А яна: "У мяне ё трошкі. Дак ніхай **пры чорны дзень** ляжыць. А не табе я дам на чакушку".

**Пуляй ляцець.**

Пуля ж быстра ляціць. І ён выскача толькі так.

**Пусці-павалюсь.**

(а) Ё чылавек – ён усё бача, а другі чылавек – ён хоць і здзелая, дак *цяп-ляп*. Ён ня здзелая толкам, а абы як іздзелая. Так наша матка і баба казала: "Ой! Іздзелала **пусці-павалюсь**". Як дзяржыш чылавека, вот дзяржы – ён стаіць, пусці – ён паваліўся. "Ты ўжо іздзелала **пусці-павалюсь**". І ва ўсём нада, штоб чылавек дзелаў *шык-блеск*, не то шта **пусці-павалюсь**.

(б) У нас там адзін не хацеў работаць ні ў калхозі, ні дома... Адно вакно як здзелалі, дак з адным вакном і хата згніла... "А другія: "Нашто яны мне?.." – Гаворя. – Цямней, дак лучшы..." Дак усё казалі ету прыказку яму... А Папку дзеду нада ўсё... Вокны падзелая... Усё акуратнінька... Вот хазяін адзін жыў… І ў ряд – другі... То ўжо хазяін залаты... А ета ўжо – **пусці-павалюсь**...

(в) Вот такі быў... Скажы, работаць... А такі, штоб развіхнуцца... Штоб быў такі нармальны чылавек... Ён вот такі спакойны... Ён у нас зіму пабыў, сказаў: "Я тут ня буду..." Я гаварю: "Чаго?" – "Тут цяжола работаць.... Там прышоў, рукі паклаў, да ляжы..." Там, у Гомелі, хату паставілі, да грядку... А зямлі ж там німа... Ета послі вайны, вайна кончылась... "Там руіны, да ўсё... Там дзела меней..." І ўсі казалі: "Нейкі недацёпа..." Ён такі... Ці ён ні сабражаў... *Харошы хазяін найдзя работу*... А етаму загадай, пойдзя, здзелая **пусці-павалюсь**.

**Пятрок атрывая лісток.**
**На парозі ўжо вон стаіць святы Пятрок, атрывая ўжо з бярёзы лісток.**

(а) Да Пятра венікі вяжаць. А такія трутні, яны ўжо могуць і ціпер во, як абсыпаяцца. <*Хто вам сказаў, што да Пятра?*>

Ета ўсі людзі знаяць, што да Пятра... Ну, напрымер, Пятро ў скрысенне будзя, што ўжо за етыя дні, штоб на Пятра ўжо венічкі віселі.

<*Чаму да Пятра?*>

Гаворяць: “**Пятрок атрывая лісток**”. Баба казала наша... Ад каждаго лісток... І ўжо пуста там.

(б) Ну, атрывая ветрам. Ён ужо прапападая. Так во ўсё казалі: “**Пятрок атрывая лісток**”. Ета і баба наша казала: “Ідзіця, дзетачкі, да Пятра. А то прыдзя Пятро... Яна ўсё казала: “**На парозі ўжо вон стаіць святы Пятрок, атрывая ўжо з бярёзы лісток**”. Мы: “Хоць заўтры пойдзім!”

**Рад бы ў рай, да гряхі не пускаяць.**

Вот стань, ідзі ў рай, а гряхі скажаць: “Не! Шуруй у пекла!” Так шта буду я ў пеклі. А ты будзіш у раю. Дак хоць райская яблачка мне шыбнеш. У рай папасць, як цяперь у райспалком, не дабіцца.

**Радзі Хряста → Як па белай бярозі (пілой).**

**Рады ні даць. Рады німа**. Гл. таксама: **Плятнём плясці.**

(а) Ну, вот супакой ты яго, еслі ён урэдны. Вот **рады ні даць**... Так гаварылі ўсі. Ці вот кросны ткуць, а ў хаці халодна... Яны ня любяць... Любяць, штоб цёпла была... Ніткі... Дак ужо прышла Козырыха, на бабу і кажа... Баба гаворя ці матка: “Ты ўсё кросны там тчэш?” А яна гаворя: “Ой, **рады ні даць**! Рвуцца ніткі. Як білам етым ударыш, ніткі хлоп-хлоп!” Баба гаворя: “Нада ў хаці натапіць, штоб цёпла-прыцёпла было. Яны ня любяць холоду”. Прышла і гаворя: “Во натапілі грубку ўчора харашо, бярёзавымы дравамы, дак ўжо ні лопаюцца ніткі”. Вот **рады ні даць**...

<*Чым ударыць:* **біламы**?>

Называлі – білы, набілкі. Як тчэш, там бёрды...

(б) Крысы… **Рады не даць.** Дак яна мне мыш’яка давала. Казала: “Сын вецірінарам быў, дак цэлаю пачку прынёс. *Да* маёй *смерці хваця* крыс травіць.

(в) Еслі ў сям’е не васпіталі, школа **рады не дасць**. Я ўчыцелёў не віную. Учыцялёў я віную, што дзевачак знахальнічаюць якія... Дак нада дзісцыпліну імець... Ну, і ўсё раўно – учыцель не прычом, еслі у сям’е дурак зародзіцца.

**Разбітае карыта.**

**Разбітая карыта**. Ета дзірявая карыта. Ніякая ўжо. Што яго выкінуць.

<*Пра што так кажуць?*>

Ну, гаворяць: “Там ні хата, а **разбітая карыта**. Ці што-нібудзь...

**Развяжыцца мех не на смех.**

Кажаць: “**Развяжыцца мех не на смех**”. Сыпіцца зярно адно за адным – развязаны мех. Так і горя. Так і ўсё.

**Ранні верабейка (рання птушка) клювік (дзюбачку, роцік) выцірая, а позні верабейка вочы прадзірая**.

(а) Ну, напрымер, ідзеш ты ў лес: хто раней пойдзя ў лес, ета перваю ягадку найдзя, і набірэ. Тыя набяруць поўныя глячкі, а ты ўжо прыйшоў, там пабрана, туды пойдзіш – там пабрана. *Якога* ты *хрэна* там набірэш? Ці ўранні матка і гаворя... І ўранні печ топяць, баба бліны пячэ. У нас бліны кажды дзень былі: то грэцкія, то ячменныя. Баба і кажа, я ўжо падымуся, яна: “Тусячка, падымайся! Памажы што-нібудзь”. – “Січас!” – дзярюгай накрыіцца і ляжыць. Яна: “Варячка, падымайся”. Усё... Мне болей не загадываюць. Скажа: “Варячка, падымайся, памажы”, – там, бульбу чысціць ці бурак, ці крышыць у боршч качан. Я ўжо ўсё! Ня жду, пакуль баба ў другі раз. Я – хоп!

Паднялася і пашла, дзелаю. Блін іспячэ баба, кажа: “Варячка, за то шта ты раней, дак на: “**Ранні верабейка дзюбачку абцірая, а позні верабейка ішчэ толькі вочы прадзірая**. А яна няхай ляжыць”. І мы з Ягоркам, Ягорка самы меньшы, усё – мы падымаімся, я падымаюся, і Ягорка падымаіцца. Мы ўжо па бліну, хоць па два з’елі, а Туся спіць.

(б) Гаворяць: “**Ранная птушка роцік абцірая**... Яна рана ўстаня, што дзе найдзя, скарэй паесць, а позная пакуль вочы расплюшча, а ранная ўжо пад’ела, сядзіць, песні пяе.

**Распусціць карэння.** Гл. таксама: **Нерабацень святых дней шукая (пытая).**

(а) Села, **карэння распусціла**...

(б) <*На каго кажуць* **распусціў карэнні**?>

Я і на ката скажу... Паляджу... Ляжыць...

<*А калі на чалавека?*>

Калісь брыгадзір, Кушнярычка... Пасядзяць бабы... Ён будзя загадываць: “Ты, ты і ты ідзі туда і туда!” Яны яшчэ будуць сядзець... Ён пабегая, пабегая... Прыходзя: “Што вы **карэнні распусцілі** тут? Да вечара будзіце сядзець?! Марш, штоб я вас ня бачыў на базе! Разыходзцесь!” Сабіраюцца, ідуць.

<*Так можна на любога сказаць?*>

Канешна, на любога... І на ката, і на сабаку, і на чылавека...

<*Вот я сяджу, ну і што?*>

“Ну, **распусціў карэнні**...” – я б табе сказала... Сеў, сядзіш... Абы ты сядзеў... Ці ляжыш... “Ну, што ты тут ляжыш, **карэнні распусціў**?..” На ляжачага, на сядзячага...

**Рассыпала Маланья бабы.**

Калісь, як што ўпусціш, дак усі так казалі: “**Рассыпала Маланья бабы**”.

**Рача, рача, ты куды павалокся? Ты і так перяпёкся.**

Баба ўсё калісь наша казала: “**Рача, рача, ты куды павалокся? Ты і так перяпёкся**”. Вот калісь Ягор надзяецца, яна: “**Куды ты ўжо, рача, павалокся? Ты і так перяпёкся**”.

**Рві і падай.**

Бываяць жа людзі ціхія... А другі табе... Госпадзі... Ён табе... **Рві і падай**!

**Роль (бальшую) іграць.**

(а) Еслі які начальнік... Гаворяць: “Ну, якую ён там **роль іграя**?..” Ці брыгадзір... Ён жа хазяін.... Хоць і ў калхозі...

(б) Ціперяка ходзяць: хрэшчык залаты, цэпачка і серьгі залатыя. А тады ж не. Брошкі... Дырактар прыдзя, гаворя: “Штой-та ў цібе тут такоя!? Січас ідзі, выбрась!” Пойдзіш, жалка ж брошкі. Брошкі такія, у кохтачку: ці цярэшка, ці жучок... Ну, ніхай бы быў. Ногці пры самым целі прырязалі. А ціперяка і з нагцямі ходзяць, і гарэлкі нап’юцца, і куряць. Учыціль, я табе так скажу, **бальшую роль іграя** ў школі. Но дома нада дзісцыпліна.

**Рука об руку ладзіць (дружыць).**

(а) Усім падзяляюцца. Ніхай неўма якоя дзела. Сякретная. **Рука об руку**... Бываяць людзі, суседзі такія... Харошыя.

(б) Наш Грыша ў Маскве. З генералам **рука об руку** дужа дружаць.

**Рука руку мыя.** Гл. таксама: **Звер, ні звер, а і ў два не ўбярэш.**

Дасі ты мне, пазычыш, напрымер, што-нібудзь ці здзелаіш добрая, дак і я табе не адкажу. Дак усё кажаць: “**Рука руку мыя**”.

б) І баба ўсё калісь казала: “Яўгіначка... У нас была суседка... Прыдзя, паругаіцца – то за дзяцей, то... А тады прыдзя: “Баба Алёнка, дай ты мне хоць помаза. А то бліноў учыніла, помаза німа. (Помаз, што скавараду мажуць. Ціперь жа алею валлюць і пякуць. А тады... Алею – паняція ня імелі)... Дак яна гаворя: “Знаіш што, Яўгіначка, **рука руку мыя**. Сколькі ты ў нас чаго пабрала, да і не пааддавала. Клопат. Ніхай. Дак у цябе на адну душу болей, як у нас. А ў нас сем душ, а ў вас восем. І ў цябе і мужык ё. А ў нас ні мужыка німа”. Бацька памёр наш.

**Рукі не паадсыхаюць.** Гл. таксама: **Не ўмея кату хваста завязаць.**

Яму што бацька гаворя, ён гаворя: “У самаго **рукі не паадсыхалі**... Дзелай сам”. Так Прошка казаў на бацьку.

**Рукі не падаць.**

Я за адно дзела, я б яе, калі б наідзіне, дзе канава б была глубачэнная, я б яе піхнула туды і **рукі б не падала**. Я ўсім па людзям журюсь, хто і памрэ, но ў міне столькі зла к ней. Яна ў міне зарабіла.

**Рукі, як у сатаны, калоцяцца.**

Ета ў п’яніц. Гаворяць, і я на свайго бальшога гаварю: “У цябе ўжо, **як у сатаны, калоцяцца рукі**”. Сатана ўсё хоча здзелаць урэд людзям, дак аж **рукі калоцяцца**. Ета баба наша калісь казала: “Сатана – ета чорт. А ішчэ ё Салоха. Баба казала: чорт – ета ўрядзімы такі, ён глаўней сатаны, сатана – та чортава жонка, а Салоха – ета такая, нічога дзелаць ня ўмея, толькі б хадзіла па чужых дворах, да хто пячэ, хто варя – наесца б”.

**Рэшыта бобу.**
**Рэшыта бобу ня стоя.**
**Ці стоіць рэшыта бобу?**

(а) Вот што-нібудзь дзелаіш... Яно ні выходзя: ці выдзя ці не? Ці пячэш... Во я пірягі пякла... Гаварю: “Дзеўкі, выдзя **рэшыта бобу**?” Галя гаворыць: “Даўжно выціць. Дзелала правільна, па рыцэпту”. І баба Алёна так казала, і дзед Майка прыдзя: “Што там баба дзелая?” – “А дзелая... Ці пячэ, ці што... Ці выдзя **рэшыта бобу**, ці не... А дзелаць дзелая”.

(б) Усё казалі, што здзелаіш харашо: “Ці **стоіць** тут **рэшыта бобу** ці не?” Ці купляш што-нібудзь, дак даражэй заплоціш, гаворым: “**Рэшыта бобу ня стоя**...”

**Рябінавая ноч.**

(а) Чось усі гаварылі... Я табе аб’ясніць ні магу. А ўсё гаварылі... Вот вайна была, дак як ляцяць самалёты... Чорт зная, дзе яны будуць бамбіць... Баба: “Дзетачкі, будзьці напагатові, а то, бывая, будуць бамбіць... Прыдзя ўжо суседка, скажа: “ Ой! Сёдні **рябінавая ноч** была, мы сёдні ні спалі... Гудуць... Ці ўцякаць... Ці што... “**Рябінавая ноч** – плахая ноч.

<**Рябінавая ноч**.*Так толькі пра вайну казалі?*>

І да вайны было... Прыдзіма калісь, гуляіма...Матка : “**Рябінавую ноч** іздзелалі...” Баба: “Ідзіця спаць. **Рябінавую ноч** ужо канчайця!..”

<*Чаму так на Сяргея сказалі?*>

Не даваў жа спаць. Вот вазьмі, ты ляжыш спаць, а я буду ўсяк на цябе, што з рота лезя.

(б) <*Вы сказалі, што вы тут аддыхалі, а там Сяргей дзелаў* **рябінавыя ночы**. *Ці Сяргей ведае, што такое* **рябінавыя ночы**?>

Ён зная, што такоя **рябінавыя ночы**. Ён як пачане, я гаварю: “Ня дзелай **рябінавую ноч**!”

(в) [**Грэцкі С.В.**:

П’яны прыходзя мужык, дзебашыр. І ўсе гаворяць: “Ісакавіч **рябінавыя ночы дзелая** жонцы”. Хто гаварыў **рябінавая**, а хто: *усенашная.*]

(г) *Усенашная ноч* – усе ня спалі. Гаворяць, каторы ўжо дзелая крык такі, дак: “Ня дзелай *усенашнаю ноч*!” А *усенашная ноч* – на Вялікадня называяць. Баба ўсё казала: “Дзеці, *усенашная ноч* – ня спяць ніхто. Людзі Богу моляцца”. І баба нікалі ні лажылась. Хто гаварыў **рябінавая**, а хто: *усенашная.* Ета *ўсенашная*... Людзі ня спяць усю ноч. А каторыя ўжо п’яныя, гаворяць: **рябінавая ноч**... Хоць: “*Ня дзелай усенашную ноч*! Супакойся”.

(д) [**Грэцкі С.В.**:

Хто гаварыў: “Успакойся. **Ня дзелай рябінавую ноч**”. А хто гаварыў: “Там, у Вулькі ілі Варкі – *ўсенашная ноч*”.]

Ета адзінакава...

[**Грэцкі С.В**.: Дзеці ня спяць... Мужык прыходзя п’яны і начыныя дзебашыр устраіваць.]

**Грэцкая Варвара:** “*Усенашная ноч*” – ета ўсюдых казалі – і “**рябінавая**” і “*усенашная*” – усюдых: і ў Закружжы....

(е) [*Чаму* **рябінавыя ночы**?]

Ня знаю... Рябіна ж красная... Пачануць гаварыць: “Ты ўжо *накаліўся дакрасна*”.

Злы чылавек бывае... Разазліцца... Дак: “Ты ўжо *накаліўся да красна*...”

(ё) Ета пасловіца такая ідзець. Вот як б’юцца... Во хлопцы з хлопцамы б’юцца, дак гаворяць... Прыходзя: “Ой, сёдні, баб, **рябінавая ноч** была!” Я гаварю: “А хто там біўсь?” Тыя з тымы хлопцамы білісь... У нас падкаменцы з амяленцамы і з закружцамы нікалі ня біліся... А прыходзяць пачашчане, грамычане... З Грамык гуляць прыходзілі.... Хлопцы сабяруцца гуртам, да пашлі... “Давайця туда і туда пойдзім...” Прыходзяць, а дзярябы ё такія і ў том стадзе, і ў том... Ну, у нас мала біліся... Уважалі хлопцаў... Усё казалі... “Уважайця хлопцаў... Прышлі рябяты гуляць, ніхай!.. Хваця места і вам... А дзевак!.. Етага барахла хваця, дзе хочыш... Ня нада біцца... І з Шэйкі хадзілі к нам, з Неглюбскіх пасёлкаў, сівенскія хлопцы, із Папсуеўкі... І нашы... “Пашлі ў Куты!” Куты, як едзіш на Бутрамеўку... “А-А-А!..*Чорт пагнаў* на Бутрамеўку!..”

<**Чорт пагнаў** – *гэта як?*> На любога казалі... Ці на курыцу, ці на свінню... Ці на чылавека... Ужо сабіраімся, матка: “Куды вас ужо *чорт пагоня*?” Мы кажым: “На вуліцу пойдзім”. – “Да глядзіця, штоб я знала...” Ета... Ідзеш: “Мам, пойдзім туда і туда...” Штоб знали, дзе шукаць...Ну, праўда, ідзеш, скажы... Случай... Шукаць...

(ж) <*Вы сказалі* **рябінавыя ночы** *калісь усі зналі.*>

Ну, усі зналі... Ета із *справеку веку* ідзець, гаворяць, **рябінавая ноч**... Бунт пачыная такі ў хаце... Дак кажаць: “Ня спалі...” А ў нас Мурзіла там жыў... Дак ета, як *на язык возьмя* гарэлкі, і пашло... Дак Маруся... Будзя ляпаць... Як ляпая, мы гаварым: “Што – **рябінавая ноч**? Хто ета?” – “Ой, Варячка, адчыні...” Я кажу: “Рябінавая ноч?” – “Да... Ужо *пашоў-паехаў*...” Ён тады і дзяцей...

(з )<*Нада будзя ў Пашкі папытаць, ці яна ведае, што такое* **рябінавыя ночы**?>

Яе бацька дзелаў *чашчэй дыхання* **рябінавыя ночы**. Паўцякая сям’я ўся... І матка, і ўсі... А ён, як п’яны... Купрэйка ўсё расказываў, з ім работаў... Гаворя: “Прыходзя, галаву павеся... “Сяргей Сяргеевіч, чаго ты ўжо галаву павесіў? Наверна, ужо *рябіну ламаў*?” – “Да было такоя”.

<*Што такоя:* **рябіну ламаць**?>

Дзелаў **рябінаваю ноч** – дак ламаў *рябіну*.

(і) Валька прышла, гаворя: “**Рябінавая ноч** была. Матка бульбы абажралася, ня спала, хадзіла..”

<*Дак ніхто ж не скандаліў...*>

Яна ж ня спіць, ходзя, плача... І, як карова целіцца, ня спім, сядзім, разгаварывам, ходзім.

<*Карова целіцца… Таксама* **рябінавая ноч***?*>

Ня спіш жа, перяжываіш...

І памрэ чылавек, ня спяць, у горы сядзяць. Усякія **рябінавыя ночы** бываюць. **Рябінавая ноч** – горькая ноч. Рябіна ж – горькая. Вот і празвалі: **рябінавая ноч**.

**Рябіну ламаць → Рябінавая ноч.**

**Ряшыць дзела → Чарціная свадзьба.**

**Сабаку з'есць.**

(а) Усі так казалі: “Ты б і **сабаку б з’еў**!” Сёдні вон наш прышоў, гаворя: “Баб, я б **сабаку з’еў**, так есць хочу”. А я гаварю: “Сабаку не, а суп зварыла”.

(б) “Баб, – гаворя, – я так есць хочу, што **сабаку б з’еў**”. Скрозь так гаворяць. І мы калі на рабоці, гаворым: “Ой! **Сабаку б з’елі**”.

**Сабачая кроў → Дрыжыкі прадаваць.**

**Салодкі, як мёд → Няшчотная сіла.**

**Сам чорт адступіўся.**

(а) Я любую падпяю... І на маціў знаю... Во Райка казала: “Лучшэ буду слухаць, а пець – я буду бунтаваць... Я не пяю нікалі...” А я ўжо... **Сам чорт адступіўся**... Не хвалю сама сабе... Еслі пачую песню...

(б) **Сам чорт адступіўся**... Ну, праўда... Як у хаці ня мыта ці на агародзі ня полана, гаворяць: “Ой, там **сам чорт – і тэй адступіўся**”. Ня хоча хадзіць на агарод ці ў хату...

(в) Ці ўрэдны чылавек... Гаворяць: “**Ад цябе чорт, і тэй адступіўся**”.

**Сам чорт ня поймя → Чорт з папом ня разбярэ.**

**Са ржавай буквы → З залатой буквы.**

**Сарочка (на ём) ні згніла ні пад касой, ні пад серпам → На пуп браць (ні браць).**

**Сатана чорта радзіла ў лапцях.**

(а) Ета ўсі гаворяць: “Во сатана!” – на матку – хто радзіў. Як ужо ўрэдны дзіцёнак, дак гаворяць: “Во ўжо **сатана чорта радзіла ў лапцях**”. І я тожа. Сяргей не слухая калі, дак я гаварю: “Во ўжо **радзіла** Ірка **– сатана чорта**!”

(б) <*Вы казалі, што дзеці – гэта анёлы. А чаму кажуць, што* **сатана чорта радзіла**?>

Ну, ета гаворяць так. Ета бываяць урэдныя дзеці, на іх і гаворяць так. Я на свайго ўнука гаварю: “Ужо **чорта радзілі ў лапцях**!” Такія бываяць непаслухмяныя дзеці. Так і гаворяць так.

**Сварку падняць (іздзелаць) → Бучу падняць; Задзелаць казу; Іздзелаць канцэрт; У каждам сяле па чорціку і ў каждай сям’е па чорціку.**

**Свая душа – і то пад цэркву с... падвядзе →Адной душой (ня) быць.**

**Свая рубашка бліжай к целу.** Гл. таксама: **Смалу к дубу не прылепіш.**

Ты чужыя ні надзеніш, а сваю.

<*Чаму чужую не надзеніш?*>

Калісь наша баба казала: “*Сколькі чужы абед ня еш, і галодзен*”. Вот ідзі на абеды, што ходзяць... Пад’ясі і прыдзіш дамоў, і хочыш есць. А як сваго пад’ясі... Пустога... І ні хочыш. Так і рубашка... Чужую рубашку надзень... І бойсь, каб не ўгадалі. Яна не прыстае к целу. *Дуба стаіць,* да і ўсё.

**Светлы дзень → Сцяне любя.**

**Свету белага ня бачыць.**
**Свету белага ня бача** з-за гарэлкі.

**Свой рот бліжай.**

(а) Усё баба казала: “А **свой рот бліжай**!” Ложка бліжай. “*Ложка к свайму роту бліжай*!” Пакуль каму дасць… А баба наша сама не даесць, усё дзіцям.

(б) <*Чаму гавораць:* “**Свой рот бліжай**”?>

Ну, канешна, як ты есць хочыш, дак перва... Пасадзі цябе галоднага... Дак ты ў мой будзіш шыбаць ці сам з’ясі?

Калісь пірагоў матка напячэ, гаворя: “Сядзьцця... Усе роўна ешця”. Усё на Тусю казала: “Ты нажрэшся, а тады і супа ня хочыш”. А баба кажа: “Ну, калі ж у іё **рот свой бліжай**, што ж яна будзя паглядываць... Скорынька ўхваціла, з’ела... Тое – яе. Назад ня выцягніш”.

**Свят душой. (Свята душой.)**

У нас кампанія была сватоў... Тусіны свёкар і свякруха... Мы з імы так не дружылі... З Каршунамы мы дружылі... *Обшчы язык найшлі... Як родныя* былі... Ета што скрысенне ці які празнік... Троіца ці Ушэсце, ці зімой... Танькін мужык, Іван, прыходзя: “Давайця па бутылцы”. Я гавару: “*А чом, дзева, плачыш?* Усё будзя”. – “Пайду к Жору...” Тэй: “Пажалуйста... Спасіба, Ванёк... Пойдзіма, *вочы прастудзім...*” Пойдзя к Маньцы... К сваім... Сястра Манька... Сястра Ліда... Ідуць... Ка мне заходзяць: “Ну, сабралася?” І мы пяёма... І мы, *як родныя*, счыталіся. І мы адзін аднаго не абгаварывалі.... Што пагаворыма – **свята душой**.

Пагаворыма... Ета ўжо ніхто... Што-нібудзь бывая такоя... Што-нібудзь пагаворыма сякрэтнае... Усё! Штоб ад нас не выходзіла... **Свята душой**...

<**Свята душой** *ці* **свят душой**?>

Гаворяць: “**Свят душой**! Ня знаю”. Вот: “Што там гаварылі?” – “**Свят душой**! Ня знаю”.

<*Ягор сказаў:* “Пойдзім, **вочы прастудзім**”.>

Хто гаворя: “Пайду, хоць вочы **прастужу** ці **прасвячу**”. Хто: “**Прастужу**”. Хто: “**Прасвячу**”. “Пайду, схажу... А то ўсё дома і дома”. Управяцца...

<*Што такое*: **вочы прастудзіць**?>

Ну, атдыхнуць.

<*Штоб паверылі, чылавек казаў:* “**Свят душой**, праўду кажу!” *Як яшчэ казалі?*>

*Ей Богу... Ей Богу*, праўду кажу...

**Святы вечар → Хто спраўляя святыя вечарочкі, дак ходя век без сарочкі.**

**Святыя вечары → У нерабатня ўсе дні святыя.**

**Святыя дні → У нерабатня ўсе дні святыя.**

**Серца не камінь.**

Камінь... І тэй рушыцца.... А ета ж – серца... У нас адна... Ана і памерла ад гарэлкі.

**Сілы падарваць → Дарогу прабіваць.**

**Сіні суп → Смаку, як у печаным раку.**

**Сініцу хоць палож у пшаніцу.**

Я худая скрозь, дак баба будзя казаць: "Цябе, **як тую сініцу, хоць палож у пшаніцу**. Усё раўно будзіш такая". Сініца пшаніцы аб'ядаіцца, сколькі хоча. А ўсё раўно **сінічка малінькая. Вароны не дасцігня**.

**Сінцябр месяц на рябым каню ездзя.**

Сёдні пагода, а заўтра дожч ідзець... То хмарна...

**Сіняя парція.** Гл. таксама: **Гоп-кампанія; Ня плюй у лужу; Як перышка.**.

<*Каго ў вас так называлі?*>

(а) Каторыя пілі... Умесці пілі... Яны сабіраліся ўсі... Хто піць хацеў... У ету парцію... Бутылку бяры... Будуць казаць: "Ужо **ў сіняю парцію** пашоў".

(б) Век пражыла без жаласці, бяз помачы, без савету... Што сама сабражу... Я ня дзелала, што пашла гарэлку піць... Як у нас **сіняя парція** была... На мяне ніхто ні скажа, што вон пашла Варька ў **сіняю парцію**... Там п'юць, да абы што дзелаюць... Дак іх **сіняя парція** звалі.

**Скачы, уража, як пан скажа.**

(а) Маўчы – да і ўсё. Як ты абіжаіш каго-нібудзь, беднага… Багаты, ён усягда што скажыць… "А ета ж – багаты!" І ціперяка, як багаты гаворя – ета праўду кажа, а бедны... Дак усё... Прыдзя Майка, будзя што-нібудзь гаварыць... Так і так... Пачаў, там, бедны гаварыць, дак вышаў Дуніч, падняўся: "Да! Маўчы ты! Заваляка! Маўчы! Шчэ ён сваю рэч!.." Замоўкня. Не так – *у рыла дасць*. "Я, – гаворя, – падышоў к таму чылавеку і кажу: "**Скачы, уража, як пан кажа**".

<*Дуніч – гэта хто?*>

Быў такі ўрэдны чылавек. Злодзей. І ўсе яго баялісь.

(б) Прыдзім з калхоза, да гаворым: "Брыгадзір адным загадаў лёгкаю работу, а нам... Вы маладыя, дак ідзіця на цяжолаю". А баба будзя казаць ці матка: "**Скачы, уража, як пан скажа**. Ён – пан. Даўжны яго слухаць".

**Сколькі чужы абед ня еш, і галодзен →Свая рубашка бліжай к целу.**

**Скоры паспех курам на смех.**

**Скоры паспех людзям на смех.** Гл. таксама: **Тапорная работа. Хоп-шлёп.**

(а) Скора. Неабдумана. Калі што-нібудзь ляпніш... Ці дзелаіш што-нібудзь абы як. Гавораць: **скоры паспех людзям на смех**. Еслі захочыш харашо здзелаць, скора ня здзелаіш.

(б) Усё наша баба казала: "О-о-о! **Скоры паспех – людзям на смех.** Ты лучшэ здзелай медлінна, но харашэнька".

<**Людзям на смех** а*льбо* **курям на смех**?>

Хто скажа **людзям на смех**, хто скажа **курям на смех**. Ты ўжо здзелала, дак ня то шта **людзям на смех**, дак і куры смяюцца.

(в) Бульбу капаім... Наша нявестка ліш бы *наперядзі была*... Бульбу што выкапала, а што там асталася... Абы паперад... Я ёй гаварю: "Ты **курям на смех ня дзелай**! Дзелай, штоб чысцінька было. Бульбіне жа больна. Бульбіна застаецца, яна замярзая".

**С кус на кус.**

Ад палучкі да палучкі елі дацягіваюць на зарплаці. А ё – мільёны палучаюць. **С кус на кус.** Укусіў раз і ждзі, пакуль у другі раз чога-нібудзь згародзіш. Вот табе і **с кус на кус**.

**Слава Богу!** Гл. таксама: **Як голуб з галубкай.**

Ета харашо. Во іздзелаіш што-нібудзь, ці вышываіш, ці што-нібудзь дадзелаіш: "Во **слава Богу**!" Памог Бог. "*Слава табе, Госпадзі!*"

**Слава табе, Госпадзі! → Слава Богу.**

**Следу ня дзелаць → Вір вірям (Вірам вісіць).**

**Слоў нету.**

(а) Некрасівая – **слоў нету.**

(б) Усі так казалі, гаворяць: "**Нет слоў** ужо..." І наша матка пачане ругаць, дак: "**Нет слоў** на вас ужо!" Дапяком.

**Слязамы абліваццa.**

(а) Вот прыдзе к табе, ты ня здзелаіш мне... Як я... Багата людзей... Прыдуць **слязамы абаллюцца** і пойдуць... А другія...

(б) У калхозі прыдсядацілі былі... Скажа: "Ня дам!" Прыдуць помачы прасіць, ён дажэ разгаварываць ня станя... **Слязамі абаллюцца**...

**Смаку, як у печаным раку.**

(а) А ў печаным раку смак ё? Німа ніякага. Усігда ўсі казалі: "Вой! **Смаку, як ў печаным раку!**" Ну што там есць? Ну, як што нясмашная. "Баб, смашны боршч?" – "Ой! **Смаку, як у печаным раку!**" Калісь: здор із цыбулькай патаўкуць у боршч. Ён і пахня смашна.

(б) Ета, як суп... Звары-ка суп... Бульбы ўкрышы, да вады налій. А калісь жа так было. Да цыбуліну... Зварыцца... Скрылі, *чорт зная* якія... Тоўстыя... Дак яны: "Дзеці ўжо суп зварыўся дзвохэтажны... Матка палядзіць наша да кажа: "Мам, ты ўжо двохэтажнага зварыла: скрылі на дне, а вада – навярху. "*Сіні суп*". Мы празвалі яго "*сіні суп*". І ва ўсіх дварах так было. Б'юць на год парасёнка... Шчэ ў каго бальшы... А як у каго... Усякія былі парасяты... У каго ё чым карміць, каму німа... Вот цыбуліна, вада, соль і бульба... Калі круп укінуць ячменных – ета суп... Вот і кажаць**: "Смаку, як у печаным раку**".

**Смалу к дубу не прылепіш.**

Вот прыляпі – ён жа не прылепіцца, патаму шта і смалы німа ў дубу. А толькі смала ў сасне да у ёлцы.

*<Калі так кажаць?>*

А во гаворяць, як нядродныя дзеці, дак кажаць: "Як не гавары…" Вот жэняцца, у яго дзеці і ў яе дзеці, усё раўно жаласці такія німа ў жэншчыны да тых дзяцей, да мужыковых, еслі другі мужык, ужо гаворяць: "**Смалу к дубу не прылепіш**". Гаворяць: "*Свая сарочка бліжай к целу, чымся чужая*". У нас усягда баба казала: "**Смалу к дубу не прылепіш**". І чужога. Мужык з жонкай жывуць, тады разыходзяцца, сперва і добра і харашо, а тады – усё, пасваряцца, разойдуцца, ненавідзяць. Так жа і дзеўка з хлопцам. Ета ж не свой, што пасваряцца, тады зноў умесці.

**Смерць сарочку найдзя.**

(а) Памрэ чылавек, ляжыць... У нас адна Насця там памёрла... Ні бацькі, ні маткі не было... Ціх ішоў, вайна ішла, у Ветцы тут ціх... Ці салдаты наняслі... Забалелі ціхам і

ляжалі, ні бальніц, нічога, дак яны там у Закружжы ў хаці ў адной ляжалі ўжо, што не згарэла... А тады ўжо ў Свяцкой здзелалі... Дак яна памёрла... Ну, не ў што... Улапленая была юбка... Хто што прынёс... Ляжыць голая... Із бальніцы прывязлі... У сваём жа ляжалі ў бальніцы... Вязі і падушку, вязі і адзяяла – сваё... Не было ж нічога... Ета ж вайна ішла... Дак яе прывязлі голаю... Хто – што... Абуцца не ў што, дак яны із сітца із худзенькага, як чулкі, ісшылі, матка наша ісшыла... А хто ўжо андарачык даў, хто кохтачку... **Смерць сарочку найдзя**... Ета *справеку веку* ідзець такая пасловіца.

Усі казалі: “**Смерць сарочку найдзя**”. Гаворяць: “**Смерць сарочку**...” Вот німа чаго... “А **смерць сарочку найдзя**”. Вот, напрымер, прыдзя к табе госць, у цябе німа дажэ лусціны хлеба. Усё баба наша казала, дзед Мікеля калісь прыдзе к нам, баба наша і кажа: “Ой, Нікіхварачка, прышоў! Паляджу счас, ці зварыўся боршч, што зварылась, таго табе і дам” А ён будзя казаць: “Алёна! **Смерць сарочку найдзя**! Я ж дома паснедаў”.

(б) У баню іціць... Веніка... Дак я гаварю: “Будзіш палкай парыцца”. А ён (сын) мне і говоря: “**Смерць сарочку найдзя**”.

(в) <*Пра вайну.*>

Баба говоря: “Дзетачкі, не журыціся. Як-небудзь. **Смерць сарочку найдзя**”. Усі так казалі. І калісь Козырыха прышла, плача: “Што дзелаць?” А баба і говоря: “Яўгіначка, ня плач! **Смерць сарочку найдзя.** Як-нібудзь пражывом”. У погрябі і гуркі прапалі, і ўсё... Зімой бульбачкі зварым, пад’ядзім... Ні гурка, ні капусты... А выжылі.

**Снег бел да ня сыр – ня укусіш, зяць міл да ня сын – ні жалеіш.**

Гаварю: “Вялі б сына на растрэл і зяця, каго б табе жальней было? Яна: “Да я ж бы за сына вочы павыдзірала немцам. А зяця – *чорт яго бяры*!” “А я, – гаварю, – а мне не. Тусін мужык упаў, дак я пераплакалася. “Вой, – думаю, – разбіўся!” Дзелалі хату, дак ён з бруса ўпаў. Ён – Тусі, сястры мужык. А я жалею. Ня знаю як! Бабы калісь як пачануць на зяццёў, дак баба: “А-а-а! **Снег бел, да ня сыр – ня ўкусіш, зяць міл, да ня сын – ні жалеіш**”. Так і я ёй казала.

**Спатыкала даць.**

Усё тады казалі: “Ідзі, а то **спатыкала дам**. Турну, дак спатыкнесся”. Мол, турну цябе... У шутку гаварылі.

**Спасіба табе за хлеб, за соль, за благадаць, а больш нечага табе сказаць.**

Ну, вот абідзяць, і табе ўжо нечага сказаць, дак так і говорыш: “**Спасіба табе за хлеб, за соль, за благадаць, больш мне нечага табе сказаць**”.

<*Яшчэ раз: калі так казалі?*>

Дзяды так казалі... Вот гуляяць, тады падымаяцца, дзед Майка: “Пойдзім ўжо, Грэцкая, дамоў... (Матку Грэцкая звалі.) І ты, Алёнка... **Спасіба вам за хлеб, за соль, за благадаць, большы вам нечыва, добрым людзям, нанач добрага сказаць**”. Пойдуць, яна: “Спасіба вам... Прыходзьця, не забывайця... *Заўтры будзя дзень, будзя пуць...*”

**С плятнём не расплясці.**

Песні складаюць умныя людзі. Вазьмі ты складзі ці я... Такую небыліцу сплятом, што ***с*** **плятнём не распляцеш.**

**Справеку веку.** Гл. таксама: **Горя не шукай, яно само цябе найдзя; Кацялок не варя; На плячах не насіць; Смерць сарочку найдзя; Хіміны куры; Штоб абарвала смерць жызню тваю; Штоб (чый-небудзь) чорт наверсі быў.**

<*Гэта як?*>

Калісь бабы і дзяды гаварылі., ад сваіх дзядоў і бацькоў слухалі. І ім гаварылі. У прымер і гаворяць прыказкі етыя. К разгавору тую, тую. А бабы нам гаварылі, мы чулі, як дзяды гаварылі. Так **справеку веку** ідзець. Адзін аднаму. Песні пяюцца. Пелі песні. Як ахотнік ён на песні, дак ён будзя, як я... Я даўжна лопнуць, ну я даўжна тую песню схваціць.

**Сталінская галава.**

(а) Калі хто багата зная, дак на яго. Калісь на нашу матку ўсё казалі. Я не хвалюсь... Ета праўда. Будуць на праўленіі гаварыць і пытаць: “Ну, Грэцкая пайдзёць так? Ці не?” Матка папраўку якую дасць. “Правільна. Правільна”. Дак яны гаворяць: “У цябе **сталінская галава**”.

<*Чаму* **сталінская**?>

Я ня знаю. Вумная ж, наверна. Так звалі “**сталінская галава”** – вумных людзей.

(б) <*Вы сказалі на Сяргея:* “**Галава сталінская**”>

Сталін жа вумны быў. Усё калісь казалі: “Вумны Сталін”. Дак як што, дак гаварылі: “**Сталінская галава**”. Матку маю звалі. Мая матка... Дак калісь Амерыканчыха праклала прозвішчэ ёй. “Во ідзець **сталінская галава**”. Дак матка гаворя: “Чо ты міне так празвала?” А яна смяецца... Ну, ня ўсі звалі... Бабы ў шутку казалі. “Чо вы, – гаворя, – мяне так празвалі? Чым я вам дакарыла?” – “Чым? А то шта на двух работах работаіш і спраўляісся. І ўзяць Падкаменне, узяць Амяльноя, у такіх гадах ніхто начальнікам... Дак ніхто ў ета дзела ня ўлазя. А ты ўзялася і счытаіш, і прадаеш, і ўсё ў цябе харашо і ладна”. Калісь быў Кашэль, Кашалём дражнілі, цёлку пратаргваў. Манячкіна Ліда стала, сем класаў кончыла, пратаргавала, дак бацька кабана здаў, расчытаўся. І там багата. Хто ня станя, недачоты, недачоты... Вот прадаюць... Судзіць жа будуць. Аддай грошы гасударственныя. А матка наша пашла... Яны ўжо прышлі: “Грэцкая, ты ў Сівінцы таргавала...” З бацькам яны таргавалі ў Сівенцы два гады. І там былі недачоты, недачоты ва ўсіх. Матка з бацькам сталі тады таргаваць, і недачотаў не было. Дак яе цанілі, хацелі ў “Райсаюз” забраць. Усё казалі: “Мы цябе, Грэцкая, забярём у “Райсаюз”. А тут у бацькі лопнул апендыцыт... Не перянёс аперыцыю і памёр. А матка ж адна. Кінула... Некаму глядзець... Кінула ў Сівінцы. Яны не пускалі: “Таргуй у нас... Мы каня... Едзь нанач дамоў”. Матка гаворя: “Буду ехаць, ключы адбяруць і магазін аббяруць. Не паеду”. Дак яны яе на Амяльном... І недачоту не было. Дак яна і гаворя, Амерыканчыха: “Я цябе **сталінскай галавой** празвала, што і ў магазіні, і атчоты дзелаіш, і за таварам ездзіш. І таргавала. Нада ж было расціць дзяцей. Нас было пяць, баба шостая, матка сёмая. Сем чылавек. Вот дай ціпер табе сем чылавек! Дак яны: “У цябе, Грэцкая, **сталінская галава**”. Праўленіе бывая ў калхозі, абсуждаюць, ці сабраніе, і будуць сядзець, мужчыны выступаюць... Сядзяць усі... І матка будзя сядзець... Калісь дзед Чыгунок сядзіць і кажа: “Грэцкая, жду, калі ты выступіш!” А матка гаворя: “Ня буду выступаць, а то **сталінскай галавой** завуць!” А ён: “Не абрашчай ўніманія. Я знаю, што вапросамы ты зысыпіш: і тоя ня так, і тоя ня так!” Матка ўстаня і ў *вочы рэжа*. Не паглядзіць, ты прыдсідаціль ілі брыгадзір. І усё ім падказывала. Дак яны так і гаварылі: “**Сталінская галава**”.

(в) Сяргей сказаў на мяне: “У цябе **галава сталінская**”. Калі я на яго гавару: “Сяргей, у цябе **галава сталінская**”. Дак і ён на мяне. Калісь усі гаварылі: “О-о-о!.. У цябе **сталінская..**.” На маю матку казалі.

(г) Сяргей сказаў на мяне: “У цябе **галава сталінская**”. Калі я на яго гавару: “Сяргей, у цябе **галава сталінская**”. Дак і ён на мяне. Калісь усі гаварылі: “О-о-о!.. У цябе **сталінская**...” На маю матку казалі.

<*Сяргей пра што сказаў?*>

Я падумала... “Я думаў: “Палена...” Гавару: “Вазьмі, рухні... Яно ж у лапу сложана. Яно ж крэпкая тут, а дзе замачывала дажчом, зацякала, там абшкрябі, чорным замаж, і ў цябе будзя *шык-блеск*”. А вазьмі, рухні... Табе нада дамкрат, штоб жа ўдзержывала...

Ты б прышоў, сказаў: “Баб, як ета дзелаць?” Я б табе сказала: “Начынай з етага края... Первы, утары, трэцці... Пад намірамі і складай у кучачку... Во! Ты б браў, шчытна, ужо падстругана... Ты б толькі прыклаў, малаточкам прыбіў. А ты паатрываў, пакідаў, а ціперь *хватай хатку на лапатку*. Ідзе первы, ідзе...”

**Старая баба, як таўкач у ступі.**

Гаворяць: “**Старая баба, як таўкач у ступі**”. Таўкач як пачане, і таўчэ, і таўчэ... Хоць і ваду ў ступу ўвалей... І таўчэ, і таўчэ таўкач. І старая баба... Кажаць, у хаці дзелая старая баба і дзелая, і ня відна бабы старыя... І ложкі памыя, і глёк памыя, тут нагнецца, то тоя здзелая, то тоя здзелая... Усё здзелая – дзел ня відна, што ў хаці тут здзелала, дзяцей дагледзіла... І: “Ой, пайду ж на агародзі што-нібудзь здзелаю!” І на агарод баба пойдзя. І яе работы ня відна. Дак харошая, кажаць, нявестка свякруху не абругая. Усё матка наша будзя казаць: “Вот ты любіш, штоб я з табой пасварылася”. А баба і кажа: “Чаго, мая ты Полічка, так кажыш?” Ета свякруха і нявестка. А яна і гаворя: “Ты ж, **як таўкач – таўчэсся і таўчэсся**. Не прысядзіш на мінуту. Дак мы ж на рабоці хоць на дзесяць мінут сядзім і аддыхнома, а ты ж **як таўкач таўчэсся**. Дак сядзь... Прышла я з работы, ты садзіся, я буду с табой гаварыць, буду абед наліваць... Ці табе хадзіць ад печы да стала... Ты сядзь, да сядзі, а я ўсё буду дзелаць”. – “Ты ж утамілася на рабоці...” Дак гаворяць: “Харошая нявестка свякруху пажалея, а як дурная нявестка, дак будзя казаць: “Што ты тут дзелаіш?!” У нас былі такія... Манька была... На дзеда на Жаваранку... Ой!.. Ета ўжо *змяя падкалодная*.

Ён жа таўчэ, і ўсё бяз толку. Гаворяць: “Ён гаворя, *як таўкачом ваду ў ступі таўчэ!*” А баба... Што-та так гаварылі: “Баба дзелая, і яе работы ня відна”. Вот я ўзяла што-та, паклала ў другоя места. Там з табой пагаварыла, пашла тое здзелала, тое здзелала... Ета называіцца “як **таўкачом у ступі таўчы**, і работы ня відна твае”. Усі тады гаворяць: “*Бабская работа век ня відна* – свякрухіна”. Толькі ў харошыя нявесткі... Дак яна скажа: “Мам, сядзь ты пасядзі”. А як дурная хазяйка, дак тая вешна будзя не давольна свякрухай да свёкрам.

**Стаў тузам, што ў каня па пузам → Ня знаць, на якое неба ўзлезць.**

**Стаць вогерам → Чарціная свадьба.**

**Сто лет ня нада.**

<*Вы сказалі на Лайбу: “Яна мне* **сто лет ня нада**”.>

Ну, праўда. На чорта яна мне. Яна і падыходзіла... К нам падойдзя: “Варька, давай ужо паладзім”. Я гавару: “Ня хочу ні ладзіць, ні хочу с табой гаварыць. Ідзі. У цябе свой двор...”

Усі гаварылі. Вон дзед Майка калісь на бабу: “Ты мне **сто лет ня нада**, Куліна”.

**Страх глянуць.**

Калісь бульба была – **страх глянуць**! Дзве бульбіны абчышчыш на чыгун супу! А ціперь... І ціперь усякая ё. Да такая не расце.

**Страшнае дзела.**

Ён піў – **страшнае дзела**! Я яго не счытала ня то шта камісарам, дак пастухом... *Дурака кусок*.

**Страшней усяго голад →За хлеба лусцінку дак аддасі шаўкову хусцінкую.**

**“Стрялу” вадзіць → Палкай не шыбнуць.**

**Стылыя вочы → Не па-свойму закрычаць.**

**Сусолак навешаць → Куросання гарадзіць.**

**Суха на языку → Даць на язык.**

**Сукінае дачкі сын (дачка).**
<*На каго так ругаліся?*>
Што-нібудзь... "Ну, сукін сын (ці дачка...)" У нас Пашкіна баба: "Эх, сукінае дачкі сын ". Дажэ будзя на матку Адарку: "Эх, **сукінае дачкі дачка**..." Як што-нібудзь... Ці ня праў... Споря... Ета баба любіла, штоб толькі па яе было...

**Суха на языку → Даць на язык.**

**Сушчая бряхня.**
Ён гаварыў... І адказваіцца... Што ты брэшыш! Вінават і адказваіцца: "Я ні я!" Я гавару: "**Сушчаю бряхню** ты гаворыш!"

**Сушчая праўда → Работаць за палачку.**

**Сучка цапная.** Гл. таксама**: Хадзіць па балонню, закрыўшы ж... ладонню.**
Гаворя: "**Сучкі** етыя **цапныя**! Толькі б жралі, а работаць ня хочаць!" Што-нібудзь загадыя нам. Ета ў каждым дварэ. Злую сучку ўсё становяць на цэп. Еслі ня злы сабака, дак ён жа ўсё кала двара лапы паложа і ляжыць. Яму... Ты ідзеш ілі свой сем'янін... У Крыўцовых быў сабака, хто хочыш ідзі, ён будзя ляжаць, толькі мух адганяя летам, а зімой, дак у будку завалачэцца, толькі кармі яго. А злы сабака – ён не прапусця чужага чылавека.
<*Чаго матка на вас так казала?*>
Во калі пачаном за што-нібудзь... Б'ёмся, малыя... Яна: "*Хоць на цапы* вас, сучак, *станоў*, каждага па вуглу!"

**Сцяне любя.**
Ета плоха... Счытай, ня хоча разгаварываць... Дак гаворяць: "А... Там... **Сцяне любя** гаворя". Калісь старыя казалі... І мы: "А, там, **сцяне любя** гаворя..." Ці ходзя... Ці хворы, ці малы дзіцёнак... Ён ішчэ ня ходзя... А так **сцяне любя** ходзя... То ходзя, то ня ходзя... Калісь так казалі... **Сцяне любя**... Ці гаворя..."Як ён гаворя?" – "А **сцяне любя**..." Ці на агародзе што-нібудзь дзелаіш, ці на дварэ... "Што ты тут дзелаіш?" – А чуць плустаю... **Сцяне любя** хаджу тут..." *Плустаю* – ета ходзіш... Калісь прыходзяць: "Што ты тут плустаіш?" Ці: "Дзе плустаў?" А цяперь жа не гаворяць так... Гаворяць *ходзя*. Ці: "Дзе ты хадзіў?" А тады: "Што ты дзелала?" – "А плустала ў лес (ці ў Закружжа)... Сплустала туды і адтуль". Калісь: "Баба, пойдзіш ты ў Закружжа?" – "Я ж ні даплустаю. Во да прясла даплустаю..." Вот прыдзім... "Дзе вы ўжо плусталі?" Мы ўжо знаім, пытая: "Дзе хадзілі?" Учора прышоў, уродзе, так **сцяне любя** гаварыў... А патом: "І тоя ня так, і тоя ня так..". *Як бешаны*... Ні сказаць, ні папытаць... Гавару: "Што ты, *як бешаны*, бегаіш?"
Ідзі! Як пойдзя, мне тады *светлы дзень*... Сама я сабе... Хоць ніхто *сэрца ня рве*...
<Як гэта: "Мне тады *светлы дзень*"?>
Спакойна сябе чуствуіш... Ніхто цябе не прызірая... Ніхто цябе ня будзя: "Ета ня тоя..."

**Счоту німа.**

Во, Аляксеяўна, ўчыцілка, вучыла, да ўсё! А песні... Пачала школьныя... Я школьных... *Чорт іх зная*, колькі знала. А яна тры песні... “Мы тры песні...” Кудлычыла тры песні... Учыцілка была... Дзяцей вучыла. А ў нас учыцілка была, дак *па крайняй меры*... **Счоту німа**, колькі песен. І я ўсі знала.

**Счытаць за чылавека → У парцянку ўвярнуць.**

**Сыпіцца (сыпаць), як з рукава.**

(а) У нас Галушка калісь была, дак яна ўсё страмныя песні пела. Яна **сыпя** іх, **як з рукава**. Іх было...

(б) Яны **сыпяць** песні, **як з рукава**. Песні пяе... О! Ужо пяе, **як з рукава сыпя**. У веялцы, калісь жа веялкі былі, дак у веялцы ідзець харошая зярно – сабе, дробненькае, такоя, што пустоя – у другі рукаў, а мякіна... Дак вот яны гаворяць: “Ужо **сыпіцца, як з веялкі з рукава**”. Усі так казалі. І баба калісь наша: “А **сыпіш** ужо, **як з рукава**. *Бряхню точыш*...” Ягор ужо пачане... Што-нібудзь ці разаб’е... “**Ня сыпь** ты, **як з веялкі з рукава**... Ужо паняла па вачах...”

(в) Калісь жа веялкі былі.... Сарціруіш... І рукаў ідзе пазаддзе, ідуць каласы лёгкія, а па рэшэту буйная, толькі сартавоя, на семяно. А каторая дробязь, у другі рукаў. Сеіцца яно на сіты: буйнейшая, а тады драбнейшая, і ё там заморкі – ета меляць, да каровам, свінням. Дак ета: “Во **сыпіцца, як з рукава**...” Сарціруіма... Ужо засарылася. І начынім з рэшыта тога змятаць у які рукаў якоя.

Ета кажуць: “*У папоўскім рукаву дна толькі німа*. Сып-сып колькі ў рукаў. Ён такі шырачэнны. У яго сып... *Папу ўсё мала*.

Пазаддзе – каторая меліңкая. То сушэйшы колас абмалоціцца і недазрэлы, плахоя якоя. Меляць свінням, каровам у пойла.

[**Грэцкі С.В**.: Там два рукава. Ідзець срэдняяя, зярно ідзець, каторая крупная, чэряз рэшыта.]

<*На каго ў вас казалі:* **Сыпіцца, як з рукава**?>

Людзі былі, што... Ён будзя тарабаніць....)

Скора гаворя. Наш Сярёжка як пачане, дак **як з рукава сыпя**. Скора, не рязбярэш, што ён гаворя. Томка наша тожа. Як пачане гаварыць, я гаварю: “Я ня чую. Ты мне медленна гавары”.

[**Грэцкі С.В**.: “**Сыпя, як з рукава**”. А другія гаворяць: “Што ты *меліш, як х.. па каробцы*?” Ён тарабаня і тарабаня. Не паняць.]

**Сытага добря і ўгашчаць**.

Такая прыказка была… Як хто прыдзя, гаворяць: “Хадзі абедаць!..” ─ “Не, ня хочу”. Усё калісь казалі… Баба будзя казаць ці матка: “**Сытага добря і ўгашчаць**”.

**Счытаць (ні счытаць) за чылавека →У парцянку ўвярнуць.**

**Сядзець, гніды прышчаміўшы.**

Усё матка кажа: “**Сядзі, гніды прышчаміўшы**!” Гніды, во ў галаве ё гніды. “Ужо сядзеў бы...“ – будзя казаць... Другі што-небудзь скажа... “А **сядзі** ты, **гніды прышчаміўшы**!” Калісь усё і на сабраніі, яны... Хто-нібудзь пачане, яны там разбіраюцца ў вапросах... “А **сядзі** ты, **гніды прышчаміўшы**!” Ці баба наша на нас, што-нібудзь будзіш гаварыць, баба з маткай і мы... Яна: “Сядзі ты... Ішчэ малая... **Сядзі, гніды прышчаміўшы**!”

**Сядзець колікам.**

Прышоў Павел ка мне, да і гаворя: "Што ты тут дзелаіш?" Я гавару: "**Сяджу колікам**". Колік жа ўсё на месці сядзіць, як уб'еш яго. Сяджу да і ўсё. Сёдні Міхайла. Празнік жа. Дак я сяджу, да і ўсё".

**Сядзець на (чыім-небудзь) каўняры.**

Во яна сядзіць і не работая. А ты ж, бацька, кармі яе, сатану такую.

<Так у Амяльным казалі?>

Ета скрозь так гаворяць. Кармі яе... **Сядзіць на каўняры**. Пажраць нада, і нада якія трусы купіць, і ўсё купіць, і абуць. Дзед казаў адзін у нас: "Нада купіць і шапёнку, і куфаёнку, і бурёнкі, і рязёнкі – рязіны на ногі калісь".

**Таварышаў слухай, а свой розум май → Узяцца за розум.**

**Тайная вячэря → На якой тайнай вячэры ты быў?**

**Такая чэсць (жызь), як сабаку ў карыці.**

(а) Напрымер, плоха жыць табе. Цябе там не шануюць як нявестку. Вот, бывая, што нявестку ня ўзлюбяць і ні любяць яе. Дак гаворяць: "Ёй там **такая жызь, як сабаку ў карыці**". Ці: "**Такая чэсць, як сабаку ў карыці**". Німа ёй ні прытонку, усюдых яна вінавата і нехарошая.

<*Гэта як?*>

А сабаку ў карыці есць што калісь давалі? Бульба варыцца ў печы сабе, ізверьху прыгарыць. Вот прыгаркі тыя пазнімаюць, сабаку кідаяць. Прыгаркі тыя толькі сабаку з'есць, а так вон свінні паядуць, а сабака тоя выліжа, што ё. Вот як калісь кармілі. А ціперяка і свінней кормяць, ішчэ і малака падліваяць, і мукой. Ён карыта вылізаў, а там, у карыці *Хама ляжаў*.

(б) <*Як правільна казаць:* "Такая **чэсць** ці такая жызь, як *сабаку ў карыці?*">

І на жызню так гаварылі і на чэсць. Усё раўно ету прыказку гаварылі: "**Як сабаку ў карыці**".

**Тапорная работа.**

(а) Яна прыдзя ка мне і кажа: "Як нарысованая". Нідзе ні зацяжкі німа. А то ніткамі ісцягнуць. А тут, як нарысована. Ці Бог так дае. А я думаю: "Ета проста ахота ў самаго ё. А як німа ахоты". У нас Маша – здзельная, як я. А Туся. Ета у яе **тапорная работа**. *Цяп-ляп*. Ці тут вузёл, ці што, нет ні красы. Тапаром *цяп-ляп*... У плотніка даўжно быць і долата, і пілка. Разнае. Як дзядзька Цімачкаў. Дзе нада вот чуць-чуць не тапаром высеч, а другі тапаром шах высяча, будзя дзірка, ня будзя, мох усё задзелая.... Ічшо, мол, пашчыкатурыцца ўсё... І шчыкатурка ня ўдзержа холаду, нада зрубіць.

<*На любую недасканалаю працу казалі* "**тапорная**"*?*>

Во шыя сарочку другая... Калісь рукамы, іголкамы шылі... Прыдзіш палядзіш... Яна *па аўсіні* сігая – ліш бы скарэй, туды-сюды... Еслі надзеніш, нажмеш, яно відна... **Тапорная работа**... Яна сігая, яно відна. А другая шыла. Калісь наша матка пакажа, яна швейка была, і я шыла на машыні і плацці, і сарочкі... дак яна прыдзя палядзець, гаворя: "Дай-ка руку!" Руку возьмя, як пачане чысціць: "Я цябе вучыла так!? Па аўсіні пасігала! Ты даўжна медлінічка, і ня то сігаць, штоб нітка відна, а штоб яна акуратненечка".

(б) Галлё калісь нашы во так пасеклі ні ўпеч, а калісь галлё такоя караціныка, набіраіш і ў печ засаджываіш, дак я сваім казала: "**Тапорная работа**". Маладухі калісь на вокны, што ё... І яна вышыла цвет... Круг іздзелала, як каток, чорным, тады красным, чорным, тады красным... Такі, як круг і яно яго зацiскала, ніткі зацiскала, і яно, як хто ўзяў і зжабіў... Яго як ні цягні... Павесілі, усі абсудзілі... Я гавару: "Ня вешайця... ". Яны павесілі, людзі абсудзілі – значыць, **тапорная работа**.

(в) Сабе і хату дзядзька Танькін Цімачкавае, дак сабе здзелаў хату, дак гаворя: “Мне мох ня нада! Ета так, для красы здзелаю”. Ён ужо зрубіў, чырту ён адбіраў, дак ён ужо адбіраў тапарочкам... Што “ён у міне, як брытва”. Другія *цяп-ляп* – і пайшлі. Закладуць мохам, мох выдзьме вецір, да і дзьме ў хату. Усяк можна здзелаць. І пасціраць ё: у вадной вадзе пасціраюць, у другой вадзе кавыль, яно мыльная, і мыльная вада цячэ, а яно ўжо развесіла. Усяк можна ўсё здзелаць. Ці шыць, ці вышываць, еслі гламаздзіш абы-як, абы толькі скарэй, бачыш, што ня то, ня знаю, хто як, а я кідаю, ні хочу і гаварыць і паказываць. Бачу, што такому чылавеку ўжо не ўкажыш, яна ўжо як завучылась, так і будзя. І маткі такія, што самы не знаюць і дзяцей ня вучаць. **Тапорная работа**. А другі табе іздзелая, пяць раз папытая, ці я так здзелала, ці не. Так жэ і рубяць.

(г) Калісь дзед Жаваранка кажа: “А як такую **тапорнаю работу**, як у Козырíхі нявестка вышыла, дак ета *на смех курям…*”

(д) *<А ці былі такія людзі, што маглі тапаром усё зрабіць?* Дом, **як ляляку**. *Толькі тапаром,і больш нічым?*>

Былі... Казаў калісь Папок... Дзед быў... Ён вумны... На ўсё Падкаменне... І на Амяльном у нас былі вумныя дзяды: дзед Касцючкаў, і Майка дзед, і дзед Чыгунок... Самы сабе ўсё дзелалі... Дак ён калісь ляжыць у бальніцы... Дак штось пачалі пра мёд...І я ляжала з Сярёжкам... Месяцаў восем яму было... І дзед там быў... Дак ён узнаў, што я, дак ён прышоў: “Варячка, на табе мёду”. Маруся ў мяне была, дачка, дак прынясла мёду...” А у яго свае пчолы... Дак я кажу: “Ой, дзед Міцька!.. Табе прыняслі, а ты мне...” А ён гаворя: “У мяне ж не ўжадобку... Хваця з мяне...” І ён тады гаворя: “А штоб ты мяне заплаціла, штоб я ў цябе ўзяў?” А я гаварю: “Я ня знаю... У мяне грошай німа... Ну, я ні знаю, што я табе дала...” А ён гаворя: “А вот што!... еслі б ты мне дала свае гады... Мне дала... А мае сабе забрала... Я б табе аддаў хату, аддаў бы карову... У мяне і цёлка, і свіння паросная, і кабан, і куры ў мяне ё, і грошы... І вот устаў бы, узяў бы адзін тапарок, і пашоў бы... Еслі б так Бог... Цябе колькі гадоў... Дваццаць тры?” Я кажу: “Да”. – “Табе маіх семсят пяць гадоў, а твае гады мне б былі... Тапарок бы ўзяў і сказаў бы: “Варя ... Мілая... Хадзі, мая, дочачка!” Пацалаваў бы цябе... І сам бы тапарок на плячы, і маладзіцу сваю узяў бы: “Пайдзём, Моця!” І пашоў бы... І я б сабе тапарок адзін узяў... І хату бы зрубіў...” А я кажу: “Дзед, дак нада і гваздзё!..” – “Гваздзё ў лесі... Рубіць, на мох складаць – гваздзё ні нада... Вокны – гваздзей ні нада... Дзверы – то ж гваздзё ні нада... А нада гвоздзік, я б дзірачку прасверліў, найшоў бы свердзіл... Дізрвянны, дубовы з сука забіў бы... Яшчэ кряпчэй гваздю... І большы мне нічога...” А я гаварю: “А мост масціць?” – “Намасціў бы і мост! На шпунты ўзяў бы, і тож ні нада мне гваздо...” – “А ряшэціць?” – “Тож няі нада! Жэрдку прасверліў у стряпіліне і пазабіваў... І жыў бы без гвазда!..”

<*А чаму тады на плахую работу гавораць*: **Тапорная работа**?>

Усё калісь казалі: “Ета – **тапорная работа**”. Таму шта, як ужо тапаром ня дзелай, яно і цёпла будзя, і харошо... Но красаты тыя ж німа... Красаты...

<*А дзед Папок зрабіў бы тапаром... Усё адно ня так?*>

“Ну, ўсё раўно... І тапаром можна стругаць, як сухое палена... Ну, усё раўно – ні фуганак, ні рубанак...

**Таўчыцца, як таўкач →Старая баба, як таўкач у ступі.**

**Толькі так → Кроў на вочы наляжа.**

**Трамбабуль даць.**
(а) **Грэцкі С.В.:**
Пуцін Парашэнку як **даў трамбабуль**.
<*Гэта як?*>

Ну, як... Як цябе сказаць... *Наганяй даў*... Што ж ты *туфту* такую *меліш*?.. Што Расія перачысліла дзеньгі, штоб транзіт ішоў... Газ за граніцу, а ён вярнуў дзеньгі абратна... Как-будта задоўжанасць пагашая расійскімі дзяньгамі... І газ за граніцу не пуская.

(б) [З размовы з Грэцкім С.С.]

<*Ад каго навучыўся пра “***трамбабуль даць***”?*>

Ад бацькі.

<*Як бацька казаў?*>

“**Трамбабуль дам**! Я **трамбабуль дам** вам усем!” Трамбабуль. Эта – кагда малыя былі, дак не хацеў мацюгацца*”*.]

**Трамбула малоць.**

Нечыва **трамбула малоць**, пайдзёмце бульбу... Калісь усё так казалі... Набальшы мужчыны... Як сядзяць: “Пайдзёмце, разыходзьцесь... Нечыва **трамбула малоць**... А сабірайцесь, падзёмце па дамам...” У каждага дела найдзецца... Харошы хазяін найдзе ў дварэ дзела... А дурны... Ліш бы дзень прайшоў...

<*Ці казала баба* **трамбула малоць**?>

І баба, і матка, усі... Каму *на язык наскораю пападзе*, той і казаў.

**Трухлявая галава → Асінавая галава.**

**Туды (табе) і дарога → Штоб (каго-небудзь) агні палілі.**

**Тут як тут → Кошка сала зная.**

**Ту, нячыстая сіла! → Як шчотачка.**

**У абеі рукі прыняць →Па хвасту ударяць.**

**У вочы сказаць (рэзаць).** Гл. таксама: **Краянуць па банку; І ткаць, і прясць і чорту падковы падкаваць; Сталінская галава.**

Матка мая была рабацяга. І кароў даіла, і ў магазіні таргавала, і дома парядкі дзелала... Мы ні галадалі... Мы раслі, як з бацькам, з маткай... А яны крывіліся на матку... Прывязе што-нібудзь… Сябе ні дай, а ім… Матка Алёніна калісь казала: “Ты даўжна суседзям, а сябе ня ўзяць… Суседзі ня будуць коса глядзець…” А матка наша гаворя: “Чаго-та я буду людзей наряжаць, а сваім дзіцям… Напрымер, прывязу я хустачак… Мне нада ўзяць сабе, бабі і тры дзеўкі, і матка Вася прыдзя, як я куме адкажу… А вы мне хто?..” Матка ім **ў вочы рэзала**: “Вы ж міне толькі абсудзіце, да абгаварываіця, што злыдзень, дзве работы занімая…*Постаўку паабсцыкала,* бегала…” Крывіліся…

**У гасцях харашо, а дома лучшэ. (Харашо ў гасцях, а дома лучшэ.)**

Баба пойдзя... “Пайду, у Нікіфара (брат яе) пабуду...” Первая жонка памерла з радоў. Радзіла дзевачку Галю, тры дні прашло... Ета ціперь краваячэнія ўрачы астанаўліваяць. Яна с крыві сашла. Дак ён другую ўзяў. Дак яна: “Пайду, Галю адведаю... Нікіфар не абіжая?..” Яна харошая была баба... Хадосья звалі... Яна глядзела Галю, як і родная. Ня знала маткі, толькі радзілась, на трэцці дзень памёрла. Яна туды... Гаворя: “Пабыла... І ў Адаркі пабыла...” І прыдзя дамоў. Мы кажым: “Баб, добра, што ты прышла”. Яна і кажа: “**У гасцях харашо, а дома лучшы**. Дома я сама хазяйка. Калі хочу, саджуся есць. Я бачу, што калі нада дзелаць... І знаю, што калі ўвечары дзелаць, упраўляцца. А там сядзі, вочы вылупіўшы...”

**У горла з колам ні ўлезіш.**

К яму **ў горла з колам ні ўлезіш**... Яму гавары... Пачане гаварыць... Во ё перядача... Малахаў... І тэй крычыць... І тэй крычыць... Хто каго перякрычыць... І Малахаў бы сказаў: “Адзін выскажа, тады ты...” А то адзін аднаго ня слухае... Хто што... Адны – тое, другія – тое... Што **з колам ня ўлезіш**... *Хоць кол у глотку саджай*, а ён сваё цярэбя...

**У грэх уводзіць → Грэх у мех, мех прадраўся і грэх пацяряўся.**

**У гулі бегаць → Хадзіць па балонню, закрыўшы... ладонню.**

**У доўг залезць →У дрэбізгі разбіцца.**

**У дрэбезгі разбіцца.**

І *ў доўг залезлі*, штоб ужо стол накрыць харашо... **У дрэбезгі разбіваішся**. І свадзьбу дзелаць. І Шолам калісь казаў: “Я даўжон, штоб у міне лучшы ўсіх людзей была. **У дрэбезгі разаб’юсь**, *у доўг залезу*. Но штоб людзі міне не абсудзілі”.

**У душу ўлезць → Душа баліць.**

**У ёлачку (іцці).**

(а) У нас, там, усягда казалі: “**У ёлачку**”. І баба калісь казала: “Можна іціць проста і – **у ёлачку**. Дзед Майка прыдзя: “Палашка, можа, ішчэ плінеш?” Матка гаворя: “Ты ўжо **“у ёлачку”** хочыш **іціць**?”

<“**У ёлачку**” *– гэта як?*>

“**У ёлачку**” – няроўнай дарогай. Ужо туды вядзе не Бог, а чорт ужо вядзе: і туда і туда – **у ёлачку** – ходзяць, як напіваюцца.

(б) **У ёлачку пашоў**. То ж пряма чылавек ідзець, а то ж ідзець...

(в) [**Грэцкі С.С.**:

“Чым вы бацьку ўгасцілі? Сустрэў яго, **шоў у ёлачку**”.]

(г) Сяргей малы казаў: “Бачыў яго... **Ішоў у ёлачку** ад яе...”

<*Так у Амяльным казалі*? >

Да... **Пашоў** ужо **у ёлачку**... Ці баба... Наш прыдзя малы, на бальшога: “Ты ўжо **сядзіш у ёлачку**...”

<*Сяргей раней так казаў.*>

Усі так гаворяць. Ета прыказка такая.

**Ужо чорт усе фанары пабіў шукаўшы.**

<*На каго так кажуць?*>

На такіх, як я... *Чорт іх не бярэ, чорт іх не хватая*.

**Узрослыя круцяцца, маладыя вучацца. (Бальшы круціцца, а малы вучыцца. Стары круціцца, а малы вучыцца.)** Гл. таксама: **Ахоту сагнаць.**

(а) Я і ад бабы Алёны, і ад суседзяў старшых... На работу мы калісь хадзілі... Бабы сабе роботалі... А мы – падросткі... Брыгадзір пасылая палоць проса ці што-нібудзь... Калісь палолі, ціперь травяць... Нам гадоў па восем, па дзевяць, па дзесяць... І мы чуім... Што гаворяць, і мы вучылісь... Ці так на вуліцы сядзяць, ці ў сям’е... Так перяймалі... Адзін ад аднаго вучылісь... Гаворяць: “**Бальшы круціцца, а малы вучыцца**”.

(б) Вучацца ад каго... **Стары круціцца, а малы вучыцца**... Што старыя гаворяць, то малыя перяймаяць. Вот цыгане па-свойму... А зналі наш... Як яны панімаяць... Два языкі ўмеяць... А мы аднаго... Вучацца малыя ад бальшых...

(в) Танька Волкава... Яна пела харашо... Усі песні етыя пела, што мы пелі... Во мы пяёма... Тусіны дзеўкі будуць сядзець... Сядуць на кортачкі... Слухаяць і пяюць па-

свойму... А мы калі: “Ну-ка, ідзіця не кудлычця, не перябівайця нам!” І яны такія песні пяюць, як мы... Вучацца... Так жа ўсё пакаленія... Гаворяць: “**Стары круціцца, малы вучыцца”**.

**Узяцца за розум.**

**Узяўся за розум** і чылавекам стаў.

<*А так кім ён быў?*>

Дураком. Таварышаў слухаў. Гаворяць: “*Таварышаў слухай, да свой розум май*”. Наш ішчэ... Розуму гадам к трыццаці набярэцца. А ціпер ішчэ *шугія ветры*.

<**Шугі вецір** – *што гэта такое?*>

*Шугі вецір* – дуя без канца. А вецер што дае... Вецер толькі мельніцу меля. Во ета нада. Калісь вятрянкі-мельніцы былі.

<*На каго кажуць* **шугі вецір?**>

Хто абы-што гаворя. Такі ні самастаяцільны. Гаворяць: А ета – *шугі вецір*”.

<*Чаму* – **шугі вецір?**>

Бальшы вецір. Гаворяць: “**Шугавей** смаля, да і ўсё, без канца, без толку высушыя зямлю”.

**Узяць за шкіркі → Воталь падняць.**

**Узяць на язык → З горям папалам; Рябінавая ноч.**

**У каждам сяле па чорціку і ў каждай сям’і па чорціку.** Гл. таксама: **У каждам сяле па чорціку і ў каждай сям’і па чорціку.**

(а) Бывае ў сям’е па чорту, і бывае... Ні з чога... У нас Мурзіла быў... Будзя сійчас харошы, і сійчас табе *падымя сварку* і спор... Прыдзіш к яму...Вот што-нібудзь.. Ён скажа: “Нет! Так во!..” – “Нет, Мішка!.. Ня так!..” – “Нет, так!..” – “Да, да... Ета я забыла...”

(б) Во ета – пан і паненка. І ў Закружжы так дзелалі. А там (*у Стаўбуне*), гаворыш, німа. Якая ета “Стряла”? Дзед жа з бабай закапаваяць. А там усе закапаваяць. Вот, бачыш… Кажаць, **у каждай сям’е па чорціку і ў каждам сяле па чорціку**. Хто як ужо здзелае.

(в) Во дзяцей будзя пяціра. У каждай сям’е бывая па чорту і па сатане бывая. Бывая другому, яму ўсё колака, яму тоя ня так, тоя ня так. Вот бываяць такія людзі, і цвярёзыя, усё раўно яму штось ня так. Я на свайго Сярёжку і то кажу: “Во ужо *чорт у лапцях*! **У каждай сям’е па чорціку**, і нам Бог даў!” Будзя: “Не дасаліла!” А я гаварю: “*Перясол на спіне, а недасол на стале.* Вазьмі – не салёна, дасалі. А мне не наравіцца салёна”. Чорт – ета такі ўрэдны чылавек.

**У косці даць.**

*Б’юць да касцей*. Ні то што будзя сіняе на мясе, на руцэ, а будзя косць шчумець.

**У маслі купацца.** Гл. таксама: **Як вош у патыліцу зашчаміўся.**

Я адна… Да на сваей пенсіі... З міне... Я б **у маслі купалася**...

**У міре німа.**

Наша баба… Можа, **у міре німа** такія.

**У мяне дзела загудзела, засталося зарявець**.

Гаворяць: “**У мяне дзела загудзела, засталося зарявець**”. Калі прыдуць хтось к нам: “Ну, як дзела?” – пытаяць нашы... Ці сядзяць бабы, падыходзяць: “Ну, як, Ісакавіч,

дзяла?” А ты б сказаў: “**Маё дзела загудзела, засталося зарявець**”. Карова ряве і чылавек ряве, як громка крычыць, да сварыцца. Усі так казалі... Прыходзяць, пытаяць: “Як у вас тут дзела?” – “А... **Дзела загудзела, засталося зарявець...**”

**У мяне свой чэймадан, каму хочу таму і дам → Пайці па швам.**

**У нерабатня усе дні святыя. Гл. таксама: Нерабацень святых дней шукая.**

**У нерабатня ўсе дні святыя**.... Нерабацень і ў будні дзень ляжа, ***ляжыць колам***, ні спіхнуць яго на работу... Таму шта ён ня хоча работаць... І ў будзен дзень, і ў празнік... Яму б кажды дзень былі б празнікі... *Душэ празнік*... Во вып’е... Гаворяць: “Што ўжо душэ празнік іздзелаў? Во *распусці карэнні* і ляжы на печы..”

<*А чаму* **святыя дні** *называюцца?*>

*Святыя дні*... У святыя дні усё ж не работаюць... Баба: “Паабедайце і гуляйце...

**У неряці быць → Хоць сіло на глотку.**

**У нітку цягнуцца.**

Баба ўсё калісь казала: “Полячка, **у нітку цягніся**, штоб дзеткі не галодныя былі”.

Усі так казалі: “**У нітку цягніся**, да не атставай ад людзей”.

Я калісь... Жыта жном у калхозі... Еслі бачу, хто займе паўз мяне... Ці атмяряе палкамы атмяряе, сажэнь такі быў, у сажні два метры... Вот атміряім... Еслі ты заняў дзесяць сажняў шырыны, і краю німа дліны, і я ішчэ адзін здзелаю – адзінаццаць, штоб у міне болей было. Міне “канбаін” усё звалі: “Канбаін, хадзі ўжо, сядзь. Яны сядуць абедаць, а я думаю: “Дай ішчэ сноп нажну!” Пакуль яны пасядзяць, там раскінуць сваё, да пагігікаяць, сабіраяцца: “Хадзіця... Ўмесці паабедаім”. А я снапоў пяць нашарашу. І ня мытая дамоў пайду. Там вада астанецца, дак яны ўмываяцца, а я скарэй дажынаю. Яны: “Заўтры дажнеш, і мы не дажалі”. А я думаю: “Сноп-другі”. І сумку ўхватываю, серп і бягом даганяць, хоць яны і пойдуць. І даганю. Штоб я болей здзелала. Вот у міне замашка такая. **У нітку буду цягнуцца**, сілы німа...

**У няўмекі рукі не баляць.**

Гаворяць: “Ня ўмею, ня знаю...” Усё матка наша казала і баба: “**У няўмекі век рукі не баляць**”.

**У папа рукаў шырокі (бальшы).** Гл. таксама: **З бальшым (вялікім) пузам (ротам) на папоў двор.**

(а) **У папа скрозь шырокі рукаў**.

<*Хто так казаў?*>

І баба наша, і дзед Майка, старыя бабы, мужчыны. Вот гаворяць… Калісь у імбар прыдзя прыдсідаціль і кажа: “Усё нада сыпаць у калхозны імбар”. А мужчыны і бабы будуць гаварыць: “Імбар – ета тый самы *папоўскі рукаў*”. У папа шырачэнны рукаў. Туды сыпіш, а ён із рукава ў карман, у карман. І *век папоўскага рукава не насыпіш,* патаму шта ён находзя, куды сыпацца – і грашам, і вашам. *Папоўскі рукаў*, да такія пражорлівыя сем’і ёсцека: жруць, і ўсё мала. Калісь у Козырыхі... Уб’юць кабана. Ета кажды дзень у іх – жаркоя. Калісь у год раз аднаго кабана білі. А ў іх – сёдні пад’еў, а заўтра – *што Бог дасць*. А *Бог не скідая з неба*. Баба наша казала, баба наша і чыстая была, і эканомная, дак казала: “Куліначка, *Бог з неба не скідая*. А як у кадушцы бярэш, да чугун, тады...” Панажыраяцца: “Ой! Мы ўжо панажыраліся мяса!” Ета на месяц тога кабана! *Квам – да і німа*! А то ходзяць па дворах. А наша баба ўсігда эканомная была. У яе штоб на стале абы як кускі сала ліжалі? Яна нада... Мы ў бабы: “Баба, дай нам сала”. Яна пойдзя, адрэжа па скібачцы: “Хваця, дзетачкі. Заўтры ішчэ дзень будзя”.

(б) Баба семкі будзя дзяліць. Стакан поўны. Баба наша ні то шта аднаму коптарам, усім роўна дае. І дасць Ягорку. А Туся наша ўсё падкалывала. Стаіць і кажа: “А мне болей баба дала”. Ён: “А-а-а! Як Тусі болей. І мне болей дай!” А баба роўна дае. Дак баба гаворя: “Ягорка, ідзі к папу. Ён табе... **Рукава шырокая**... Багата насыпя... А хоць... у цябе рукаў шырокі, як папу сыпіш – і ўсё мала. Усім роўна дала”.

(в) Баба ідзець: “Дай ты мне ўжо грошай на свечкі”. Матка: “Ну, сколькі ж табе?” – “А я за ўмёршых стаўлю свечку і за жывушчых. На дзве свечкі”. Матка: “Да ***ў папа рукаў бальшы.*** *Хоць з канём заязжай*! Туды: хоць мяхі бульбы кідай, хоць капусты лісця – усё ідзець*, як чэряз канвеір*, пашло і пашло. Поп усё прымая”.

**У папа рыза шырокая.**

Усё баба казала: “**У папа рыза шырокая**. Сыпь і туда мех бульбы – не аткажыцца... Усё бярэ і бярэ...

**У папоўскім рукаву дна толькі німа →Сыпіцца (сыпаць), як з рукава.**

**У полі ветра шукаць.**

Ну, праўда, ідзі ў поля... Вецер гуляя. Найдзіш ты яго? Ён шугануў і пайшоў далей на лясы і на паля, і на дзярэўні. Усё баба... Гуляюць – ідзі, **у полі ветру шукай**. Ты яго не найдзіш. Так і жэніха. Апусціся... Яны на вечар, *цягаюць* цябе, *як сучку*... Ня будзіш знаць, ад каго каторы радзіўся.

<*Калі яшчэ так кажуць?*>

Як паціряіш што-нібудзь... Паціряў, гаворяць: “Ну, ідзі, **у полі ветру шукай**. Ужо не найдзіш.

**У прадаўца здачы, а ў краўца астачы.**

Шубку аддалі бальшую краўцу, штоб малую сшыў. Баба гаворя: “А дзе ж астача?” А матка гаворя: “**У прадаўца здачы, а ў краўца астачы** нікалі не бывая. Яны век не аддаюць”. І, праўда, ён із тога даісшыя. Калісь адна гаварыла: “Я сшыю кохтачку, астанецца, хоць і маленькі лапік астанецца, я пашыю камбініравана кохтачку. Рукаўкі такія здзелаю, да ў другія ж астанецца – во і глядзі-ка: маёй будзя дзеўцы кохтачка. С усякіх лапічкаў. А тады ўжо паглядзім: сын яго бегая, такая во безрукавачка. Баба: “Палядзі-ка: з нашае шубкі!” Матка: “Не чапайся! Не гавары! Усё! *Прапала дзела*!”

**У празнік і дурак панаравіцца.**

Ета баба наша ўсё нарядзіцца, дак я гаварю: “Ты ж бы прыбралась”. А яна: “Хай ён міня паглядзіць, якая я на кожды дзень. А прыбяруся, буду сядзець, ты прыдзіш, скажыш: “Куды-та ты сабралась?” Ета мне ня нада”. Баба наша ўсё казала: “Дзеці! Будзь ты ў будзёнкавым у будні дзень, хай цябе людзі паглядзяць, ці жаніхі, ці што, а **ў празнік і дурак панаравіцца**. І дурака вазьмі, будзя дурны, а будзя красівы. А ты ў будзен дзень, хай цябя паглядзяць, якая ты. Хай ён паглядзіць міня ў будзен день, а то прыбяруся, буду сядзець. Ета ўсё: *дзеньгі – прах, адзёжа тожа, а любоў усяго дарожэ*”.

**У пузе “Трэццяка” рэзаць → Ня плюй у лужыну, а прыдзёцца напіцца.**

**У п’яніц і нерабатней усі дні святыя → Нерабацень святых дней шукая.**

**Урадзімцы давілі (ганялі).**

**Дзе цебя** ужэ **ўрадзімец давіў**

Я гаварю: “**Дзе цебя** ужэ **ўрадзімец давіў**?”. Ўрадзімец – эта чорцік. Баба наша нічога не гаварыла. Ета я наўчылася тутака. “***Дзе цебя ўжо ўрадзімцы давілі?***” Ета

хадзіў без толку. Я счытаю. Ён гаворя: “Баб, я ж не без талку. Палядзі, які я мазаны, палядзі якія рукі”. Ці “*чорт цябе ганяў*”, ці “ўрадзімец”.

**У руках дзяржаць**.

Ён бы піў, да яна яго **ў руках дзяржыць**.

<*Што значыць:* **у руках дзяржыць***?*>

Прыкажа... І ўсё.

**У рыла даць → Скачы, уража, як пан скажа.**

**У сарочцы нарадзіцца.**

Баба мая кажа: “Унучачка, ты даўжна быць шчаслівая”. Я гаварю: “А чаго?” – “Ты ў сарочцы радзілась”. Я: “Баб, у якой?” – “Дзіцёнак жа родзіцца... А ты паляжала ў пялёнках, увярцелі... Палядзім: мордачка не такая. Пачалі аблуплiваць, аблупілася сарочачка із ручак, із ножак, такая тоненькая, як плевачка. Дак ты **ў сарочцы радзілась**”. І матка мне ўсё казала: “Маша без сарочкі радзілась, і Туся, усі дзеці, а толькі дзве Танькі радзіліся, дак да палавіна сарочка, а ты полная, на ножках, і ўсё…” Я гаварю: “Баб, куды ж ты тую сарочку?” А яна гаворя: “А з пупавінай умесці. Пуп і тую сарочачку, яны падсохлі, дак усё калісь казалі: “Як замуж будзя іцці, дак штоб багатая была, у сундук пакласць”.

**У сем дарагоў (заплаціць).**

Ну, прымерна, ты мне скажыш: “Руб!” Я другому, можа, сем раз заплачу па рублю, толькі не падчынюся. Даражэйшы яно выходзя. Ты б мяне за руб давёз, да пачаў карячыцца перяда мной. Я б ужо болей не прасіла. Ета ўсі скрозь гаворяць: “**У сем дарагоў заплачу**, толькі не яму”.

**Усенашная ноч → Рябінавая ноч.**

**Усенашнаю ўстроіць → Рябінавая ноч.**

**У старасці дзве радасці.**

Баба казала... Я гаварю: “Баб, як пражыць на свеці, штоб добря было?” А яна мне гаворя: “Пра маладосць ня думай, а нада думаць пра старасць, што сілы німа. **У старасці дзве радасці.** Сілы німа... Рад бы здзелаць, а сілы німа... І чуствуіш, што сілы німа... Мешаіш у дварэ... А малады... Куды нада, і пайшоў, і здзелаў... Сіла ё...

Німа сілы работаць... Рад бы здзелаць, а сілы німа...

<*А другая радасць?*>

Ты мяшаіш у дварэ... Ужо лішні... Падрастая новае пакаленне, ужо цябе ні жаласці, ні міласці... Жыві, *як пень*...

<**Як пень** – *гэта як?*>

*Як пень* стаіць... Ён нікому ня нада... Мяшая, ссякуць *к чортавай мацеры*...

<*Першая радасць – рад бы здзелаць, да сіл не хапая.* А другая?>

А другая – мяшаіш у хаце. На што стары ў хаце...

<Дак якая ж – гэта радасць?>

Ці ты ні панімаіш? Плахія радасці... І адна, і другая... І сілы німа, і мяшаіш у хаце...

**У сям’е не бяз вырадка → Хвост паджаць.**

**Усякай твары ў Госпада па пары.**

Вы сказалі: “**Усякай твары ў Госпада па пары**... ”]

Самкі німа ці самца вот табе і... Пеўня німа ў дварэ, куры яйцы без пеўня ня будуць выводзіць... Ета па прыродзі правільна... І па прыродзі так... Ета – сушчая праўда... Цвет і тэй апыляіцца... Цвет і цвятніха бываяць... Во жыта красуіцца... Самец і самка і ў жыці, і ва ўсём расценіі...

**Усякія ж твары шукаяць па пары.**
**Усякія ж твары ідуць па пары.**

Усі ж паруюцца. Гаворяць, *шукаяць купец купца, а сляпец сляпца*. Сляпец шукая, штоб... Харошы з ім жа ня пойдзя па вуліцы. І ідзець жа сляпец такі, удвох. Жэняцца такія. Паруяцца. Багаты ж бярэ... Не бярэ бедную, а бярэ багатаю. А бедны ўжо бярэ, хто пойдзя. Кажды шукаіць, гаворяць... **Усякія твары ідуць па пары**. Ета скрозь гаворяць усі. Баба казала наша. Я гаварю: "Баб, паглядзі-ка ты..." У нас галубы дзікія вяліся. Яна гаворя: "Ну, **усякія ж твары шукаяць па пары**". Так жа і людзі, так ж і ўсі.

**У ход ідзець.**

Павел акрошку варя. А мы халаднік варыма. У нас ён **у ход ідзець**. Ядзім.

<**У ход ідзець**. *Гэта як?*>

Ядуць. Гаворяць, тавар **у ход ідзець**. Еслі красівы ці харошы, дак ідзець. Калісь няйлонавыя сарочкі... Цяпер іх ніхто ня носіць. А калісь, купіць, *аж прягнуць*.

**У шаўковае лета нарадзіцца.**

**Шаўковае лета**... Усё баба казала наша: "Пройдзя **шаўковае лета**, за што ні цапні... І травінка шаўковая, і бурачок шаўковы – усё шаўковая... Мякінькая такоя, харошая... **Шаўковая** завецца.

<*На каго так казалі?*>

Ну, на каго... Усё баба казала на лета. Мы прыдзім: "Баб, вон кошка вышла і траву есць". – "А ета – **шаўковая лета**. Ніхай есць хто што хоча: чэрвячкі ядуць шаўковаю траўку, і камаркі..." І пачане ўсіх... Ета называіцца "**шаўковае лета**".

<*А на каго так казалі:* "**У шаўковае лета нарадзіўся**"*?*>

Еслі харошы чылавек... Вот пачане, еслі харошы чылавек, дак баба ўсё і кажа... Хадзілі з намі тыя мужчыны гуляць... Што-нібудзь дзелаць, яны прыходзяць: "Алёнка, так і так". Матка: "Ідуць к табе, *як і к Богу*". – "А ніхай! Дай Божа, памоч чылавеку, да не абідзіць". І будуць усё казаць: " Яна **ў шаўковае лета радзілася**". Добры чылавек **у шаўковае лета раджаіцца**.

**У чорта із зубоў смалу і тую выцягніш**.

На такіх, як папрасімкі, казалі: "Ты **ў чорта із зубоў смалу і тую выцягніш**, а ні то што ў чылавека". Такія людзі бываяць завіслівыя, калі б ім даваў, даваў, даваў... Усё б брала, жрала і не нажыралася... Такія людзі ё – ненасытныя!..

**У чорта на кулічках → К чорту на кулічкі.**

**У чорта сваіх да чорта.**

Баба: "Ягорка, еш". – "Баба, я ня буду есць. *А ну яго к чорту*!" Яна: "**У чорта сваіх да чорта**".

**У чужую душу ўлез, што зашоў у цёмны лес. → Чужая душа – цёмны лес.**

**У якар сесць.**
**Як на якар сесць.**

Якар жа на мель садзіцца, так і я **села** ўжо **ў якар**.

<*Калі так кажуць?*>
*Села на ногі,* **як на якар,** ужо *ні туда, ні сюда*. Ня можа яна ўжо хадзіць.

**Хадзіць па балонню, закрыўшы (жопу, курыцу, сцуллю, манду) ладонню.**

(а) Сядзелі, прялі лён, дак яна мне і гаворя, матка наша: "Сядзіця, а то будзіця ***хадзіць па*** **балонню, закрыўшы ладонню**! Прядзіця!" Туся сядзя, сычолак павешая. Матка: "Бяры ты!" І мне – самапряху. У бабы была свая, у маткі – свая, у мяне і ў Машы. Матка пашла работаць бугалцерам, дак Туся пряла. Мы прядом да дзяржым нітку крэпка, дак яна сукараціцца. Матка: "Ужо парвала. Суколка ўжо вясіць! Во ўжо панавешывалі, нерабатні! Прядзіця! Ой, сучкі етыя, толькі б у "Сучку" гулялі, кала двара лета і зіму *ў гулі б бегалі*!" Мы: "Мам, мы на адну мінутку пабягіма!" Дак яна: "Будзіця **хадзіць па балонню, закрыўшы ж… ладонню**!" – "Ня будзіма!" Яна: "Такіх сусолак панавешылі..." А там вісіць... Я ціхінька вазьму, скомкаю і ў грубку ўкіну. Яна агледзя і кажа: "Падбяры! Нада і мех, нада і дзярюга, і посцілка, і дзярюжка, і ўсё!" Загадая. Я думаю: "Як я буду распутываць? Я ўжо пакачала ўсё".

*У ***сучку*** гуляць – у класікі.

(б) **Хадзіць па балонню, закрыўшы курыцу ладонню**. Усё матка казала: "Дзеўкі, прядзіця! Прядзіця кудзелі". Путнога ж не давала. Путны ж лён, дак яна сама, матка, і баба пряла: на аснову ж нада крэпенька. Мы падойдзім... Лён тый ужо: "Дай і мы!" Матка: "Што вы дзелаіця? Вы напрядзіцё *дзе з колас, а дзе з волас*". Дзе тоўста, а дзе яна парвецца – тонінька. Прыдзя, па руках лупя: "Атыдзіцісь!" А дае толькі вярхоўя нам – патрэп'я. А яно ж слюніма, палец ужо зрэжэцца, папрядома трохі, абы матка пашла на работу, мы кідаім. А матка ж на цэўцы бача колькі папрядзіна. Палядзіць: "Во, *сучкі цапныя!* Будзіця **хадзіць па балонню, накрыўшы сцуллю сваю ладонню**! Вы ж ні прялі. Сарочак вам шыць ня будзім. Вот выткім палатно, бабе сарочак нашыю, сабе нашыю, Ягорку, ён хлопец. А вы будзіця хадзіць па балонню... Як прялі, так і сарочкі..." Матка ў нас сама шыла і плацці, і кохтачкі.

(в) Ярмаркі былі ў Свяцкой. Мы калісь туды і на базар насілі. Цыбуля парасце. Нарве баба. У пучкі, у лляныя нітачкі павяжэ, і панясома... Там дзед адзін лапці насіў: "Варячка, калі мы з табой пойдам у Свяцкую?" – "Хоць і кажды дзень цыбулю буду насіць". А ён лапці плёў... Дак туды ў Расію прыходзяць людзі з ганакоў на ярмалак... Куплялі і лапці, і цыбулю, хто што. І мы канфет хочым купіць. "Ой, не!.. Панясом матцы. Матка хусцінку купя якую ці што-нібудзь. А то ж бацька не зарабляя – памёр". Прынясом: "Мам! Столькі во паглядзі!" Прададзім пучкі тыя. Матка: "Ну, вы ж бы сабе канфетак купілі". – "Не, мам, лучшэ хустачку купіш". Во як жылі. А ціперя яны... Наш халасцяк засраны, гаворя: "Баб, ціпер мода – панасіў два гады – выкідаць нада". Я гаварю: "Насі шчэ! Шуляты закрытыя. А то будзіш **хадзіць па балонню, закрыўшы ладонню"**. Шуляты – ляшкі. Баба ўсё: "Будзіш **хадзіць па балонню – шуляты накрыіш ладонню"**.

(г) Большэ смашнікаў есць нада! Ё – другія... На смашнам можна праесць, на пряніках, на канхветах, на пячэнні – душа ўсяго хоча. А тады што? Можна і не купіць што-нібудзь. Лучшэ вешч купі якую-нібудзь, **штоб не хадзіў па балонню, прыкрыўшы манду ладонню**. Нада эканоміць, эканоміць і эканоміць. Тады толькі будзя чылавек жыць на свеці, як нада.

**Хадзіць па міласціні → Ходзіць, як кабыла з кусюркам.**

**Хай з (імы) чэрці гаворяць → У раду не бяз вырадка.**

**Хай с (табой) Бог разбярэцца і пакарая цябе → Штоб (цябе) Бог пакараў.**

**Хай с (табой) Гасподзь ідзець** і памагая...

<*Калі так кажуць?*>

Калі жалаюць харошага, дак гаворяць: "Хай с табой Гасподзь ідзець у дарогу і аберягая цябе". Калісь баба казала: "Ніхай Гасподзь цябе аберягая". Калісь ідзём... У Злынку іду калісь... Буду ў Закружжа іцціць, і баба пажалая: "**Хай с табой Гасподзь ідзець**..."

**Хай падняць → Бучу падняць.**

**Хай (вам) Гасподзь удачы дае → Гэчы на плечы, Багародзіцу ў карман, да і пайшоў.**

**Халу ў палу.**

Вот Пашка хваліцца сваім Іванам. Яна разоў дзесяць сыходзілася, разыходзілася. А будзя хваліцца, як сойдзіцца: "Во! Кажаць, Іван мой плахі. А Іван прышоў... На рукі міне і на вуліцу выняс!" Нядзелю пражывуць, ужо **халу ў палу** і нясёць к бацьку. Куды ж пойдзіш? Калісь бацька казаў: "Еслі ты ішчэ нарадзіш такіх во Іванаў, як первага нарадзіла, да будзіш адзін за адным украдні ряджаць, дак я... Ні ўспеіш радзіць, я буду ў ряку, у ряку кідаць. Толькі пойдзіш – і зноў **халу ў палу**... Дзіцёнка ужо... **"Халу**, – гаворя, – **у палу**... І зноў назад: "Я зноў прышла..." – "Хто табе вінават?" – "Свякруха ўрэдная, залоўкі ўрэдныя... Ён на міня..."

<*Калі так казалі?*>

Свякрухі на нявестак. Куды ідзець нявестка гуляць, яна і гаворя: "Бяры **халу ў палу** да ідзі! Я яго ня буду нянчыць. Я то ж пайду гуляць!"

**Хама ляжаў, да тэй пайшоў.** Гл. таксама: **Такая чэсць, як сабаку ў карыці.**

Усі так гаворяць: "**Хама тут ляжаў**". Німа ўжо нічога. Ці ў магазін прыдуць. І ў магазінах не было калісь нічога. Прыдуць: "Ё што ў магазіне?" – "А **Хама ляжаў, да тэй пайшоў**".

<*Чаму Хама? Чаму ні Іван, ні Пятро?*>

Такі нерабацень быў. Нерабацень, п'яніца. Харошага не скажаць.

**Хамянём ходзіць.**

Гаворяць: "**Хамянём ходзя**". А што ета за хамень?

**Хамянём ходзя** каля нявесты ці кала каго там ужо... Ты б абрашчался ці я... Ня знаю, як сабразіць, но так гаварылі.

<*Гэта па-добраму ці не?*>

Па-харошаму.

**Хамут нязграматны → Не дай Бог свінне рогі, а дураку такому панства.**

**Хапай (хватай) хатку на лапатку – да ня ўхваціш.** Гл. таксама: **Сталінская галава.**

Усё гаворяць: "**Хапай хатку на лапатку**". А не ўхваціш ужо. Мы калі-нібудзь што-нібудзь *шкоду здзелаім*. Матка будзя сварыцца. Баба: "Полячка, не чапай! Не чапай! Не рві дзяцей. **Ужо хапай хатку на лапатку – да ня ўхваціш**. Ужо ўсё. Шкода ўжо праізашла.

**Хараша Масква красой, да абычай не харош.**

Усё казаў дзед Майка, ездзіў, у яго сын там... Прыехаў... Баба гаворя: "Ну як, Майка, Масква красівая?" – "Алёнка! **Хараша Масква красой, да абычай не харош**. Ня дома. Не чарак не пападаў лішні. Абедаць сядзім, рюмачку... Што мне ета рюмачка... Мне кружку нада". І другія казалі. Багата я чула.

**Хараша цюрма, да чорт ёй рад.**
**Хараша залатая клетка, да то ж чорт ёй рад.**
Салавей з салоўкай  смуцён-невясёл,
Ой, павесіў галоўку, зёрна не клюёць.
Павесіў галоўку, ой зярна не клюёць.
–  Ой, кляваў бы я зёрна, да клювушкі ў мяне нет,
Ой, кляваў бы я зёрна, да клювушкі ў мяне нет.
Ой, запеў бы я песню, ой да голасу ў мяне нет.
Ой, запеў бы я песню, ой да голасу ў мяне нет.
Ой, залатая клетка ссушыла да міня.
Залатая клетка, ой ссушыла да міня.
Ой, малада салоўка ў саду гуляла.
Малада салоўка, ой ў саду гуляла.
Ой, як бы я рад у садочку зелёнам пагуляць.
Рад бы я ў садочку ў зялёным пагуляць.
Ой, рад бы я з салоўкай песенкі паспяваць,
Залатой жа клеткі, ой, дзверы не адчыню
І да сваёй салоўкі я не вылячу.
Хазяін жа клеткі, ой. дзверкі замыкаў,
Залатыя ён ключы да з сабою забіраў.
Гулялі-спявалі ў зялёнам жа саду,
Зачапіўся салавейка ў сетку шоўкаваю.
Зачапіўся салоўка, ой ў сетку шоўкаваю.
Ой, пасадзілі салавейку ў клетку залатую.
Ня буду з салоўкам, ой у садочку я гуляць,
Ой, ня буду з салоўкам песенкі спяваць,
Будзя мой салоўка ў залатой клеткі засыхаць,
А я ў зялёным садочку слёзкі праліваць.

Яго з клеткі ня пусцяць, а яна кругом у саду будзя слёзкі праліваць. Ета я ў бальніцы ліжала... Калісь рука ў мяне забалела... І там старая бабка ліжала, яна гаварыла, што ёй дзевяноста гадоў, дак яна пела... Уряд койкі, дак сядзім, яна гаворя: “Умеіш ты пець?“ Я гавару: “Люблю”. Дак яна гаворя: “Давай песенку”. І етага “Салавейку” прапела. І разоў колькі прапелі, я ўжо запомніла. Дак яна і гаворя: “Во як у клетке залатой! **Хараша цюрма, да чорт ёй рад**. **Хараша залатая клетка, да то ж чорт ёй рад**. Сядзеў у клетцы, так бы ён лятаў, шугаўся  на крыллі, да з салавейкай упару, а то салавей папаўся ў клетку, а яна не папалась. Дак тая на воле, а еты тут сушыцца, ня п’е, ня есць”.

**Харошы хазяін найдзя работу →Пусці-павалюсь.**

**Хвалі, да з ног валі.**
Будзя з табой гаварыць, а будзя табе ўраг.

**Хвастом накрыцца.**
**Узяла і хвастом накрылась.** Так усі гаварылі: “**Хвосцікам накрылась**”. Еслі **хвастом накрыў**, ета ўжо ні аддасць. Скрозь усі казалі. Вот другая хлеба сёдні ў цябе пазыча, заўтра ў другія, у трэццiя... А аддаваць... “Я, уродзі, не брала”.  –  “Да ты ж брала. А то хочыш браць і **хвастом накрыць**. Дак аддай!” Усі казалі: “Узяў і **хвастом накрыў**”.

**Хвокусы выкідаць.**

Прыдзіш з работы ўтомлены. Баба: “Ну як, мая ўнучачка, ты сёдні патамілася?” – “Ой, баба, (а калі ні баба скажу, ой, Алёнка Максімаўна), так ужо ўтамілася, што... Трошкі на грубцы сяду, да пасяджу...” І баба: “Сядзь, мая ўнучачка. Есць табе паднесць”. Я гаварю: “Ні нада, баб..” Ну, што я на бабу буду крычаць... Ні зла, ні што... Поваду німа... А ён... Прышоў, дак абраціся, *як чылавек*... А што ты *глотку разявіў*... “Маскву, – гаварю, – глоткамы не крычалі: “Ідзіця, немцы адсюль!” А мудрасцю, хітрасцю... А не дапусцілі – Маскву ні ўзялі... Які Гітлер ня быў сілён.. А то **хвокусы** будзіш сваі **выкідаць**...

**Хвост адчышчаць (ачышчаць).** Гл. таксама **Колькі ваўка не кармі, ён у лес уцякая.**

Мол, мы не вінаватыя... Мы нічога ня знаім... Усягда так гаворяць: “**Не адчышчайця свой хвост**... Ты яго ўжо *абасрала*, дак не ачышчай”. Другія возьмуць, набрэшаць што-нібудзь. А тады прыходзяць: “Я – ня я...”

Павел прышоў... У суд падалі... І прышоў ***хвост ачышчаць***... “Варя, нічога ня знаю... Ета ўсё Аляксеяўна”. І ета: “Я нічога ня знаю”. Я гаварю: “Бачыш! Тэй ***хвост ачышчаў***... І ты...”

**Хвост паджаць.**

(а) Яны ўжо **хвасты пападжымалі.** Нічога не гаворяць...

(б) Яна бряхню точа і **хвост падажме:** “Я ні я!” Вот і думай: “Хто і што?..” Матка: “Штоб ета баба расказала...” Я: “Баба ня скажа. Я за бабу *грудзью іду*. Баба ня скажа нікаму”. А яна во што дзелала... **Хвост падажме** і сядзіць... К Барысавым пойдзя: “Ні кажыця... А то матка дапытываіцца: “Хто казаў?” І тое выкажа.

**Хіміны куры**.

**Хіміны куры гарадзіць.**

**Хіміны куры наплутаць.**

**Хіміны куры пайшлі ў разнос.**

(а) Глядзі, як ён рушнік павесіў – **згарадзіў хіміны куры**.

<**Хіміны куры** – *гэта як?*>

Ета чагось *справеку веку* гаворяць: “Ідзі ты!..” Ну, хто абы-што гаворя, гаворяць...”А ідзі ты, **як хіміны куры**, не плетухань!”

(б) Чось усі тады гаварылі. “У Хімы, – гаварылі, – курэй ня кормяць. З куросання зляцяць і пашлі па чужых дворах... Хто насыпя... І, праўда... Бегалі там у нас у адныя, нечым карміць, дак яны выскачаць на вуліцу, бягаць у чужы двор... Куры хоць і дзяўбуць, яны ўварвуцца.

<*На каго так казалі?*>

Я б і на цябе сказала. Ты б адно не дадзелаў, другоя браў. Дак і я. Адзін канец ізвязала, ужо закруціла і рушнік, і ўсё... Матка: “Во ўжо! Рабацяга! Ня знаюць людзі, што **хіміны куры** – ня дзеўка. Дадзелай мне рушнік!”

(в) Што-нібудзь іздзелаіш ні так, брыгадзір прыдзя: “Эх, вы, **хіміны куры накурдаячылі**!” Ці грябом сена, пройдзя патом... Другія чысцінька, ён і гаворя: “Ета ж касіў чылавек травіну ету, сілу ўклаў, а вы нячыста, **як хіміны куры,** пагряблі. Быстра мне перягрябайця!” Што плахоя – назавуць **хіміны куры**, усё плахоя.

(г) Усё баба наша... Што-нібудзь здзелаю... Асобенна ў кросны... Кросны як тчэш, дак баба подойдзя... “Баб, нітка парвалася”. Не пабачыла... Блізна ішла. Яна падойдзя, будзя казаць: “Ой, **хіміны куры**! Ты ж глядзі, штоб блізны не было”.

Блізна. Вот нітка парвецца, яна парвалася і тут заплуталася ў нітах, а тут ўжо ідзець блізна... Ніткі не хватая... Дзве ўмесці ідуць, і ўжо німа такія крэпасці. Ета называіцца “блізна”.

І баба будзя казаць: “Во **хіміны куры**”. І матка прыдзя: “Ужо **хіміны куры наплутала**”.

**Хіньцю няньчыць.**

**Якую ты хіньцю нянчыў?**

Вот тады ў нас гаварылі, як хто прыдзя к нам. Калісь Мельчыха, ну, суседзі, прыдуць, матка і гаворыць: “**Якую ты хіньцю нянчыла**, што не прыходзіла?” Аны кажды дзень атмячаюцца ў нас. Прыходзяць хоць на мінутку... Хіньця, калісь балезь такая. Тады ўжо пачалі “**хіньцю**” называць “ліхарадка”. Па-навучнаму. Вот труся чылавека.

<*На каго так казалі?*>

Вот ты б доўга б ня быў, я б магла на цябе...

**Хісць адпала.** Гл. таксама: **Капрызы ламаць.**

Ужо ні захацела... *Хоць* ты мяне *ўбей*... **Хісць адпала**... Проста вот жэланія німа...

<**Хісць** – *гэта што?*>

Ня хочу... **Хісць адпала** – ета ўжо ўсё...

Танька мне гаворя: “Нарысуй мне красіваю простыню... Штоб ні ў кога такія не былі”. А я гаварю: “Давай, такую нарысую, штоб толькі з адценкамы вышыла”. Яна гаворя: “Добра”. І мы з ёй прыдзім, я гаварю: “Тут такой забалацццю, тут такой дзелай”. І яны, *як жывыя*... Розы ў яе. А я ўжо сабе розамы не захацела. У Танькі ё, я ўжо ня буду. Ужо мая **хісць адпала**... Я ўжо нарысавала... Мне надаела... Маша: “Ну, ты ж розамы...” Ня хочу розамы... Я макамы буду... У мяне ж макамы...

**Хлеб перябіваць.** Гл. таксама: **Як убіты (спіць).**

Абрячоныя дзелалі іконы, а ціпер ужо ўсё ў цэркві. Танька во дзелала Буланава, дак поп прышоў і сказаў: “Я цібя судзіць буду! **Перябіваіш хлеб** мне!”

**Ходзіць, як кабыла з кусюркам.**

**Ходзіць, як старец з павадырём.**

(а) Кабыла ж ажарэбіцца, куды сама, туды і кусюрка бягіць. Кусюрка – дзіцёнак іе малінькі.

<*На каго так кажуць?*>

Другія ідуць... Калісь у нас... Сабіруцца ідуць... Соня была і Арцёмачка, мужык іе... Ён ёй па плячо... Мужык... Яна высокая такая... Гаворяць: “Ідзець **ужо кабыла с кусюркам**”.

(б) Усё калісь казалі... Еслі малы ідзець... Еслі мужык бальшы, а жонка малая, гаворяць: “Вон ужо ідзець, **як кабыла с кусюркам**”. Ці: “**Конь с кусюркам ідзець**”. У нас там быў мужык малы... Яна даўбня высокая... А ён такі малінькі...

*Хадзілі па міласціні*... Гаворяць: “Вон ідзець, **як старэц с павадырём**”. Павадыря ўсё меньшага... Што б хлеб не адбіраў... Дак усё меньшага бралі. Папытаяць: “Бальшы павадырь?” Я – сляпая, а ты – відзяшчы... “Бальшы”. – А *на чорта* ён? Малінькага... Штоб сухары не паатбіраў”.

(в) Баба наша... За што мяне, кажа, Бог наказаў? Ці што я з маткай сварылася? Мы говорым: “Баб, за што ты сварылася?” Яна нам расказывала, за што сварылася. Была, гаворя, сястра... Сляпая радзілась... Вочы глядзяць, а нічога ня бача. Дак яна яе, бацька мой харошы, бабы нашай бацька, а матка ўрэдная была, гаворя, ету самую, сляпую дзевачку, яна Веру ету, сястру маю, пасылала па міласці. Бацька плакаў і казаў: “Ня нада! Пашлеш яе па міласці, няўжо мы яе не пракормім?” Яна: “Ніхай ідзець кускоў прынясе хоць хлеба!” Жадная была. І найшла павадыря, штоб яе вадзіў. Дзень пахадзіў, кудысь на сяло вадзіў, прышоў дамоў, хлопец такі, прывёў яе, у слязах. Я гаварю: “А чаго ты ў слязах?” – “Алёначка, я пайду ў Закружжа ( возера там такоя бальшоя), дак,

гаворя, пайду ў возера і ўтаплюся”. – “Чаго ты пойдзіш?” – “А, – гаворя, – не пайду з етым хлопцам. Ён мяне валяя. Абы што хацеў дзелаць. Дак я не пайду з ім”. Я за яе, прывяла дамоў, кажу: “Вера, ты большы нікуды ня пойдзіш!” І паатбіраў у яе сухары, а даў трошкі, там хлеба, хто што даваў.

**Хоп-шлёп.** Гл. таксама: **Скоры паспех курам (людзям) на смех.**

Работала **хоп-шлёп**… Тут укопня… Бульба… *Чорт яе бяры*… А калхозу што… Мы выкапываіма чысцінька, а яна **хоп-шлёп** і пашла… Ёй ня жалка… Як-та так аставіць бульбу вырашчанаю?

Ішчэ казалі на ўсякія работы. Як здзелаіш абы як… **Хоп-шлёп** падзелала.

Сціраіш… Я цябе цірану-цірану, выкруціла... У другой вадзе, а што яна мылам ваніць – *чорт яго бяры*! Вот табе і **хоп-шлёп**. Усякая плахая работа називаіцца ***хоп-шлёп***. А харошаю работу скора ня здзелаіш. Гаворяць: *скоры паспех людзям на смех*. Еслі захочыш харашо здзелаць, скора ня здзелаіш.

**Хоць адсыпай → Калі б ні мёрлі, дак бацьку з маткай ад стала адцёрлі (адпёрлі).**

**Хоць адурэй → З горям папалам.**

**Хоць бы хны → Век пражыць – не каробку сшыць.**

**Хоць жывым лезь у воду.**

Ой, Божа мой міласлівы,
Я радзіўся несчаслівы.
Сеяў грэчку – не ўзышла,
Сватаў дзеўкі – не пашла.
Астаўся бяз роду,
**Хоць жывым лезь у воду.**

**Хоць задавіся → Бегаць упрочкі.**

**Хоць з гары кідайся → Хоць у Сож кідайся.**

**Хоць з канём заязжай → У папа рукаў шырокі (бальшы).**

**Хоць касой касі.**

Люцікі… Жоўценькімі цвітуць. Калісь у нас, **хоць касой касі**, высокія. Мы калісь вянкі з іх плялі. Вот нарвёма кала корня, назрываім, назрываім, нажом абрэжым, і тады вяжым, і яны, як шапачка, на голаву надзяваім. “Баб, пойдзем люцікаў нарвом!” – “Ідзіця!” **Ягорка кажа: “Баб, спляцеш і мне шапку”.**

**Хоць кол у глотку саджай → У горла з колам ні ўлезіш.**

**Хоць лопні → С калена ламіць; Церціся, як свіння аб вугол.**

**Хоць лясні → Калі б воўк баяўся, ён бы з голаду здох.**

**Хоць мятлой выганяй.**

Гаворя: “Мяне, **хоць мятлой выганяй**, усё раўно хочу ў вас пабыць”.

**Хоць на цапы станоў → Сучкі цапныя.**

**Хоць (ты) на (яго) залаты каток павесь.**

Калісь усі казалі, баба наша і дзяды, і матка. Гаворя: “Красівы чылавек ідзець, дак ён і неўмываты красівы, а як некрасівы ці дурны, ці п’яніца**, хоць каток залаты павесь на** яго: золата цэннае, усё раўно як дурак, дак дурак. У нас пан быў Даўгасабураў, у яго калёсы былі: і залатыя каткі, і ўся залатая. У нас гаварылі: “**Хоць вазьмі із панскіх калёс каток павесь**, а, як хоць п’яніца, хоць некрасівы, ці які – ён ня ўкрася. *На золата не глядзяць, а на чылавека, штоб розум у галаве***.**

**Хоць пасіней → Церціся, як свіння аб вугол.**

**Хоць разарвісь → Махні рукой.**

**Хоць ты яго разарві →Што пнём аб саву, што саву аб пень.**

**Хоць рассячы → Як дубіна.**

**Хоць (што) савой аб пень, хоць пнём аб саву – дак саве больна.** Гл. таксама: **Трамбабуль даць (палучыць).**

(а) Загадай што-нібудзь дзелаць... Ці бабі, ці мужыку: “Вот так во дзелай...” А ўсё раўно будзя па-свойму... *Хоць убій яго*... Ірка наша... Ёй *гавары, а яна брык дагары*... Як дзелала, так і дзелая. Прыказка калісь была... Усё калісь казалі: “Ёй *гавары, а яна брык дагары*.... “*Хоць* ты яе *ўбій*... Сваё будзя тварыць. Другому чылавеку скажы

*<Амяленская прыказка?>*

Да ўсі казалі; і мужыкі, і бабы: “*Яму гавары, а ён брык дагары*....” Ён па-свойму дзелая... І *хоць ты яго разарві*.

(б) Гаворяць, хоць я цябе ўдарю палкай паназе, хоць ты аб палку ўдарысся, табе больна...

*<Да чаго так казалі?>*

Во гавары яму так... Я чужых ня буду браць, я сваіх... “Дзеўкі, во так садзіця...” Летась перясаджывалі бурачкі... Вот к етаму і гаворяць: “Хоць так гавары, хоць так гавары.... Яна ўсё раўно па-свойму...

(в) Ну, я табе загадыю... А ты ня з места!.. Будуць казаць: “**Хоць савой аб пень**, дак ты сядзіш, **хоць пнём аб саву**... Табе ні больна, ні стыдна... Нічога ў свеці...” Другому чылавеку дак стыдна... Пашоў, зделаў... Лучшы німа... Я на Сяргея кажу: “Павесь рушнік на Бога...” Пахадзіў-пахадзіў: “Баб, сёдні настраенія німа ў мяне... Заўтры павешу, у скрысенне”. Я кажу: “Нет, ні заўтры, а павесь сёдні...У скрысенне ня вешаюць...” І ў скрысенне не павесіў, на Благавешчанне падняўся, пахадзіў: “Баб, сёдні рушнік вешаць?” “Сёдні, – гаварю, – *пацалуй сам сабе у*...” Так **хоць пнём аб саву**, гавары, **хоць савой аб пень** – ён сваё творя....

**Хоць сіло на глотку.**

У нас цётка Вуллянка хату купіла, карову прадала... Нечыва ні піць, ні есць, а план высокі, нізшага ні даюць. Вобшчым, маладзіца *ў неряці была*... Ні назад, ні напяряд. Хадзіла... І кажа матцы: “Полька, што нам дзелаць? **Хоць** вазьмі, да **сіло на глотку.** У нас бульбы ня хваця...”

**Хоць тапаром рассякай → Цяп-ляп.**

**Хоць ты кол чашы (яму) → Жонцы аддай хоць і вала, адна хвала**; **Чорт і тэй не навуча (каго-небудзь).**

**Хоць (ты) ў вуха ўлож.**

(а) Калісь баба казала: “Да Пятра – ета шаўковы, а то – дубовы. Хоць парь яго, ён усё раўно... А да Пятра мяккі ліст. Усё калісь баба казала: “Сабірайцесь, дзеці, у венікі ідзіця, а то Пятро на дварэ”. Да Пятра ён мякінічкі, **хоць ты ў вуха улож**. А послі Пятра... Усякія ж ё. Ё што і ўвосінь рэжаць. Абы венік. Ета ўжо дубовы. Парысся – роскі адны. І адпадая лісця. Як ужо ні сушы яго... Яшчо бярёзы няроўныя. Ё бярёзы мяккія, *як шаўковыя*, а ё – вон што вісяць сярёжкі длінныя такія, семяно тоя. З тыя венікі ні гадзяцца. Ну ціперяка рэжаць *абы Госпадзі...* Прывёз, да і ўсё.

(б) Хлеб мягкі, **хоць у вуха ўлож**... У вуха ж абы што ня уклодзіш... Ета мягкая нада... Ета нежная такая часць цела... Сяргей усе магазіны абходзіць, да мягкага купя, штоб **хоць у вуха ўлож**.

**Хоць убій → Што пнём аб саву, што саву аб пень.**

**Хоць у вагонь кідай. → Ад камля; Хоць у Сож кідайся.**

**Хоць у лоб бій.**

Ціпер жа **хоць ў *лоб* ім *бій***, і яны ўсё адно твораць сваё. Тады матка скажа, ну і ўсё.

**Хоць у Сож кідайся.**

Як горя якоя, ці не хватая што-нібудзь, а ўзяць... **Хоць у Сож**... У ваду... *Хоць з гары... Хоць у вагонь* – убійся. З горя што-хочыш... Хоць вазьмі неўма што здзелай.

**Хоць чорта пастаў, хоць папа… → Чорт з папом ня разбярэ (ня поймя).**

**Хочыш быць брахай, нада быць і аддахай.**

**Будзь дахай, дак будзіш і бряхай.**

(а)Калісь усі казалі: “**Хочыш быць брахай, нада быць і аддахай**”. А то тога не аддала... Як аддасі, тады ішчэ прыдзіш.

(б) Як дасі чылавеку, дак і ў яго папросіш, дак ён дасць табе. А як будзіш зажымаць, дак... Усё калісь... Хлеб пазычаць... Вот німа хлеба... Ета ціперь пашоў, купіў у магазіні, а ета ж нада ўчыніць... І мы... Раз баба: “Дзеўкі, нада хлеб учыніць...” Я любіла хлеб учыняць... Ета для мяне ўдавольствіе... Я любіла дажэ, як у дзежцы... Ты ня нюхаў, як смашна пахня ў дзежцы?.. Пахня смашна, кажыцца, нюхаў бы... Баба будзя ўчыняць, а мы нюхаім, нюхаім... А тады ж не было. Як хто прыдзя: “Пазыч!” – “Табе пазычу”. А хто бярэ, **махні рукой**, забывая: “Табе ня дам. **Нада быць брахай, дак нада быць і аддахай**”.

**Хочыш лезць на гару, а чорт цягня за нагу.**

І ад бабы чула. Баба ўсё кажа, прыдзя Ягорка, малы быў, прыдзя, плача. Баба: “Чаго ты плачыш?” – “Упаў!” – “Куды ты лез?” – “Палез на тую... (На прясла, там, ці на пляцень)... Да ўпаў, да во нагу забіў. Баба гаворя: “Во **хацеў лезць на гару, а чорт цягне за нагу**!” Дак і мы так кажым. Мы калісь дровы рэжыма на дварэ: я, Ірка (*нявестка*) і Варя (*унучка*). Варя дзяржыць, а Ірка... І я гаварю: “Дайця я!” Мне думаіцца: “Вот і я ж!..” Шчэ нага не балела. Балела да трохі. Ну, і рэжыма. Я гаварю: “Ой! Плоха ляжыць палена!” *Да ўжо чорт цягня ў грэх.*

**Хрысціць уздоўж і ўпоперяк.**

Матка **хрысціла і ўздоўж і ўпоперяк**. Усё калісь казалі: “**Хрысціў** ужо **і ўздоўж і ў поперяк**”. Усяк ругаўся.

**Хто сказаў, што лапці воду прапускаяць?**

Усі казалі. Вот што-нібудзь дзелаіш... “Што? Не выходзя? **Хто сказаў, што лапці воду прапускаюць?**” Яны ж прапускаюць. А так казалі.

**Худшы некуда → Ад камля.**

**Цану дзяржаць.**

Хто на базары **цану дзержа**, назад павязе. Напрымер, не купляяць у цябе па такой цане... Я калісь, маладая была, у Злынку насіла двух парасёнкаў. І я за рубля ні аддала, пацянулася за рубля. А там поезд прыходзя, людзі ізлазяць, і на базар. Людзі прыязжаюць з дзерявень. І яны пакуплялі парасят. А я ні аднаго ні прадала і дамоў прынясла. Матка: “Ну, ты за рубля нясла дамоў...” А паскупісся, і астанессся... І дзешава б прадаў, а людзей ужо німа, панакуплівалі.

**Царства нябесная.**

(а) Памёр Максім, да і хуй з ім. Да ішчэ гаворяць: “Памёр Максім, хай ляжыць, такая чэсць”. Харошым, дак гаворяць: **“Царства нябесная!”** А такім Максімам, уряд бы клаў цэлымі штабелямы. І няхай ляжаць колам.

(б) Гарбачоў калісь. Ета прыказ яго. Сабралісь бы обшчыствам, сказалі б: “Ні нада разлагаць. Савецкі Саюз быў, ну ніхай будзя”. **Царства нябесная** Брэжняву. Пры ём усё было. Памянуць ё што.

(в)Калісь баба наша Алёнка... **Царства табе нябеснае**!... Кажды дзень памінаю... Ужо колькі... Ужо шэйсят гадоў будзя ўвосень.. І я бабу *кажды Бога дзень*... Німа тога дня, штоб я ні памянула... Увечары паміну... На нач... Лажуся спаць... “Вотчэ наш” за ўмёршыя душы памалюся і бабу, і ўсіх сваіх памяну... Так я бабу люблю... І матка... Ну, я матку люблю сваю і жалею... А вот... Мы ўсягда з бабай... Што-нібудзь расказаць, я перва бабі раскажу... “Баб, можна матцы казаць?” Яна скажа: “Во ета кажы, а ета не кажы”. Тады я і матцы не кажу.

**Цень на цень ня хадзіць.**

Пасердзяцца суседзі за што адзін з адным... Сварлівыя бываюць такія... Вот яны і гаворяць: “А я з ім **цень на цень не хаджу**... Ня то што сам не ўстрячаіцца, а штоб і цень і тэй, штоб не ўстрячаўся.

**Церціся, як свіння аб вугол.**

Кала яго, дак: “Пятровіч, Пятровіч...” Атойдуцца, пішуць у ЦК на яго.

<*Чаму* **як свіння аб вугол**?>

Свіння ж аб вугол трэцца, чэшыцца аб вугол ці аб якоя дзерява. Свіння пачасалася, высярыцца і пойдзя. Так і яны. Пагаворяць... І пойдуць на яго ўсяк.

“Ня трысь...” – гаворяць... Ета ўсё калісь баба Іванюшкава на дзеда казала: “**Ня трысь, як свіння аб вугол**! Сказала: “Ня дам! Ні капейкі”. Ні дасць. Ён прося. І гарэлкі выганяць: “Сказала: “Ні наллю!” Ты *хоць лопні*, *хоць пасіней*!” Свіння ж падойдзя. Нечава дзелаць, чэшыцца.

**Ціпун (табе) на язык.**

Вот гаворяць: “**Ціпун табе на язык**!” Ці харошае што расце, ці дзіцёнак, штоб ты не гаварыла, як курыца не даўбла. І ў нас так казалі: “**Ціпун табе на язык**!” Як гаворыш што-нібудзь... Вот, напрымер, ты прышоў і гаворыш: “Ой! Харошая ў цябе... Вот бегая дзіцёнак... Ты: “Вой! Які харошы!” – “**Ціпун табе на язык**!” Штоб не сурочыў.

Ціпун – на языку вырастая шышка, нарасціна такая. Дак наша баба ўсё калісь казала: “Ня сыпця на масту зярна”. Курыца есць, дзяўбе і набівая ціпун.

Індзюк і малыя індзючаты, дак нада на тряпку насыпаць есць, а то яна падаўбе-падаўбе, падая і здыхая. Мы гаворым: “Баб, чаго-та іздыхаяць?” А яна гаворя: “Ён жа ў

крэпкая б’е галавой, вот...” Усё калісь казалі “*індзючыная галава*” – слабая, як баліць. “Ой, баліць!” – “У цябе, як ў індзюка, галава баліць”.

**Цыганскі кнут → Цыганская ноша.**

**Цыганская ноша.**

(а) Я была слухмяная. Еслі мне сказалі, я здзелаю. Вот буду вышываць. Баба будзя казаць: “Во дравец бы нада падкінуць, да німа”. Усё! Я кідаю іголку, ніткі, у рязіны ўступлюсь... Баба: “Ой я ёй! *Шугі вецер*!.. Куды ўжо пабегла? Хоць бы парцяначкі якія ў ногі”. А я босымы нагамы ў рязіны, што буркі абуюць. І пабегла. Думаю: “Што мне да сарая...” Пабягу, абярэмак набіраю. Матка: “Ты ўжо **цыганскаю *ношу*** прынясла!” Баба: “Ніхай! Усё раўно ўвечары нада нанач прыносіць дровы крайне ішчэ раз”. Я гаварю: “Дак я пайду ішчэ набяру, штоб ужо не хадзіць болей”. А Туся наша... І Маша... Яна была туга на работу.

<**Цыганская ноша** – *гэта што*?>

Болей жа цыгана, ніхто ношы не пацягня. Прышоў к табе: “Дай мне ў кнуцік сена”. А ты гаворыш: “Ну, кнуцік...” Ён кнут тэй як расцягнуў! Да як пачаў класць! Дак болей, як поўкапы, паклаў. Да гаворя: “Да я ішчэ, хазяін!” – “Не! Выцягівай-ка кнуцік, да ідзі. А ета ты сільна многа наклаў”. У кнуцік... У кнуцік, дак усяк жа можна накласць. А ў яго кнут... Як распусціў...

б. <*Пра што казалі*: **цыганская ноша**?>

У нас ня “ноша” казалі... Калісь пойдзім у калхоз красць... Ну, скубома... Ягор наш і пытая: “Сколькі табе накладаць: *цыганскі кнут* ці сколькі ты данясеш?” Я палёгаю, гаварю: “Не... Ішчэ нада”. Штоб жа болей. І ідзеш ужо, аж рявеш... Рэжа плячо вожкамы... Ужо ўвяжыма... Чуць падыміш... Падыміш: “Ой!” Аж упадзеш на калены... “Нада трошкі атабраць”. А Ягор будзя казаць: “Ты багата хацела...” Дак *цыганскі кнут*... **Цыганская ноша**... Ета цяжаленная... Цыган жа навяжа... “Мне ў кнуцік сена!..” Як пачане, дак атшарахае... “Ну, ідзі ў кнуцік...” А ён такую ношу, што чуць падыміш. Вот і звалі... Цяжолыя ношы... Ета **цыганская ноша**...

Калісь называлі *шэйкаўскі стажок*... Даў мне Парукаў сена... Дак я вілкамы кладу ўжо такі шырачэнны, штоб пад’ехаць на трактары... Адну капу набіраць, дак дзед Белы прышоў, памагаў, да гаворя: “О, Варячка, ета не капа, а *шэйкаўскі стажок*. У Шэйцы стажкі кладуць, што воз наклодзіш, ішчэ і астанецца”. Так і **цыганская ноша**, *цыганскі кнут*...

<*Так казалі толькі пра сена?*>

Пра ўсё. І бульбу... Што ты ні бярэш цяжола, і яблакі...

У калхозны сад ноччу пойдзіш у яблакі... Набярэш поўны мех. Калісь мы з Касцюком, Тусін мужык, прышоў да гаворя: “Пайдзём у яблакі з табой сходзім”. Мы прышлі, ён мех набраў, і я сабе мех хочу... А іх... Вецер быў, паабсыпаў... Да спелыя, жоўтыя...

**Цюха і Мацюха і Калупень з братам.**

**Цюха і Мацюха і Калупень з братам** былі на свадзьбе.

Ета ж гаворяць: “Хто на свадзьбі быў?” Баба наша калісь пашла к сіраце, яе хрэсніцэ, на свадзьбу, дак прышла, гаворя: “Хто там быў? **Цюха, да Мацюха, да Калупень з братам**”. (Прыказка такая. Дак яна ўжо прагаварыла.) На адзін стол селі”. Ён бедны, да яна бедная – з сястрой жыла.

Мы гаворым: “Баб, а што ета? Ета людзі такія?” Яна: “Людзі! Людзі!”

<*Так казалі толькі пра свадзьбы?*>

І так вот што: “Хто там гуляў?” Калісь баба: “З кім вы там гулялі?” Мы гаворым: “**Цюха, Мацюха і Калупень з братам**”. Баба смяецца.

**(Цябе) ніхто тут не прывязые → З рукамы і нагамы (узяць).**

**Цяп-ляп.** Гл. таксама: **Масцер на ўсе рукі; Пусці-павалюсь; Тапорная работа; Трах-лях; Ці божае дараванне, ці сваё дураванне**.

Брэжнеў быў. Усё казалі: “Плахі, плахі...” А як памёр Брэжнеў, усё памёрла. Пры Брэжневым іголкі не былі такія крывыя, што павярні ў еты бок, яна гнецца, няльзя шыць. А былі, возьміш, *хоць ты яе тапаром рассякай*, такая крэпінькая. Ціперяка абы **цяп-ляп**. Ета ўсё не Лукашэнка дзелая, а людзі дзелаяць. Абы **цяп-ляп**, і пашоў.

**Чаго цябе чорт насіў? → Чарцям будзя смешна.**

**Чаду надаць.**

Дзед Майка прыдзя, да куря, і куря: “Майка, ідзі ўжо дамоў. Ты ўжо столькі **чаду** ў хаці **надаў**. Ідзі дамоў”.

**Чарціны брак.**

Ціпер прывыклі **бракам** етым **чарціным**, ідуць замуж без роспісі.

<*А раней такія бракі былі?*>

Калісь ета рэдкі случай, што ўжо дзеўка забірэмініла... І січас яго ліквідзіруюць. Ідуць увечары ў сваты... Усё... Прышлі ў сваты... Высваталі... Раз сваты пабылі, значыць, роспісь тая *да сракі...* Яны ўжо счытаюць: “Ліш бы сваты пабылі... Свадзьба... Вот ета закон”.

<*Так раней казалі, што* ета **чарціны брак**?>

Усяк казалі. Калісь Мельчыха прыдзя... Сястра яе забярэмініла, прышла: “Во ўжо! Ета ж нада: у **чарціны брак** улезла... Антону паддалася, дак забярэмініла. Дак матка ўжо вадзіла к свякрусі. Ужо дазналася ж, дак: “Пайдзём-ка, – гаворя, – к свякрусі, да *рашым дзела...*” Ну, і *рашылі дзела*, што пажаніліся... Самае главнае, што *пуза нагулялі*.

Да свадзьбы ж яны пераспалі...

<*Дак гэта што* – **чарціны брак**?>

Ета ўсё казалі: “А-*а-а*, **чарціным бракам**”. Усі тады казалі так. “*Чорту ў зубы далася*”. Дак ён падняўся... Добря другі... А другі ўстаня, *станя вогерам*: “Ня буду браць!” Скажа: “Мне нада век жыць не любя. Ня буду браць”.

<**Вогерам** – *што гэта за слова такоя?*>

А я знаю. Так гаворяць.

Вот ня пойдзя ў сваты і ўсё. Сказаў там у нас адзін... *Пуза нагуляў*, а сказаў: “Жаніцца на ёй ня буду!”

**Чарцям будзя смешна.**

Урэжысся, дак і **чарцям будзя смешна**. Ета ўсё калісь казалі прыказку ету. Гаворяць, ужо што здзелаюць... Ці ўпаў, ці што, дак... І **чарцям была смешна**. Я калісь палезла... Баба кажа: “Варячка, німа адныя курыцы... Ідзесь на яйцы села... Ідзі ты...” – “Баб, палаткі такія, жэрдачкі там гнілыя, ішчэ ўпаду” Баба: “Ну, ніхай”. Тады прышла з надвор’я, да і гаворя: “Варячка, лезь ты! Цапляткі вот пішчаць у сараі, дак лезь палядзі”. Я палезла... А яны... Курыца тая вывялась... Дак я гаварю: “Баб, куды іх?” Гаворя: “Во ў каробку і накрывай. Тады падасі”. Я пасабірала і падала бабі. І курыца паляцела туды. І ішчэ дзве далей адбеглі. І я ступнула, а жэрдкі тыя абламіліся, і кош стаяў, што каровам кладуць (кош – называіцца, і я аб тый кош ударылася. Дак матка і кажа: “*Чорт цябе ўразнос насіў!* Палезла, цаплят забрала”. Я гаварю: “Дак шчэ ж два была... “*Чаго цябе чорт па палатках насіў*?” Уродзе, я вінавата. Баба паслала... Матка крычыць...

**Чашчэй дыхання → Рябінавая ноч.**

**Чашысь тым бокам, які свярбіць.**

Усі так гаворяць. Ну вот... **Чашысь тым бокам**... Напрымер, ты хочыш суп сварыць... Мяса німа... Чашысь так ужо, як... Здзелай суп... Зажарь і цыбулінку пакрышы.... Калісь наша баба: “Сёдні вада, соль і цыбулінку ўкрышыла... Вот і ўсё... Харашо... І паядзіма, і ніхто не скажа, што не смашна”. Чашысь, як прыходзіцца.

**Чорны вол наступя на нагу.** Гл. таксама: **Вырас, а ўма не выняс; За харошым мужыком і чуліндра – жына.**

(а) Ці якоя горя, дак зразу ўздумаіця.

Матка пачане: “*Такія-сякія*! Нерабатні! Толькі б знали, што ў гулі сабіраліся і ішлі!” А баба будзя казаць: “Полічка, мая ты дочычка, ішчэ **наступя чорны вол на нагу**, дак будуць і плакаць, і рыдаць, і ня будуць ад болі ўцерплівацъ”. Мы гаворым: “Баб, а чаго-та ён будзя наступаць?” – “А таво, што пападзецца мужык такі ліхі, да то небыты, то дзяцей куча”. Тады ж кучамы дзяцей... Да дзесяці гоняць... Па восем, па дзевяць, у каго шэсць, тры – ета ўжо мала.

(б) **[Грэцкі С.С.**:

Палучаіцца, што... Усё ўперыдзі ў цябе... **Ішчэ наступя чорны вол.**.. І бяду пабачыш... І горя... У нас точна то жэ самае, як **чорны вол наступіў**... У адном гаду Сашку пахаранілі, дзядзьку пахаранілі, цётку пахаранілі, брата Іркінага пахаранілі... У адном гаду з мая месяца па дзекабарь столькі... Вот і **чорны вол**.]

(в) Матка наша не давала нам мінуты пагуляць. “О, будзіця цоўбы такія, хадзіць да сабак дражніць!.. На агарод... Ідзіця, на агародзе паліця...” Свінней дзяржалі, травой усё карміл... То: “У грыбы ідзіця...” То: “У ягады...” Мы ўсё журавіны... Тады матка вазіла ў Гомель, прадавала... Па дваццаць пяць капеяк стакан... А што стакан... Тры жменькі – і стакан... Яна павязе... Тады панакуплівая... Ці абуць што, ці адзець... Баба ўсё казала: “Полька, ну, ніхай пагуляяць... Ішчэ **стане чорны воран на нагу**, дак нікуды ня ступяць... Ніхай ідуць пагуляяць”. А матка: “Ішчэ будуць гуляць... Дармаеды... Ніхай ідуць, да дзелаяць!” Ну, матка, я счытаю правільна дзелала. Прыцісківала работай... Штоб мы не былі нерабатні.

<**Чорны воран** *альбо* **чорны вол**? >

Гаворя: “**Чорны воран ішчэ станя на нагу**, дак не ступне нікуды”. Мы на матку калісь век ні казалі: “*Ідзі к чорту*!” У Крыўцовых... Прыду к ім... Алёна: Пайдзём скарэй, штоб матка не бачыла”. А тая: “Алёна, куды ты сабіраісся?” – “Я счас прыду!” – “Ня йдзі... І тое, і тое нада здзелаць”. Яна: “*Ідзі ты к чорту*!” І сабіраіцца і пойдзя. А мы матцы сваёй ніколі так ні казалі. А еслі б сказалі, яна б да смерці лупіла. Яна правільна дзелала. І загадая: “Здзелай, тады ідзі”. Мы здзелаіма: “А ціперь, мам, можна?” – “Можна”. А ў бабы пытаць... Матка: “Я камандзір, а ты разбязуліш іх, дак яны ня будуць панімаць.

<*Вы раней казалі* **чорны вол**, *а сёдні кажыця* **чорны воран** *на нагу наступя*...>

Хто як гаворя... І **чорны вол** казалі, і **чорны воран**... Усяк... Ціперяка ня кажуць... Самаволы... Што хочаць, то дзелаяць...

**Чорны воран**. Гл. таксама: **Іжыцу прышыць.**

Калісь пелі*:*

Найдзі, туча, найдзі, гром.
Ты разбі казённы дом,
Убі начальніка таго,
Што звёз мілага майго.

Яўгінка скрозь пела... Мужыка яе... Сказаў: “Ета не бальных коней у Марозаўцы забіраяць, а ета ўрядзіцяльства...” І дзірэктар школы Аляксеянка Нічыпар Пятровіч сказаў: “Ета поўная...” “Нас шэсць чылавек стаяла... Мы ўжо знали, хто прадаў нас...”

Ён напісаў: “Так і так сказалі...” Назаўтряга ні разбору, нічога... **Чорны воран** прыехаў... “Тый, тый і тый, залазьця!..” Залезлі... Ня далі дажы адзець... Во ў чом стаялі, у том і паехалі...

**Чорны дзень →Пры чорны дзень.**

**Чорт аб’ядальны, усё жрэ, жрэ і не нажыраіцца → Ідзі (ты) к чорту**

**Чорт – аб’ядальны, усё падбярэ → Ідзі (ты) к чорту.**

**Чотртава маць → У старасці дзве радасці.**

**Чорта з два.**
<*Пра тэракт у менскім метро 11 красавіка 2011 г.*>
– Знайшлі тых, што узарвалі? – Кажуць, што знайшлі. – **Чорта з два**.

**Чорт (іх) бяры.** Гл. таксама: **Іголкай не падчэпіш; На ўме; Снег бел да ня сыр, зяць міл да ня сын; Хоп-шлёп.**
Сярёжка наскораю еў: “Мне некалі. Я апыздыю. Я гаварю: “**Чорт іх бяры**. Людзі пастаяць”. – “Мне нада ў срок явіцца. Ад’язжаць”.

**Чорт выняс. (Цябе чорт чаго выняс?) → Штоб (ім) свет не свяціў.**

**Чорт дзела загадаў.**
Во як што-нібудзь баба дзелая ці матка... Вот матка пачане... Мая матка шыла і кохты, і плацці – усё ўмела. Дак яна, хто-нібудзь прыдзя: “Што ты, Полька дзелаіш?” Яна гаворя: “Во **чорт дзела загадаў**! Дак не пряду, а во пашыць нада”. Во я і табе кажу: “**Чорт дзела** табе **загадаў**! Пішыш гаўно!” Любы дзелая. Во мужчыны што-нібудзь дзелаяць. Калісь іду, трэсак назбіраць на падтопку, штоб сохлі. Дзед Папок быў у калхозі, цеша етыя жэрдкі ці стойкі: “Во **чорт мне дзела загадаў**, дак сядзі, дзед Папок, да цяшы!” Ён плотнік дабрэнны быў.

**Чорт дзьявала купляя (знаходзя).**
**Чорт дзьявала купіў**... І ездзілі на г... <Пра аварыю, у якую трапіў унук.> Дзед Майка, і баба гаварыла наша. Як толькі *шкоду здзелаім*: “Во ўжо **чорт дзявала найшлі**!”
<*Купляяць ці знайшлі?*>
І купляяць і найшлі.

**Чорт (яго) душу ведая (зная).**
(а) Скрозь так казалі. Як баліць, дак гаворяць: “**Чорт яго душу ведая**, ад чаго яно баліць”.
(б) Ты яму так гаворыш, а ён табе во так во гаворя. Загадала яму, а ён па-свойму.**Чорт тваю душу ведая**, што ты дзелаіш.
(в) **Чорт цябе душу ведая.** Ні сказаць яму ні паказаць. Усі так казалі: “А **чорт тваю душу зная**!”
(г) Усі так казалі: “**Чорт яго душу зная**”. Вот што-нібудзь дзелаіш, дак гаворыш: “Выдзя яно ці... А **чорт яго душу зная**, ці яно добря выдзя, ці...” Усі казалі: і дзяды, і бабы... Вот дзелая што-нібудзь, падойдзіш: “Што ты тут дзелаіш?” Ён атвеця: “**А чорт яго душу...** Пачаў дзелаць... А што будзя, сам ня знаю...”

**Чорт (яго) зная → Бог (яго) зная; Шаром (шар) пакаці, ні зачэпіцца.**

**Чорт зная (калі, якія, колькі, што ды інш.) → Дзіцця пасадзі, і тоя вырасця; Рабінавая ноч; Смаку як у печаным раку; Счоту німа; Чорт ня чорт, а і ў два ні ўбярэш.**

**Чорт з папом ня разбярэ (ня поймя).**

Накудлыч што-нібудзь у рабоце, абы як, не так, як нада, дак **сам чорт ня поймя**, адкуль пачынаць, адкуль... Маток матаць... Во ніткі... І вазьмі там што-нібудзь ня так здзелай, тады маток *хоць у жопу ўтыкай*. **Чорт з папом не разбярэ**. **Хоць чорта пастаў, хоць папа**... **Дак чорт не разбярэ, і поп не разбярэ, як там ужо**... Учора Пашка была... Штось бульбу распахіваць... Дак я: "Давайця распашыма бульбу!" Сталі распахіваць, дак дзе вузейшыя радкі, дзе шырэйшыя. Дак гаворя: "**Сам чорт з папом не разбярэ**!" Дак мы кінулі – ніхай так! Капаніцай абкапаім. Вот няправільна што-нібудзь – ну і не разбярэш нічога. Хоць і ў кроснах... Вазьмі ня так... Не перяступі етыя два разы, дзве ніткі ўрад, ужо будуць іціць тоўстыі ніткі. Матка атойдзя, я гавару: "Баб, давай я вазьму хоць трошкі ткану на кроснах, паўчуся". А баба гаворя: "Паклычыш ужо, што **чорт з папом не разбярэ**! Ад маткі тады ўжо *аборы палучыш*. Ужо так будзя сеч! Скажа: "Хто цябе пасылаў? Ета ж нада ўсё раздзелываць!"

**Чорт і тэй не навуча (каго-небудзь).**

Вот гаворяць: "Цябе **чорт і тый не навуча і не перяйнача**..." Еслі задасца ўрэдны дзіцёнак, дак хоць ты кол чашы яму, ён будзя сваё дзелаць... Другому: "Нільзя дзелаць!.." А другі... *Душа вон вылазя*... Толькі штоб сваё дзелаць...

**Чорт машну сшыў (сажраў). Чорт машну сшыя. Чорт машну ўсігда сшыя.** Гл. таксама: **Мацьхваць.**

**Чорт машну**, – гаворяць, – **ісшыя**". Вот паціряіш што-нібудзь... Ці што... Калісь нашыя маткі родная цётка пашлі на ярмалак, да карову прадалі. Недоімкі багата не плацілі. Як ціпер жа пяню расце, а тады пяню не было, а ў цібе доўг вісіць – аддай. Хоць і дзесяць гадоў доўг вісіць – аддай гасударству. Дак яна карову прадала. Ён гаворя: "Давай, я схаваю!" А яна: "Нет! У цябе украдуць! Давай мне!" І за тыя грошы... Там, купляіш ці камсу, ці што... Яна грошы тыя выцягнула, а там хлюст такі бача, што баба ў карман палезла, ён ззадзі стаяў, грошы тыя выцягнуў і пашоў. Штось ішчэ яна ўзяла... Грошы тыя – цап! Цап! Грошай німа! Дак усё матка казала: "Ну што, ***чорт машну сшыў*?** Асталась без нічога?" <**Машна** – *карман.* >

**Чорт ня возьмя, еслі Богу ні нада.**

*<Гэта як?>*

Еслі Богу ні нада, дак чорт тож ні бярэ. Думае: "Урэдны... Дак на што ты мне..." Скрозь так кажаць... Во малы дзіцёнак і то калі гаворяць: "*Богу ня нада, і чорт ні бярэ*". Кажаць: "*Як Богу ні нада, дак і чорт ні бярэ* тога". Еслі ён гад урэдны...

**Чорт ня ўладзя (уладзя).** Гл. таксама: **Пакушай етага хлеба**.

Мне **чорт, і тый уладзя**. Я ні абіжаюся ні на што.

**Чорт ня ўхваця (ня возьмя, не бярэ).** Гл. таксама: **Капыты адваліць; Масцер на ўсе рукі.**

(а) Калі-што-нібудзь, і малыя былі, прыдзім, усё ж босыя бегалі... Ці нагу..."Ой!"... Мы к матцы не абрашчаліся, усё абрашчаліся к бабе: "Ой!" Баба, паглядзі!.." – вядом Ягорку..."Баб, палядзі: Ягорка нагу на склянку рязрэзаў! Мам, палядзіка!" – "**Чорт яго ня возьмя**! Цэл будзя!"

(б) Вот ты, напрымер, што-нібудзь дзелаіш, да *шкоду* сябе *здзелаіш*. Падыходзяць, гаворяць: “**Чорт** яго ішчэ **ня ўхваця**”.

(в) Ідома ў лес. І німа. Ці пойдзя Туся ў шчавель ці я... Німа доўга... Баба: “Во дзяцей німа”. – “**Чорт іх ня ўхваця**! Прыдуць. Дзе яны дзенуцца”.

(г) Кажуць, сваіх не клянуць. А я яго кляну, а **яго і чорт не бярэ**.

**Чорт ня чорт, а і ў два ні ўбярэш.**

Што дзелаіш... Што-нібудзь ні так здзелаіш, гаворяць: “**Чорт ня чорт, а і ў два ні ўбярэш**”. Ці вырасла абы-што. Во качаны растуць на грядзе... Растапыркі.... Ні качан, ні *чорт зная* што. Растапырка такая.

**Чорт пагнаў.**

**Куды (каго-небудзь) чорт пагнаў?** Гл. таксама: **Рябінавая ноч.**

На любога казалі... Ці на курыцу, ці на свінню... Ці на чылавека... Ужо сабіраімся, матка: “Куды вас  ужо **чорт пагоня**!” Мы кажым: “На вуліцу пойдзім”. – “Да глядзіця, штоб я знала...” Ета... Ідзеш: “Мам, пойдзім туда і туда...” Штоб зналі, дзе шукаць...Ну, праўда, ідзеш, скажы... Случай... Шукаць...

**Чорт папа давя.**

Калі б’ёмся за што-нібудзь. Ты во возьміш, я буду адбіраць у цябе. Я атабрала ў цябе. Ты ўжо заплачыш. Матка падойдзя: “Што тут такоя? **Чорт папа давя**!” Мы ўжо знаім: цішына даўжна быць, а то абора будзя свістаць кала нас. Усё казала: “**Чорт папа давя**”. Ето ўжо сваряцца. Ці на дварэ што-нібудзь. Вот сабака будзя... Чужых курэй... Як прыдзя, ён разрывая на матлахі, а сваіх ня трогаў... Такі вумны сабака быў... Еслі крык, ён ужо гаўкая, баба: “**Во ўжо чорт папа давя**! Полічка, ідзі палядзі”. Ці сама пойдзя.

**Чорт папа жэня**.

<*Сказала на ката, калі ўкраў рыбіну.*>

**Чорт папа пажаніў**.

<*Калі так гаворяць?*>

**Чорт папа жэня**... Як што-нібудзь... Сабыція... Так і ў Мінску **чорт папа пажаніў**. Мільёны *паклаў у карман*, за то шта ўзарваў. <*Пра тэракт у мінскім метро*.>

**Чорт прыклікі шукая**. **Горя прыклікі шукая.**

<*Што такое* ***прыклікі****?*>

А я знаю?

<*А на каго так кажуць?*>

Чула я, так гаварылі, і я гаварю: “**Чорт прыклікі ўсягда шукая**”. Абы толькі... Во я на похаранах была... І ў хаці цёпла была... І ніхто не захварэў... Адну мяне *чорт ухваціў*.

<*Што такоя* **“прыкліка”**? *Чаму* **чорт шукая “прыкліку”***?*>

Ну, **прыкліка**. Гаваряць: “**Горя прыклікі шукая**”.

Падох... *Маць тваю!..*” Ляжы... Укінуў туда... І ўсё! *На чорта ты здаўся*! Уся з душы жаласць выпадая.

<І **чорт прыклікі шукая**, і **горя прыклікі шукая**? *Дугім словам* **прыклікі** *можна замяніць?*>

Кажаць так, і я кажу. “**Чорт прыклікі ўсягда шукая**”. А другім я ня знаю. *Коратка і ясна.*

**Чорт работу найшоў.**

Вот калі што ня хочыш... Ці вот палучаіцца што-нібудзь... Баба і матка: “Думалі сесць, да пагуляць, а во **чорт работу найшоў**”. Калісь брыгадзір прыходзя... Матка:

“Ну, сёдні аддыхніця ўжо…” А мы пахары былі. Мужчын жа не было, дак мы пахалі... Прыходзя: “Чаго сядзіш, рот рязявіла? Быстра! Я сваю Марусю ўжо паслаў! І цябе...” Баба і кажа: “Во, Васілічка, **чорт работу найшоў**!” Думаю: “Ніхай жа дзіцёнак аддыхне хоць у выхадны”. А то ж кажды дзень кіламітраж. Ідзі-ка дзень пахадзі. Ходзіш і ходзіш, і ходзіш за плугам. Нада ж пахаць. Дак яна ўсё казала: “Во **чорт работу найшоў**!”

**Чорт работу шукаў, сто пар лапцяў стаптаў. А як работы найшоў, рукой махнуў і пайшоў.**

Яна засмяялась: “Дак сама сябе к чорту раўняіш?” Я гаварю: “Ну, вот **чорт работы шукаў**, усё раўно ня дзелаў. **Рукой махнуў і пашоў**... А я ішчэ даўбуся... Чыснок перясаджывала зімні... Густа паўзыходзіў”.

*<І баба так казала?>*

Усі так казалі. Ну, правільна... Найшоў. Палядзеў... Цяжола... **Рукой махнуў і пашоў**.

Баба пойдзя, што-нібудзь дзелая. “Баб, што ты дзелаіш?” – “А во...” І зноў пракажа: “**Чорт работу шукаў, сто пар лапцяў стаптаў. А як работы найшоў, рукой махнуў і пайшоў**. Так і я... Дзелаю... А, можа, яно ня нада...”

**Чорт страшэн, а ірад ішчэ страшней → З горям папалам.**

**Чорту галаву адкруця і блаху падкуе → Як дубіна.**

**Чорт уразнос насіў → Чарцям будзя смешна.**

**Чорт усё падбярэ → Ідзі ты з Богам. (Ідзі ты к чорту.)**

**Чорту ў зубы (далася) → Чарціная свадзьба.**

**Чорт у лапцях → У каждам сяле па чорціку і ў каждай сям’і па чорціку.**

**Чорт хватая, да ніяк ні забірая.**

Кажаць: “**Чорт хватая, да ніяк ні забірая**”. Ці там хварэіш, дак надаесць... Бальны чылавек, дак ён думая... Ці горя якоя... Дак лучшэ памерць...

**Чорт (яго) зная → Біць, як мамонаву казу; Бог яго зная; Іжыцу прышыць. На пальца лезць. Пашло на нет**. **Хоць шаром пакаці. Як камяга.**

**Чорцік Іванька, аддай маё, бяры сваё → Бог яго зная.**

**Чорцік Іванька, памажы мне → І Богу моліцца, і чорту верыць.**

**Чужая душа – цёмны лес.**

**У чужую душу ўлез, што зашоў у цёмны лес**.

Ты ж ні знаіш, што ў міне, я ні знаю, што ў цябе. **У чужую душу ўлез, што зашоў у цёмны лес**.

**Чужая хата – злей ката**.

Тады ўсі казалі: “**Не дай Бог**, у чужой хаці жыць. **Чужая хата – злей ката**. Колькі не жыві, дак ета не сваё. Усі хочаць, штоб сваё было. Свой куток – ета свой куток.

**Чужога, дак разарваць, а свайго, хоць і вінават, дак склеіць.**

А чужы праў, дак разарваць, а свой плахой – харошы... Бываяць такія... Сама бача, што дзіцёнак тэй ні вінаваты, а тэй вінаваты... Нет! Усё раўно яе будзя вінаваты, а тэй праў... Нет!... Яна скажа: “Усё раўно мой праў!”

**Чуж чужына. Чуж чужаніца.**

(а) ***Чуж чужына*** – ні радня ніякая, ні дваюрадная, ні траюрадная, ні чыцьвяраюрадная, ні пяціюрадная – ніякая. Проста ён сам быў із Літвы – літовец, а яна – беларуска. Проста пазнакомілісь. І вот яны дружаць і дружаць, як свае. Радныя так ня будуць дружыць. **Чуж чужына**, напрымер. У нас усі так казалі. У нас дзед Майка казаў: “Куліна, ты ж на міне не ругайся. Я ж паехаў у Амерыку, там – **чуж чужына**. Не было ў міне нікога свайго. Я там з адной маладзічкай падружыўся. Я з ёй прыду, пагавару, і тым даволен, што я з ёй пагаварыў”.

(б) Людзей павысілілі... Тож неспрявядліва. Ета цэлая вайна людзям была... <*Маюцца наўвазе падзеі, звязаныя з аварыяй на ЧАЭС.*> Папамёрлі ўсі... У нас усі мужчыны аткацілі... Столькі мужчын аткаціла!.. І ў Закружжы... Усі паўміралі, што перясялілі... *К душэ ўзялі...* Сваё кінулі... Наш Ягор быў у Зябраўцы... Дак наш Сяргей кажа: “На заводзі сусед работаў у Гомелі, дак гаворя: “Ой, твой хрёсны, выйдзя, на загародку аблакаціцца, падыду к яму, ён *горькімы слязамы плача*. Ллюцца слёзы. І кажа: “Так я дома ўсё кінуў. Усё ж не забярэш сюда. І прыехаў – ***чуж чужаніца***”. І ішчэ як Аляксеяўна на мяне гаворя: “Набрадзі наехалі!”

**Чуў, кум, гром, да не знаіш, ідзе ён.**

Ета ж ўсё тады гаварылі: “Ну, **чуў, кум гром, да не знаеш, ідзе ён...**”

[**Кужэльная П.С.**:

“Чуў слава, да не паймаў. Вот разгаварыяць... Да перяпытая: “Раскажы абратна ета самая”. Дак гаворяць: “**Чуў гром, да не знаіш ідзе ён**”.]

**Чык на чык.** Гл. таксама: **Як робіць матка, так і дзіцятка.**

(а) Ета ўжо *лучшы быць ні нада*. Усі так казалі, і кажаць. Вот дадуць табе дом, дак нада рукі... Да нада перядзелываць... Тоя гнілоя...Тоя выкідаць... А ета вышоў... **Чык на чык**... *Гвазда нейдзе ўбіць...* Ня нада... Таму шта *там адно да аднаго...*

(б) Цяперь дзеўкі ходзяць **чык-начык**, а наша яшчэ ня ходзя...

**Чылавек з бальшой буквы.**

<*Маюцца на ўвазе падзеі, якія адбыліся пасля аварыі на ЧАЭС.*>

Бабы тут казалі... Вот мой агарод і яе... Гарод у гарод... “Мы цябе ня знаіма... Ну, нам казала Міхайлаўна, (яна медсястрой у бальніцы), мы з ёй харашо знаіма... “Перабралася харошая...” Мы гаворым: “У гародах ці будзя лазіць?” Яна нам сказала: “Не! Ета **чылавек з бальшой буквы**. Ня бойцесь”.

**Чылавекам стаць → Узяцца за розум.**

**Чылавек рабочы → Як вош у патыліцу.**

**Чым багат, тым і рад**.

Другі на свадзьбе пяе мужчына, танцуя. А другая баба будзя і есць у цябе, і піць, і будзя цябе судзіць: “Не было там харошага нічога”. Пазваў чылавек: **чым багат, тым і рад**. Што было, ён нагатаваў**.** *З добрай душой* пазваў.

**Чын па чыну.**

**Чын па чыну**... Атлічна. Грябём сена, ня кінім у вале, штоб у валу ліжала, патаму шта яно атляжа, атсырявае. Калісь жа мокрыя балоты былі. А мы здзелаіма... Усё

дагрябома і копы пазавешываіма. Хай едуць падкаменцы (жыхары пасёлка Падкаменне).

**Чырак сербануць.**

Калісь дзед Майка казаў: “*Калі б знаццё, што ў майго брата піццё, ці ў кума піццё,* сабраўся б Майка да і пайшоў. Во **чырак бы да і сербануў**”.

**Чыстае (табе) дарогі → Штоб (ты) пайшоў і не вярнуўся.**

**Чыстата-парядак → Шык-блеск.**

**Чыя сіла, тога і воля.**

Ён сілён, ён зная. Хоць і начальнікі... Ім усюдых даступна, таму шта яны начальнікі. Во брыгадзір... Капаяць усі... Мы капаім... А магазіншчыца... Тую ня троня...

**Чэрвяка замарыць.** Гл. таксама: **Калі б ня мёрлі, дак бацьку з маткай ад стала адцёрлі.**

Трошкі з’еў, гаворяць: “Ну што, **чэрвяка замарыў**?” – “Да, трошкі пераяхваціў”. Сярёжка, калі прыдзёць: “Баба, есць хочу”. Учора грунтаваў, есць захацеў. Я яму сказала: “Пераяхваці чо-нібудзь”. Дак ён цыбуліну, да хлеба з малінезам узяў, скібачку, з’еў. Я гаварю: “Ну, **чэрвяка замарыў**?”

**Чэрці, толькі рог німа → Аднім мурам мазаны.**

**Чэряз грыб ня плюня.**

Ета ж усі гаворяць: “Сядзіць – **чэряз грыб ня плюня**”. Вот будзя сядзець – нічога не гаворя. Паспытай вот… У цябе я паспытала б: “Еў ты сёдні?” – “Да”. А як бы наш Сяргей сказаў: “Канешна, еў! Супчык, шчэ што-нібудзь”, – і пачаў разгавор. А ён сядзіць – **чэряз грыб ня плюня**. Ета па-калісяшняму. І баба гаварыла, і матка. Дзед Майка прыдзя калі-небудзь: “Палашка! З Кулінай паругаўся!” Матка: “Ты так **чэряз грыб ня плюніш**, а як з Кулінай, дак ты ўмееш ругацца”. Усі так казалі. І матка: “Во ўжо асмётак тэй! Як асмётак, ходзя – **чэряз грыб ня плюня**!” Вот другі чэлавек, дак ён будзя гаварыць і гаварыць, а другі... Вот Маша (сястра), прыдзя хто-нібудзь, яна вот што-нібудзь такоя скажа, самая важнейшая... Я ўжо *языком тряплю...* Яна сядзіць, матка: “Ета ўжо **чэряз грыб ня плюня!** Сядзіць – і ўсё!” Я **чэряз грыб** ужо **пераплюну**. Я сыплю і сыплю – што нада і не нада гаварыць.

**Чэсць аддаваць. → Па коллю рэсць.**

**Шапкай перяшыбнуць.**

А ішчэ хадзіла к нам Соні Салодкія матка, і нашага Ягора жонкі матка хадзіла. Ета дзве падругі было. Дак яны сабяруцца: “Хадзім да Амяльнога. Што нам тут іціць – **шапкай перяшыбнуць**” Шапку ж узяў, шыбнуў. Лёгка і добря. Так і ета... Як шапкай шыбнуць.

**Шкоду здзелаць → Аставайся Саўка, са сваім таварам; Бобу даваць; Горя леташняя; Дуда знала, на што іграла;Зарекалась свіння; Казу заняць; На боль, на вока ўсё парушша ляціць; Нагуляць пуза; На кулак работы шукаць; Пальцам не тронуць (не ўдарыць); Рукі свярбяць; Ня плюй у лужу; Хапай хатку на лапатку – да ня ўхваціш; Чорт дзьявала купляя; Чорт ня ўхваця (ня возьмя, не бярэ); Што б (цябе) граза ўбіла; Штоб табе прыстанку не было. Як Вялікаму дню ў вочы (глядзець, казаць); Як сабаку (выгнаць); Як парвецца мех, дак і на бацьку грэх.**

**Штоб (цябе) абарвала смерць жызню тваю.**

Калісь у нас вішні... Матка: “Ніхай даспяюць, дак аббярома і панясома ў Ветку... Прадам там...” Тры дзеўкі, і баба, і матка – пяць чылавек... Хусцін... І тых пяць нада... Дак усё прадавалі... А хлопцы і дзеўкі ўзялі ноччы... Што падавілі... Агледзілі тыя вішні на гародзі... Яны ўжо абарваныя... Матка: “**Штоб цябе абарвала смерць жызню тваю**, хто ўжо паабрываў!” А баба будзя казаць: “Полячка, не кляні... Хай іх Бог накажа. Ім Господзь аддасць... Ета *справеку веку* ідзець такая мода... Па агародах хлопцы і дзеўкі лазяць...” Яна не кляне нікалі.

**Штоб (вас) агні палілі**.

Будзіш на лавачцы сядзець, дак я падыду, хоць *вочы прасвячу*... А то выду, пастаю, некуды іцці... Во ўжо суседзі, дак суседзі”. І я думаю: “Во ўжо суседзі, **штоб вас агні палілі**!

*Гары ён век* – не прыязжай... *Гары ён вякамы*... **Штоб яго агні палілі**... Як ён дзелая... *Штоб у яго пагарэла ўсё ўсярёдку*... Як ён дзелая... Сказала бы: “*Туды табе і дарога*, як ты ўсю сям’ю мучыш...”

**Штоб (ты) адурэла → Штоб (ты) свой двор ня знаў.**

**Штоб (ты) акалела.**

<Сказала на курыцу, якая хацела забегчы ў сені.>

**Што (як) ангелы → Які чорт знойдзецца…**

**Штоб (ты) апух**.

<На пеўня сказала: > “Не крычы!... **Штоб ты апух**!”

**Штоб (цябе) бакі параздымала.**

Усё ж клялі так. Бакі раздымая... Чылавека раздыме ўсё.... Вопух пойдзя... І памірая чылавек...

**Што Бог дасць → Піўноя-разліўноя; У папа рукаў шырокі.**

**Штоб (вам) Бог долі ня даў.**

Мы па-суседні… Была хрёсная наша, у ніх вяргінні, а мы завідуім: “Ой! Ну, красівыя цвяты!” Пойдзіма: “Тусь, пойдзім украдзім”. Ну, мы пашлі... Чорныя і красныя… Мы ўзялі і адзін цвет сарвалі. Яна тады ўсякія словы пляце, яна ўрэдная была. Баба наша: “На што яны вам?” Дак усё, штоб ня кралі. Мамка нас… Дзень ня еўшы, сядзелі, хаваліся ў мялля: “Я пазасякаю вас! Штоб слава пашла, што ў Грэцкіх дзеці – злодзеі. Пашлі цвяты красць”. Ну што, кажыцца, тот цвет? А яна кляне: “**Штоб вам Бог долі ня даў**!” Баба наша і кажа: “За той цвет, Кулінаčка, клянеш іх”.

**Штоб (табе) Бог ні даў ні толку ні парядку ў тваёй жызні → Штоб (ты) дня ня знаў.**

**Штоб (цябе) Бог пакараў.**

Усі так кажаць: “**Хай цябе Бог пакарая**!” І баба казала: “Варячка, не кляні нікога. Скажы: “*Хай с табой Бог разбярэцца і пакарая цябе*”. Еслі плахі чылавек.

**Што будзя – то будзя, а ты, Свярыда, іграй.**

Нап’юцца на свадзьбах, ё такія забіякі, а Свярыда там быў, адзін на ўсём Закружжы, іграў. Бабы падойдуць і кажуць: “Свярыда! **Што будзь – то будзь**… Ніхай б’юцца… **А ты, Свярыда, іграй**”. Ён рыпая, а ў засланку барабаніць.

**Штоб (цябе) вопух с сарочкі выгнаў.**
Так усі калісь. Як клянуць, дак гаворяць: “**Штоб цябе вопух із сарочкі выгнаў!**”

**Штоб (цябе) Гасподзь ні кінуў**.
Баба казала: “Як ты мяне не кінула, **штоб цябе Гасподзь ні кінуў**. Як ты мяне ні кінула, да глядзіш, сама ні даедаіш, **штоб цябе Гасподзь ні кінуў”**.

**Што б (цябе) граза ўбіла.**
**Штоб (цябе) гром убіў.**
**Штоб (цябе) малання спаліла.**
(а) Баба Іванішкава такія словы будзя гаварыць! Будзя клясць: **“Штоб цябе гром убіў! Штоб цябе і малання спаліла!”** А баба наша будзя казаць: “Госпадзі, адвярні на балоты, да *на сухі лес* яе клятву. Толькі не на людзей!”
(в) Кажаць: “Штоб цябе граза ўбіла!”
<*На каго так казалі?*>
*Шкоду б здзелаў...* Дапёк бы... “**Штоб цябе і граза ўбіла такога гада**!”
<*Вы раней казалі:* “**Што гром убіў**”.>
**Штоб цябе гром убіў ці граза**. Гром і граза адзінакава.

**Штоб (ты) дня ня знаў.**
(а) Так гаворяць: “**Штоб ты ўжо і дня ня знаў**!”
(б) Шукаім ключа. Сярёжка сабе ходзя, я сабе. Гаварю: “**Штоб ён дня ня знаў**! Куды ён дзеўся, ключ тэй”.
(в) Я прышла, а ён стаў крычаць: “Во шыльда... У які дні прыёмны дзень! Парядак такі!” А яму: “**Штоб ты дня ні знаў**!.. *Штоб табе Бог ні толку, ні парядку ў тваёй жызні ня даў*!.. Ці я знаю, што тут напісана... Прыязжаю, калі мне транспарт ё... Што мне нада дваццаць пяць кіломітраў пешкі ідці?..”

**Штоб (твайго) духу не было → Бегаць упрочкі; Не дай Бог свінне рогі, а дураку такому панства.**

**Штоб (яму) душа вылязла → Ігруш пакалаціць.**

**Штоб (табе) і Бог не памог!**
<*На каго казалі:* “**Штоб табе і Бог не памог**”*?*>
Як пасваряцца, дак гаворяць: “**Штоб табе і Бог не памог**!”

**Штоб (ты) ішла куда папала →Штоб (ты) свой двор ня знаў!**

**Штоб (табе) каменем зямля была.**
Здохніш, **штоб табе каменем зямля была**.

**Штоб (яму) колам зямля там, а не пухам зямля.**
Еслі ўрэдны чылавек памрэ, дак гаворяць: “**Штоб** яму **колам, а не пухам зямля**!” Усяк клянуць.

**Штоб (ён) тоя паеў, што ён думая.**

Калісь усі так казалі... І баба наша... Пачане што-нібудзь п'яны... Там у нас быў... "Ты помніш, баба, як я ехаў?" – "Ну, ты маладзец... Ты напярёд думаіш..." Яна: "Ілюшачка, *дай Бог*, што ты думаіш, штоб ты паеў тоя..."

**Штоб (цябе) зямля, і тая не прыняла → Як звер.**

**Штоб (ты) колікам сеў.**

Усё гаворяць: "А **штоб ты колікам сеў**". Ета колік убіваіцца, пакуль сагніе, сядзіць на месці. А чаго, я ўжо ня знаю.

**Штоб (цябе) ліхарадка задушыла.**

Ліхарадка ж, знаіш якая… Ці іё "чорная балезь" звалі… Усё калісь: "**Штоб (цябе) ліхарадка задушыла**".

*<На каго?>*

Урэд іздзелая… Такія былі… Ой, урэдныя!.. «Штоб табе на тым свеце дабра не было!" ─ пракліналі. Калісь выдуць: "Штоб цябе ліхарадка пабіла!"

**Штоб (цябе) ліхарадка пабіла → Штоб (цябе) ліхарадка задушыла.**

**Штоб (цябе) ліха бешаная забрала → Ніхай з ёй гаворя ліха бешаная!**

**Штоб мае вочы (цябе) ня бачылі**.

Як урэдны, дак гаворяць: "**Штоб мае вочы цябе ня бачылі**!" Як мне надаеў мой сын, дак я кажу: "Мае ўжо вочы на цябе не глядзяць".

**Штоб (хто-небудзь) наряджаліся і на ряду захлыналіся, штоб і фаміліі не было.**

**Штоб яны наряджаліся і на ряду захлыналіся,** *штоб і душа ім вон павылазіла***, штоб і фаміліі не было**. Ета калісь усё так казалі: "**Штоб ты ряджаўся і на ряду захлынаўся…**"

**Штоб (цябе) на тым свеце дабра не было→ Штоб (цябе) ліхарадка задушыла.**

**Штоб (табе) на хваробу → На здароўе.**

**Штоб цябе) начныя ваўкі паелі.**

Такая ўрэдная. Ета скрозь гаворяць: "**Штоб цябе начныя ваўкі паелі**!" У нас там: "**Штоб цябе начныя ваўкі паелі!**" А ў Дзям'янках гаварылі: "*Штоб цябе хляўнік із'еў*! А што-та за хляўнік, я сама ня знаю. Усё мая свякруха казала: "*Штоб вас хляўнік забраў!*"

**Штоб (ён) не атышоў → Штоб (яго) паралізавала.**

**Штоб (у яго) пагарэла ўсё ўсярёдку → Штоб (вас) агні палілі.**

**Штоб (ты) пайшоў і не вярнуўся!**

(а) Як плахі чылавек... І на мужыка гаворяць: "**Штоб ты пайшоў і не вярнуўся!**"

(б) Куды чоўнічак паплыў?

Штоб ты абярнуўся.

Куды мілы мой пайшоў?

**Штоб ты не вярнуўся.**

(в) Еслі плахі... А харошаму гаворяць: “*Чыстае табе дарогі*”.

**Штоб (яго) паралізавала. (Штоб (ён) не атышоў.)**

Былі такія... У нас быў... **Штоб яго паралізавала! Штоб ён не атышоў!** Такі ўрэдны. Такі гад.

**Штоб (хто-небудзь) парог не перяступаў → Штоб( табе) рукі павыгінала.**

**Штоб (цябе) перяламіла → Штоб (табе) язык адсох.**

**Штоб (ты) проклят быў.**

(а) Калі-небудзь што здзелаіш, ці палец прышчэміш, ці што... Учора я бульбу жарыла і крышку адкрыла, мне як палянула парай, гаварю: “**Штоб ты была проклята!**” Праклінаіш тую мінуту, што шкода палучылась.

(б) Парукаў сказаў: “**Штоб яны проклятыя былі**, штоб я ішоў у тую кампанію...”

<*Гэта клён такі?*>

Да. Гаворяць: “**Штоб яны проклятыя былі**, штоб я пайшоў туды. *Штоб яны пропадам былі!.. Штоб яно пропадам было*!..”

(в) Пад’елі мядзведкі ўсю цыбулю... **Штоб яны былі проклятыя**!..

**Штоб (яно) пропадам было → Штоб (ты) проклят быў.**

**Штоб (яму) ражно ў глотку.**

Баба ўсё калісь казала: “А ніхай яму... **Штоб яму ражно ў глотку**”. Як ён ці скажа, ці здзелая плоха.

<*Што такое* “**ражно**”*?*>

Ні скажу табе. Калісь баба казала: “Усякага ражна панастановіца!” А што-та за *ражно*? У міне дажэ ў памяці не было папытаць у бабы: “Баба, а што-та за ражно?” Плахоя, наверна...

**Штоб (мне) рукі вагнула.**

**Штоб (табе) рукі паралізавала.**

**Штоб (табе) рукі павыгінала.** См. таксама: **Чорт дзьявала насадзіла.**

**Штоб мне рукі вагнула**, калі я дам табе грошы!

Наша баба такая харошая была! На зямном шары адна яна была! Вот абідзяць, яна век не пакляне. Нікада ні пакляне. А баба Іванюшкіна: “**Штоб табе рукі павыгінала!**” І: “*Штоб ты парог не перяступала!*”.

Я ў людзей *парушыны не вазьму* нікагда... Яно мне не нада. Яно ў пользу ня йдзе.

Штоб ложкі не ўзяла есць... Паралізавала. Усі так казалі: “**Штоб табе і рукі паралізавала**, як ты ў мяне брала да ні аддавала!”

**Штоб (табе) свет не свяціў Божжы, праведная сонца ня грэла.**

**Штоб (ты) ў зямлі ўжо ляжаў, астыўшы.**

(а) Ета, як кнігі пішаць пра вайну. Мой сын прыехаў з Гоміля, кажа: “Мам, былі там, у нас ...” (Ён жа после вайны радзіўся.) Дак **штоб іх свет не свяціў**, тых ужо парцізан. Патаму шта, гаварю, таго, як у кнігє, стаялі на бугрэ і ўсё бачылі... Гары там німа, штоб на гарэ яны стаялі і бачылі, парк не дасць ім глядзець. Дак толькі па росказках. Не было ў нас. Немцы прыязжалі рэдка. Ну, аны для красы падбрэхівалі. Якія ета парцізаны? Ета не парцізаны! Едуць ад Марозаўкі, падвод пяць, наверна, ехала. Ідзець маладзіца і плача: “Аддай! Ой, парцізанчык, аддай!” А ён едзя, пасцілка ляжыць. А мы стаялі на вуліцы ўжо пасля абеда. Я гляжу: “Цётка, чаго ты плачыш?” А яна: “Во еты парцізан забраў у мяне, прыйшоў у хату, пасцілку ўзяў”. А я з ім у школу хадзіла. Я і гаварю:

“Жабкін, аддай пасцілку! Ня стыдна табе? Забраць пасцілку! Дзяцей укрываць хоць бы было!” Дак ён тады гаворя: “А цябе *чорт чаго выняс*! Мне пасцілка то ж дома нада”. Я гаварю: “Дак вот!.. Дома нада! Аддай!”. Ён пасцілку тую ўзяў і шыбануў з воза. Дак яна мне: “Спасіба”. Да гаворя: “Ета парцізан!” Я гаварю: “Ета такі парцізан. Ён баіцца за кусты зайціць! Які эта парцізан!” Па нашых парцізанах, што былі, дак немца б век не выгналі. Ета вон тыя лясы, што ў Расіі, тыя гналі, тыя багата дзействавалі. А што етыя, дак ужо перад канцом, як красныя прышлі, дак яны папашлі, да знімалі сапагі з людзей. Я іх не прызнаю. Калісь к нам прышлі... Памёр бацька, дак белыя валенкі... Парцізан за іх, да валачэ. А баба: “Куды? Эта памяць майго сыночка!” І мы ўплялісь, не даём: “Што ты ўжо бярэш?“ І ніхай бы чужой, а то свой, падкаменскі, і валачэ. А тады ходзяць у сапагах, людзі ўгадывалі да баяліся сказаць. “Шчэ прыдуць, да прыдавяць”. Во як цяпер! Бойся слова, а то вакно выдзяруць і пабяруць, і на агарод ідуць, крадуць. Ета п’яніцы ўсё.

(б) Ета плоха яму штоб было, дак гаворяць: “**Штоб табе і свет не свяціў Божжы! Штоб ты ў зямлі ўжо ляжаў, астыўшы**”. Калісь усі гаварылі: “**Штоб табе свет не свяціў**, як ужо...” Во я на Дзюбіху казала ўчора: “**Штоб табе свет не свяціў! Праведная сонца ня грэла!** Як ты нахалка такая!”

**Штоб (ты) свой двор ня знаў!**

Пракляну етым во. *Штоб ты адурэла* і ня знала. **Штоб ты двор ня знала**, як ты ня знаіш, што ты гаворыш. Вот пасваряцца, гаворяць: “*Штоб ты ішла куда папала*! Штоб ты адурэла!” Баба ўсё на... Сабака быў, дак яна: “Ты ўжо адурэў**! Штоб ты ўжо ня знаў, ідзе будка твая!**” Раз Ягорку ўхваціў за штаны, шкуматая. Ён крычыць. Баба вышла: “**Да штоб ты ня знаў, ідзе будка твая!** – На сабаку. – Чо-ты сваго кусаеш!?”

**Штоб (табе) смерць нахальная была.**

Усё кажаць: “Як ты брэшыш, (нахальна гаворыш), **штоб табе смерць нахальная была**!” Усё клялі. Штоб машына ўбіла ці гром штоб... Як не сваёй смерцю памірая... Ці зарэжа хто... Клянуць так, як хто стоя.

**Штоб (ім) так жылося, як нам пілося → Дай Божа.**

**Штоб (тваей) нагі болей не было →Як сто баб адхадзіла.**

**Штоб (цябе) хляўнік із’еў (забраў) → Штоб (цябе) начныя ваўкі паелі.**

**Штоб (цябе) чорная балезь задавіла →Штоб (табе) ўжо язык адсох.**

**Штоб (твой) чорт вышы (на версі) быў.**

(а) Вот мы з табой гаворым, дак пачанём гаварыць, і, вот што ты гаворыш, штоб твая праўда была, мол, хоць і брэша. Я на свайго Сяргея бальшога: “Ты ўсё хочыш, **штоб твой чорт наверсі быў** – не пад нізом”. Будзя спорыць, а тады я іму пачану: “Вот ета – так, вот ета – так”. – “Можа і так”. – “Дак вот, **штоб** нікалі **твой чорт на версі ня быў**”. А чаго, я ўжо ня знаю. Ета *справеку веку*. Калісь дзед Майка прыдзя… Пасваряцца з бабай… Яна ўрэдная баба… Прыдзя: “Пасварыўся з Кулінай сваёй”. Наша баба: “Чаго ты пасварыўся?” – “Чаго? Хоча, **штоб жа яе чорт на версі**. А я хачу, **штоб мой чорт быў наверсі**”. Пачанём біцца. Ягор сваё гаворя, Туся – сваё, а я – сваё. Кажды хоча, **штоб** яго **чорт на версі быў**. Баба: “Ай я яй?” Я: “Баба, **чый чорт на версі**?”. – “Ягоркаў! Ён самы меньшы, дак ніхай будзя Ягоркаў”.

(б) Бывае так... Яна будзя так гаварыць, а мужык будзя гаварыць так – і не дагаворяцца. І будуць... Тэй сабе жаліцца... Калісь баба Вера прыдзя і кажа: “З Мазком

сёдні не дагаварылась. Буду гаварыць: “Так...” А ён: “Вот так будзя!...” Баба і кажа: “Ну, **чэй жа чорт на версі**?” – “Яго. Дзелай то, што ён кажа”.

Усякія ж сём’і ё... Усякія мужыкі і жонкі... Другія ў ласкі пражывуць і ў дабраце. А другія ўсё прасваряцца. Так і жывуць клычана. Наш бацька, напрымер... Матка болей на яго, што ня так... Бацька: “Ну, ладна... Ніхай па-твойму”.

(в) Я сваркі ня хочу і ні люблю... Лучшы ўмолчу... Калісь даяркі пачануць... Тряшчыць сарай... Адна на адну... Госпадзі! Я падыйду к адной: “Уваж”. А яна: “Нет! **Мой чорт даўжон быць на верс**і. Штоб я пабядзіла”.

(в) <*Вы сказалі:* “Парукаў і Чорны **нож на нож пашлі**...>

Дак Парукаў кажа: “Ні твой ***чорт наверсі будзя***, а мой будзя **чорт на версі**... Я адзін вас усіх паразганяю... *Пойдзіця на ўсе чатыры стораны*... А вы мяне гуртам аднаго ня скініця, пакуль я ні напішу заяўленіе, што я увальняюсь... І перявёз маткіну хату... На Фабрычнай паставіў... У Ягора нашага быў, мяне яны ні ў чым ні ўпрякнуць... Мне ні нада бальшыя хаты... *Што мне танкі вадзіць*?..

**Што на языку сплюшча, то ён і гаворя →Заліць фінгалы.**

**Што стары скажа, што сабака брэша.**

(а) Ета ж і ё так. **Што стары скажа, да сабака збрэша**, дак ета ўсё адзінакава. Ціперь сабака на вуліцы, да стары гаворя... Хоць ён праўду гаворя, хоць няпраўду, яны ціперь ня слухаюць. Пашла я ў прыбаннік... Думаю: “Кукуруза там ляжыць, дак атамкну...” Прышла я на агарод, думаю: “Дай-ка з бочкі вазьму...” Сухенічкія там былі... Што цясаў, да страгаў жэрдзі... Тыя трэскі сухія ў бочку паклалі, там дзірявая бочка, дак туды згрузілі... Я гаварю: “Топіця баню... Трэскамі!.. Летам бызьнікам пратапі і мыйся... І вытапяць баню, я гаварю: “Ірка, чаго вы не беряцё трэскі?” – “Ішчэ лета бальшоя... Папаліма...” І папалім, папалім... І тыя трэскі... Я накрыла крышкай... Хтось узяў... Разоряна тоя... Ці малы палядзеў: “Ета баба накундрысіла!...” Вада туда ішла, яны мокрыя, із стряхі цякло... Я давай з бочкі выгрябаць і парязгрябала...Вецер... Ніхай прасохнуць... Грубку... Набяру зверху, яно прасохня... Я гаварю: “Во, Сяргей, бачыш!... Усё адно мая праўда”. За лета маглі патапіць, дак буйнымы рубанцамы баню тапілі, а трэскі ніхай прыдаль ляжаць... Калі дровы можна была сахраніць... І нікому ня нада... І што скажу... “Ета было ў дваццатым веке!...”

(б) І калісь дзед казаў: “А-а-а! Я што **гаварю, што сабака на вуліцы гаўкая**. Старых ніхто ня слухая”.

**Што я шукаю? – З дохлага каня падкову.**

Конь быў падкован. І ён здох. Закапалі каня. Шукай ужо… Гаворяць… Усе дзяды казалі, і нашы баба, і матка казалі… Дак я гаварю: “Дзед, што-та такоя **з дохлага каня падкову**? А куды конь падкову дзеў?” – “Куды?! У сраку табе! Конь здох, і падковы на ём. А ў горадзі не раскоўваюць коней. І закапаваюць з тым”. І матка, вот што-нібудзь шукая. “**Мам, што ты шукаіш?**” – “**А шукаю з дохлага каня падковы**”.

<*Вы сказалі, што ў горадзе конь здох і падковы не закопваюць. Чаму ў горадзе?*>

У горадзе ж асхвальт, дак там жа коні ўсягда кованыя.

<*У дзярэўні раскоўваюць?*>

У дзярэўні коней ня куюць. Коні па зямле ідуць. Плоха, еслі не кованы конь. Кованы ідзець, штоб не збяваліся капыты… А еслі ня кованы, да ідзець па асхвальту, ён жа пазбівая ногці, што саўсім не ступне тады.

**Што на рот узлезя, то напляце →Ад харошага целяша дак і трэска хараша.**

**Шугі веціp.** Гл. таксама: **Узяцца за розум; Цыганская ноша.**

Каторы выхваліваіцца, што ён багата зная... А роўным счотым нічыго... Каторы выхываліваецца любя, яны гаворяць: “А ета – **шугі вецір**... Дурны...” На дурнога...

**Шукаяць купец купца, а сляпец сляпца → Усякія ж твары шукаяць па пары.**

**Шукаць у мора пагоды → На адном месці і камінь абрастая.**

**Шуры-муры.**

Дзед Белы будзя сядзець, к нам гуляць хадзілі, і кажа: “Вера, пашлі-ка мы ўжо дамоў, да *ў шуры-муры згуляіма*”. Яна: “Ай я яй! Як ужо ета гаворыш!” “**Шуры-муры**” называў.

**Шчырага каня і ў повадзе заводзяць.**

Як *шчыры конь*, а як лянівы конь, хоць ты яго палкай лупась... Калісь быў Грынёў конь, хоць бі яго, ён вот так ідзець пешака, хоць ня бі, ён *адным вагам, хоць ты яго ўбі*. А другога каня чуць шывяльні вожкамі, ён табе будзя – *аж іскры ідуць із-пад капыт...* Ён бягіць *ва ўсі поры*. Ета называіцца: *шчыры конь*. Ён *з усія праўды бягіць* А другі, лянівы такі... І людзі такія ё.

Баба на мяне ўсё казала... Будзя казаць: “Тусячка, вазьмі тоя і тоя здзелай”. – “Счас”. І будзя сядзець, будзя ў лялькі круціць ці так будзя сядзець, ківацца. “Тусячка, ідзі іздзелай”. Мне ўжо не загадыя. Я падымаюся, іду... Бабу так жалею. Думаю: “Баба томіцца, ёй гаворя, яна ня слухае”. Я падымаюся, дзелаю. Яна гаворя: “**Шчырага каня ў паводзі заводзяць.** Я ёй загадываю. А яна глядзіць: ты пойдзіш ці не”.

**Шчыры конь.** Гл. таксама: **Шчырага каня і ў повадзе заводзяць.**

Другога каня, ты хоць бі, хоць ня бі… Ён ня пойдзя.

[**Грэцкі С.В**.:

“Па-рускі – эта “рэзвы”. ***Шчыры конь*** – рэзвы конь.]

Ён *з усёя сілы* бягіць. Шчыра бягіць. Ён сагласін упасць… І цягнуць.

**Шчыры конь**... Ён табе пойдзя неўма куды... Шчыры... Ён сагласін упасць… Но цягнуць. А ё такія, што чуць капыты памачыў, ён ужо ня пойдзя...

[**Грэцкі С.В**.:

“Адзін ляніцца, а ўтары *із кожы вылезя*, но ўсё здзелая”.]

**Шык-блеск.** Гл. таксама: **Берягісь, страна Лімонія**; **Гарыць, як у караля, а варыцца, як у бабыля; Даваць клас; І ткаць, і прясць, і чорту падковы падкаваць; Неба і зямля; Пусці павалюсь; Сталінская галава.; лёп-гоп; Як робіць матка, так і дзіцятка.**

(а) Газета... Там бряхні вагон было... Дак ён гаворя: “Што вы ету бряхайлаўку чытаіця? Бульба ня копана, замерзшая стаіць... А вы напісалі, што ўсё **шык-блеск**”.

(б) Машэрава ждалі, **шык-блеск** здзелалі... Нікога *не пускалі...Сказалі з раёна, што прыедзя Машэраў БАМ глядзець... А на том БАМе ні дай Бог – страшна глянуць... Ня вырваць сапага... Там ня чысцілася Божа мой колькі...*

*<Вы сказалі: “Машэраў прыедзя БАМ глядзець”. А што за БАМ?>*

Ну, вон жа ў Цюмені БАМ жа звалі... І еты строілі... Рабочыя гаворяць: “Што будзя? Будзя *чыстата-парядак* ці будзя БАМ? Нільзя будзя падыціць к етаму...” І адзін празваў... Сказаў: “БАМ”. І ўсё... “Ідзе работаіш?” – “На БАМі”. І ўсе так і гаворяць. “Куды ў дабрякі хадзілі?” – “За БАМ”. Ён пад самым сасняком. Там бальшушчы... Сараяў... Сем тысяч галоў стаяла там буйнарагатага ската...

**Шэйкаўскі стажок → Цыганская ноша.**

**Яблака не далёка ад ябланы коціцца**.

Пад ябланай падая і ляжыць. Так і ён – выліты бацька! Яго бацька быў такі... Госпадзі!.. Як к чужому, пойдзя за гарэлку работаць... Еслі дома зделаць... Матка сячэ дровы печ вытапіць...

Ад разумных хай бы і па дваццаць раджалі... Дзіцёнак быў бы развіты. А як ад дурнога... Яна сама дурная... І ён... Да ішчэ гарэлку п'юць... Такі ж іх дзіцёнак будзя... Лучшэ ня будзя... Наш Сярёжка радзіўся... Ён пашоў на нашым раду... Па матцы, па мне пашоў, па Машы... Туся наша ў школі добра вучылась... Ён па нашым раду пашоў... І вот характірам такі, заботлівы... Но Варю я не пайму, дужа ціхая, тая *вадой ні замуця* нікому... Яна... Хоць і мужык будзя... Яна будзя ўважаць яму... *Ад харошага целяша, дак і трэска хараша...* Ад дурака дурак і будзя... Як карова малошная, дак ад яе і цялёнак... Еслі цёлачка... Гаворяць, перва целіцца... Пярвустак... Цёлачку... Яна ўся пойдзя... І праўда... Харошая карова была ў мяне... Цёлачку цяліла перваю, я ўзяла аставіла... І ў калхоз цёлачак здавала, дак людзі бралі... Гаворяць: "Ідзе тут Варькіна цёлачка... Бычка здадзіма... З калхоза забраць тую цёлачку... Ета ўжо будзя вылітая матка..." Харошая карова была... Дак і *ад харошага целяша...* Харошая яблана – і яблака будзя смашная... А як кіслёцця, дак кіслёцця і будзя... І ад скаціны харошыя... *Ад злыя сучкі і сабакі злыя...* А як ад такія, што яна каждаму ўкланяіцца – перясігнуць і пойдуць. Ад харошага і харошая...

**Язык за зубамі (умея) дзяржаць→ У раду не бяз вырадка; Хвост паджаць.**

**Язык не заржавея → І ткаць, і прясць, і чорту падковы падкаваць.**

**Языком тряпаць → Чэряз грыб ня плюня.**

**Як адна сям'я.**

Амяльное, Падкаменне, Закружжа зналі мы, **як адна сям'я**. Ета блізка... Дак мы зналі... І дзяцей зналі... І закружцы... І дзяцей зналі... Убачаць, знаяць, што ета я – Грэцкава.

**Як бараны мечаныя.**

Галстукі павесяць на шэю, тады, **як бараны мечаныя**.

**Як барашкі.**

Авечак усё барашкі завуць. Авечкі ж усё кучарявыя. Асобінна малінькія.

**Як Богу ні нада, дак і чорт ні бярэ → Чорт ня возьмя, еслі Богу ні нада.**

**Як б'ольная скула → Ладзіць, як б'ольнай скуле.**

**Як бочка → Бондарява карова.**

**Як браць пазычаць, як просяць – дак вочы сакаліныя, а як аддаваць, вочы савіныя.**

(а) Сава ж крадзя цаплят і ўсё... А як бяруць, раздрябляюцца: "Вой! Вой! Вой!" І дай! І пазыч!

(б) Нада грошы аддаваць. Тады **вочы ня будуць савіныя, а будуць сакаліныя**. Гаворяць: "**Як просяць, дак вочы сакаліныя. А аддаваць – савіныя**". Дак **ня будуць савіныя, а будуць сакаліныя**.

**Як брытва → Тапорная работа.**

**Як валы.**

Іхні дзед, бацькаў бацька, у іх парабак быў, іх і раскулачывалі. Ну, якоя кулацтва тады! Ціпер еўры да хірэўры! Дзеляць, клеяць і то *пад еўру* тую. А калісь, штоб машына, два кані было, веялка. Жылі людзі. Дак яны ж і работалі, **як валы**. Матка наша гаварыла, дружыла з імі, дак гаварыла, у іх усе, *як мурашкі,* поўзаяць.

**Як веряцяном знясло.**

Говоряць: "Вот быў, і **як веряцяном знясло**". Веряцяно ж – скорая. Круціцца. Наша баба... Я ня ўмела, не навучылася – і ўсё. Падая ў мяне ён із рук. Як толькі крутану, ён упадзя. Баба: "Ну, Варячка, ну ты ж дзяржы". Я гаварю: "Я не магу". Ён падая ў мяне. А баба наша прядзе... Верятном етым... І длінна так... Тады ўжо тут развяжа напяцелячкай. Ета на мяхі прялі патряп'я. І яна ўжо скамкая, скамкая… Тады зноў. Так яно у яе круця, і нітка ідзець, так яно ж быстра-быстра.

**Як вош.**
**Залез, як вош у патыліцу.**
**Сядзіць, як вош у патыліцы.**
**Зашыіцца, як вош у патыліцу.**

(а) Так усё гаварылі: "**Зашыіцца, як вош у патыліцу**, і сядзіць на чыёмсці..."

<*На каго так казалі?*>

Вот бы я на цябе сказала... Ты б сядзеў у маткі**... Зашыўся б, як вош у патыліцу...** Сядзіш... Не работаіш...

(б) **Як вош у патыліцу, зашчаміўся, да і сядзіш**... Я адна, да на сваёй пенсіі, з міне... Я б *у маслі купалася...*

Прывялі яго... Ён **сядзіць, як вош у патыліцы**. Наваря снедання, дасць, скажа: "Ідзі падмяці там кала двара ці што здзелай". Касу дасць яму: "Ідзі ношку накасі!" Ён пойдзя, здзелая і сядзіць, пакуль ішчэ загадая. Ета мужчына? Мужчына доўжэн усё глянуць: "Во ета нада здзелаць! Во ета нада зделаць".

(в) <*І баба Алёна так казала*?>

Усі так так казалі.

<*А баба на каго так казала?*>

І на цябе б сказала, і на мяне... Еслі б ні дзелала *ні хера*. Усё будзя казаць: "Во **залез, як вош у патыліцу,** да і сядзіш... Нічога за дзень ня здзелаіш"... Ці на Тусю... На мяне яна век не казала. Я – *чылавек рабочы*.

(г) **Як вош у патыліцу.** Употай. Я ўсё любіла... І буду кала дзядоў сядзець... Дзед Касцючкаў... Дак ён: "Што ўжо, **як вош у патыліцу**, падлезла?"

**Як Вялікаму дню ў вочы (глядзець, казаць).**

(а) Сказаць, як Вялікаму дню ў вочы. Баба наша ўсё казала: "І **скажы мне праўду, як Вялікаму дню ў вочы**".

Што-нібудзь ці гаворыш, праўду ты гаворыш... **Глядзіш, як Вялікадню ў вочы**. На Вялікадня нільзя не бряхаць, абы-што дзелаць, дажэ з жонкай не спяць.

(б) Напрымер, еслі ты ці няпраўду гаворыш, штоб праўду гаварыў. Дажэ косы расчэсываць мужчынам і то нільзя, ня то шта бабам. Усё калісь баба наша гаворя, Іван возьмя, бальшы хлопец, дак тады ж не было рясчосак, грябёнкай, баба: "На Вялікадня нічога нільзя, толькі адзеньціся, чысцінька хадзіця, пад'ешця. Ешця... На стале... Хто калі хоча і як хоча... Ні абеды...

Чылавек, еслі праўду гаворя ці будзя завяряць, што яно будзя тоя... Ета вялікі дзень, ета самы Господні дзень, такі мілы дзень, справідлівы.

Вялікі дзень – ета ж празнік. Еслі ты праўду гаворыш і ты чэсцен адзін перяд адным, ты **глядзіш, як Вялікаму дню у вочы**. А еслі ты чым-нібудзь грэшэн ці брэшэш што-

нібудзь... Як малы во дзіцёнак пачане: “Ягорка, ты *шкоду* ету *здзелаў*?” Ён ужо не глядзіць на... А еслі ты, напрымер, ні браў... Если ўжо вінават, ты будзіш уніз глядзець.

**Як галубкі (Як дзве галубкі) → Як голуб з галубкай.**

**Як гел**. Гл. таксама:. **Век пражыць – не каробку сшыць; Як чорт.**

(а) Без канца работай. Сілы німа, а ўсё раўно работай. **Як гел**... Казаў Пецька Ястрыбок... Быў, як саслалі яго... Дак быў у Сібіры на катаржных работах... Гаворя: “Німа ў чылавека сілы... Здаровы чылавек, яму пад’есць нада, і *растае* ён, *як воск*... Кажа: “Падыміцца і падая... А канваіры ё ўсякія... Рэдка харошы... А то падойдзя, як дасць табе сапагом!.. Самы ў валенках, а мы ў кандалах, што ног не чуствуіш... І ні жаласці, ні што...

(б) Другі пойдзя, трохі параработая: “Я ўтаміўся...І рукі баляць...” Прыходзя, лажыцца... Другі будзя работаць, сагласен упасць, но ён дадзелаць доўжэн, І говоряць: “Ты ўжо, **як гел**...” А што-та за гел тэй... Я не магу табе аб’ясніць. Калісь усі казалі: “Пайдзёмце!.. Кідайця!.. А то мы ўжо, **як гелы** тыя!.. А штой-та за гелы... Ці такі рабацяга быў?.. Наверна, такі рабацяга быў. Я калі на Сяргея кажу: “Сяргей, кідай работаць. Хваця ўжо... **Як гел**, тый будзіш”.

**Як голуб з галубкай.**

(а) Пражылі, **як голуб з галубкай**. Цэніць ён яе, а яна яго цэня. Вот ета яны жывуць, варкуяць, **як голуб з галубкай**. Ё такія се’мі! Ета сем’і адзельныя такія ё. А еслі ён у дварэ бушуя...

(б) Жывуць**, як голуб з галубкай.** Ета харашо жывуць.

<*На каго так казалі?*>

Жывеш ты са сваёй Людай... І *слава Богу*. Ты ёй падчыняіссся, а яна табе. Нада ўдваіх, удваіх. Ета счытаіцца, як голуб з галубкай. Паваркуяць, пагаворяць, паабсуждаяць. А еслі адзін будзя адно... Пасць разявіць...

<*Чаму:* **як голуб з галубкай***?*>

Ну, харашо!.. Ты, напрымер, пасядзіш, пагаворыш... І ўсі так гаворяць... Ета даўно прыказка... Голуб з галубкай... Галубкі ўсё сядзяць удвох, гаворяць... То тэй варкуя, то тэй памаўчыць... У нас вяліся і варкавалі... Так і чылавек... Ты сядзіш, ты находзіш што гаварыць... **Як голуб з галубкай**, сядзяць... Цішына парядак... Пагаварылі, пад’елі, аддыхнулі. Вот ета і называіцца: **голуб з галубкай**. Калі дзед прыдзя Іванюшкаў, а матка з бабай пяюць... І я з імы... Ён: “Ну, на тэй раз, Вайра (ён мяне Вайрай зваў), ты падаждзі.... Ніхай яны па старынушкі пяюць”. Я гаварю: “Дзед, ні хадзі к нам.... Ты мне не даеш пець...” Матка: “Правільна і казаў. А то ты... Вон дзела дзелай! А не песен слухай...” Ён будзя казаць: “Вы, *як дзве галубкі*... Пеяцё, *як дзве галубкі*”. А баба будзя ці матка будзя казаць: “І ты к нам... Ты ж пець умеіш”. Так мы ревнём песню... Пасмяюцца, пашуцяць... Еслі дзе бабы так сядзяць, гаыворяць: “Ну што вы, як дзве галубкі, сідзяцё, варкуіця?” Прыказкі такія...

**Як грязі.**

У лес паехалі... Грыбоў – **як гразі**, курачак – многа. Пяць вядзёр прывязлі. Пойдуць у грыбы, говоряць: “**Як грязі** іх – многа”.

**Як гужом, уцяла.** Гл. таксама: **Бегаць упрочкі.**

(а) Во табе хамут. І сцяні ты у аглоблях. І ўсё. Конь жа не ряспряжэцца. Будзя стаяць конь. Я знала, як з канём абрашчацца: і ў плуг запрэч, і ў барану, і ў калёсы знала як…

Гуж у хамуце, штоб дзяржаў аглоблі... Конь шмаргане, і аглоблі выпадуць. Вот гуж для таго, штоб конь не ряспрягся.

<*Чаму так на чалавека кажуць?*>

І на любога... Ці карова ўцякая... Дома як адлупцуюць, дак яна найдзя сама пастуха. Гаворяць: “**Як гужом, уцяня**. Зная, што лупка будзя. Скот, і той панімая.

(б) У бабы надвор’е было плахое... Як буряка далі... Эхця была, дзеда Папка нявестка, яна сама – палячка, дак яна гаворя... Я гавapю: “Пайду скарэй... А то баба на двор ня сходзя, крычыць із жыватом...” А яна гаворя: “Ты ж падлячы яе”. Я гаварю: “Чым жэ яе лячыць?” – “Буряка атвары, да алею...” Я гаварю: “Мы ж боршч варым з буряком”. – “Ета – ня то... Нада буряк нацерць, алею, аднаго буряка, ні морквы ні дабаўляй...” І мы наварылі, і я пачала бабі даваць... І бабі **як гужом, уцяла**. Я з работы прыду, баба гаворя: “Я сама ўжо схадзіла...” Як гужом уцягіваіш. Гужы ты знаіш ідзе? Гужы ў хамуце. Гужы націгіваіш, а тады супоняй сцягіваіш. І так крэпка сцягіваіш і супоню закручываіш.

**Як гушчы, мокрая.**
**Як гушчы, намачылісь.**

Усягда тады гаварылі: “Прышла, **як гушчы, мокрая**”. Ужо дожч намоча, дак усі людзі казалі. Па-калісяшняму. Цяпер, дак: “Сільна намачылась”. А тады ўжо прыдзім: “Ой, баб! Мы ўжо, **як гушчы**, прышлі!” Яна: “Я бачу! **Як гушчы, намачылісь**”. Ета ўжо сільна намачылісь.

**Як дзёгаць. Чорны, як дзёгаць.**

Сяргей столь мыў, дак вада, **як дзёгаць**. Чорная. Дзёгаць жа чорны. Печ разурялі летась, вясной, да ня мылі. Ета пасля Вялікадня разурялі. Гаворяць: “**Чорны, як дзёгаць**”.

**Як дзёгцям намазана.**

Бягім к каму гуляць, матка: “Ой, дома табе **дзёгцям намазана**, а тамака ***мёдам***”. К хрёснай калі пойдам – Туся, я і Ягорка. На печ залезім: Ліда, Пецька, са мной равеснік, ці сядзім, гаворым, ну пра дзецкае сваё. Матка**: “**Дома, **як дзёгцям намазана (ці кірасінам)**, а там *мёдам.* Хату ня вымяціця, а бягіця туды”. А мы пойдама і загуляіма.

**Як дзярюга (разраслась, села, лягла).**

<*Вы сказалі на Шапаваліху*: “Разраслась, **як дзярюга**”. *Чаму* **як дзярюга**?>

Ну, дзярюгі ж шырокія. Яе ў тры палы сшываяць. І такія калісь ткалі, называіцца *пярыны*. Туды ўжо пер’я ўкінуць трохі. І штоб цяплей ужо было, сшывалі... Ткалі... Аснова была алляная... З вярхоўя прялі і снавалі, а тады ткалі шарсцянымі ніткамы... З авечак прялі тую воўну, і воўнай той ужо ткалі. Яны тады цёплыя. У дзве рэдзі сшывалі, мехавыя дзелалі, і ўсярёдак – пер’я, зашывалі наглуха, і называлі дзярюгай... Ілляной, тонкай... Надзявалі наверх... Зашывалі... І ўжо ўкрываліся.

Усюды так казалі. Тоўстыя такія... Дзярюгу ж вазьмі-ка... Дак яны ўсі казалі: “О, **разраслась, як дзярюга**!”

<*Усі – гэта хто?*>

Усі людзі. Калісь... Туся наша – тоўстая змалаленку... Дак матка: “Ну-ка! Села, **як дзярюга**!” Ці лягла на печы.

**Як дома.**

Я Сярёжку кажу: “Ты багата там ня еш. Скажуць: “Во абжора прыехаў”. А ён кажа: “Я ўжо ні раз быў у іх... Дак я знаю там абычай... Пастаўлена... Еш, што хочыш...” Ён сядзіць і наблюдая... Гаворя: “Усяго, што настаноўлена, штоб усё пакушалі... “ І на мяне: “Ты – дома... Ты счытай, што ты, **як дома**...”

**Як дубіна.**

Матка на Тусю: “Во ета во, **як дубіна**... Ні ўламіць ні боям, ні просьбай”.

Такая ўпрямая, *хоць ты яе рассячы*, дак яна ўсё раўно: “У мяне не выходзя!”

<*А калі не выходзя? Калі Бог ня даў?*>

Бог ня даў... А я думаю, ета проста лодырі такія, ня хочаць і ўсё. Вот наш бальшы, ён і *чорту галаву адкруця* і *падкуе блаху*... Но ляніцца... Ета *ад камля*.

**Як есць, дажы ср... ё чэсць. А як паядуць, да і па дворах пабягуць →На шампанскім (гарэлцы) прапіўшы, на спічках не збярэш.**

**Як жывыя → Хісць адпала.**

**Як жыгала → Круціцца, як мядзведзь.**

**Як завядзецца, так і павядзецца.** Гл. таксама: **Ад харошага целяша дак і трэска хараша.**

Як ужо яны гаворяць, так і дзеці будуць гаварыць.

**Як загаворяна.**

Тады ўсё казалі: “**Як загаворяна**”. Другія не хварэяць... Прыду, ляжыць ціфозная Каця, і я паміж іх ляжу... Яны ляжаць... Косы павылязлі... І я з імі ляжу... Гамоніма... Ні хварэў ніхто... А етыя ўсе хварэлі, Каршуны – па пародзе, а мы не хварэлі... **Як загаворяны**. І там ішчэ другія сем’і былі, ніхто не хварэў, а другія павальна хварэлі. Другія дзверы карболкай аблівалі, а мы – не. Послі вайны ціх быў, ішчэ вайна не прайшла, як красныя прышлі, дак ці салдаты наняслі етага ціху.

**Як звер.** Гл. таксама: **З горям папалам; Душэ празнік іздзелаць.**

(а) Калісь дзед Папок казаў: “Нада табе, Варячка...Ты трудзяка на два пасёлкі... І на Падкаменні, і на Амяльном такія німа... І ідзеш за яго...” Я гаварю: “Матка збіла: “Ідзі... Мужчын німа послі вайны... Твайво ўбілі Колю. Ідзі... Ідзі...” Ну, думаю: “Пайду”. Сагласілась... Ён і красівы на ліцо... Яны красівыя... Ну, насраць на красу, калі ён, **як звер**. Дзед Папок гаворя: “Ты – *залаты чылавек*... А пайшла за яго...” Ён прыехаў... Я гаварю: “Што ты хочыш? Што табе тут нада?” Ён: “У нас жа будзя рябёнак... Што ты дзелаіш?” Я гаварю: “А ты дзесь ноч начаваў... Прышоў... Мне ні слова, ні бедна ні беднага ні сказаў... Завярнуўсь... Са сваёй маткай пагаварыў і пайшоў. Усё! Канец! Болей людзей смяшыць ня будам”. – “Давай здзелаім... Усё парядак...” – “Ня нада мне!...” Вот *паставіла сабе* я. І ня каюсь. Я пражыла... У мяне і карова, у мяне і свіні...

(б) У сям’ю паступаіш, будзь ім, *як родная*. А ня то шта прышла, глядзіць, **як звер**.

(в) **Як звер**... *Хай іх зямля не дзяржыць – такіх людзей*... Такіх во чарцей, дак *хай іх зямля не дзяржыць*.

<*Калі так казалі?*>

Усі казалі... Як урэдны, дак гаворяць: “*Штоб цябе зямля, і тая не прыняла*!”

<Не прыняла ці не дзяржала?>

Ета ўсё раўно... Хто гаворя: “*Штоб цябе зямля не прыняла*...” Ці: “*Не дзяржала*”.

**Як з веялкі → Сыпіцца (сыпаць), як з рукава.**

**Як з лейкі (ллеца) →У ряміззя ўзяць.**

**Як з рязца.**

(а) Ету малітву ўсё казала баба: “Дзеці, вазьміця і прагаварыця – сёдні Спас, дак ету малітву”. Ягорка: “І я буду!” Ён забываў, падказваіма яму, а мы ўжо, **як з рязца,** гаворыма.

(б) Скора прагаварыць хочым. Рязец жа рэжа. Піла, і там ішчэ рязцы такія былі, што піляць. Дак скора ён піля. Матка: “Во! **Як з рязца**, ужо рэжыця!”

Пачанеш гаварыць што-нібудзь скора, матка: “Сядзь! Ты ўжо сыпіш, **як з рязца**! Ты гавары спакваля, штоб панялі, ні то шта ты сыпіш”. У нас Тома, у Гомілі жыве, тая, **як з рязца**, гаворя. Я гаварю: “Не сып мне!”

(в) Скора гаворя... Еслі пачане... Дак: “Ох! Ты ўжо сыпіш, **як з рязца**!” Ці там, дзелаіш скора... Дзелаіш, **як з рязца**... А лучшы харашо здзелай, а абы як ня дзелай.

**Які радзіўся, такі і падохня → Як па мяху (біць).**

**Які сшыўся, такі і падзярэцца →Як скляпіўся, так і зляпіўся...**

**Які чорт найдзіцца, ніхай з такім і гарюя.**

Яны, *што ангелы*. Шчэ замужам не былі. Дзевачак хваліць нада. Штоб замуж ішлі. А матка: “**Які чорт найдзіцца, ніхай з такім і гарюя**. Шчэ буду журыцца. Мне хватая дзілоў такіх.

**Як камінь.**

Ён такі, **як камінь**. Разведчык быў бы харошы. Нікому нічога ні раскажа. Вот ідзе бывая, што... Ён ні раскажа ніўшто: “Баба, ета маё дзела”. Парукаў казаў, ета ў нас прыдсідаціль быў калхоза: “То сікрэт, што адзін знаіш. А еслі ўдвох знаіш, ета ўжо ні сікрэт”.

**Як камяга (тоўстая, разраслася). Як камяга.**

(а) <**Камяга** – *што такое? Чаму здаровы,* **як камяга**?>

Тады ўсё казалі: “**Як камяга**”. А к чаму, я табе не аб’ясню. Я ня знаю, што такоя камяга. Гаворяць усе: “**Як камяга**”. Ці вот тоўсты, дак яны гаворяць: “О-о-о! Разраслась, **як камяга**”. А што-та за камяга, *чорт яго зная*.

(б) Камягі... Што такое *камягі*... *Камягамі* называлі... Едуць... Ты *едзіш у фуру*... Такія камягі... Як сеткі. Ціперь сеткі, і натаптыяць туда сена, і прывязыяць ззадзі, крэпка, штоб не атарвалася. Еслі летам, на калёсы, зімой на сані. Натаптыяць у задок, і камягу ішчэ наверх, штоб хваціла каню есць. Такая, як сетка, каліcь крючком вязалі, штоб сена не пралазіла. Я знаю, што ў нас была, як рагожа, тонкая і лёгкая. Як мех такі, здаравенны. Бацька як едзя, у Сняжкоў жа не было тады каня, а бацька едзя, і начуя, і штоб пад’есць каню. Ён тады натопча. Дак называіцца *камяга*. Так і на людзей: “Во ўжо **разраслася, як камяга**”. Я калі на Варю гаварю: “Варя, паменей еш. А ты ўжо, **як камяга**”. Яна: “Штой-та такое камяга?” Я гаварю: “Камягі – ета сенам натаптыяць камягі, як *едуць у фуру*”. Ці куды... На двое сутак... Бяруць каню. Бацька к Сняжкам як едзя, натаптыя. У іх каня німа.

**Як катоў, ганяць.**

(а) Каты крадуць.

<*Каты крадуць. А чаму матка казала на дзяцей?*>

Калісь матка нас, **як катоў, ганяла**. Як ня слухаіш. Ня слухаім ці што-нібудзь пачаном... Ета ж дзеці... Ці біцца адзін з адным за што-нібудзь, якую мелач, яна абору бярэ... Усіх падрад...

(б) **Як ката, ганяя**, а ўсё адно: “Хазяін ё хазяін”. Ужо ж *рябінавыя ночы* дзелая, ганяя... Вот ні за што, як нажрэцца... І на дзеўку пляце, і на яе... Ну, чаго ты пляцеш? *Заліў бельмы*, ляж паляжы... Нет жа, ён *падкалупывая да жывога*, а яна ўсё раўно: “Дзеці дзяцямы, а хазяін – хазяін”.

**Як Кашчэй.**

Гавораць: “**Як Кашчэй**. Худы”. Гавораць: “Ты ўжо, **як Кашчэй** тэй”. Кашчэі ж такія худыя.

<Вы сказалі: “Івонька – *верятаном страхнуць*. **Як Кашчэй**”.>

Ну, такі худзінькі. І яшчэ малы быў з малаленства. Худзінькі-худзінькі і малінькі – Кашчэй, там – *верятном струхнуць*.

**Як к Богу (ідуць) → У шаўковае лета нарадзіцца.**

**Як кірасінам намазана → Як дзёгцям намазана.**

**Як клепіцца, так і лепіцца.**
**Як скляпіўся, так і зляпіўся.**

“Як лепіцца...” – гавораць... Касу ж клепяць малатком скора: так як лепіцца, так і клепіцца. Баба казала, усі казалі: “**Як клепіцца, так і лепіцца**”. Калісь баба, не так здзелаіш, баба гаворыць: “А-а-а! **Як клепіцца, так і лепіцца**! Бачыш: не выходзя – не начынай дзела”. Ета і пра людзей так гавораць: “**Як скляпіўся, так і зляпіўся**”.

**Як колік → Ня плюй у лужыну, а прыдзёцца напіцца.**

**Як кот на хвасце разнясе.**

Ты мне што-нібудзь расказаў, гавораць, не кажы яму, а то, **як кот на хвасце разнясе**. Па каждам двару. Ё такія, што счас жа пойдуць і парасказаяць. Кот жа па ўсіх дворах бегая.

<*Чаму кажуць,* **кат на хвасце**?>

Кот жа па ўсіх дворях бегая.

**Як лёд (халодны).**

**Рукі, што лёд,** *як у мертвяца* – халодныя. У мертвяца халодныя рукі скрозь. Дак я гавару: “У цябе, *як у мертвяца* , ужо рукі”.

**Як лялька.**

Красівая, **як лялька**. Лялькі ж усі красівыя. Яе звалі: “Лялька ідзець”.

**Як мацьрадзіла**.

Я сказаў: “Раздзявайся, *як у бані*! **Як мацьрадзіла**...” Голая... І я яе во так во-во во...

Каня паставіў... Ехаў...” – “Адкуль жа ты, Валодзька ехаў?” – “З Пяннога...” Такую чуш малоць? Дак яна яму як ускалаціла морду... Дак расказалі: “Во Маруся... Як *дала клас*! Успушыла морду... “У расчоце мы с табой? Харошо было голаю?..” Ён: “Да, Маруся...” – “Вот табе і Маруся!” Ты скажы праўду... А еслі ты брэшыш... Што ты выхваліваішся?

**Як мёртваму прыпаркі.**

Як ужо мёртвы, што хочыш яму... Ці прыпаркі дзелай... Ці што... Як памрэ чэлавек, ужо нічога не памагая. Так усі казалі: “Ужо памажэ, **як мёртваму прыпаркі**”. Як ужо захварэя... Як сам сабе не беражэш, дак Бог не ўберажэ... І чорт не ўберажэ.

**Як мурашкі → Як валы.**

**Як на агонь ідзець.**

Баба наша калісь усё казала... Во хлеб... “Баба, хлеба німа!” Яна: “*Божа мой,* паглядзіце-ка, **як на агонь** хлеб **ідзець**”. Мы гаворым: “Ну, мала, што на агонь, а на заўтры хлеба ня будзя”. Яна ўжо нанач учыняя. “**Як на агонь**, – гаворя, – **ідзець**”. Па

шэсць бахонак, па восем, а хто – восем: у каго якая дзежка, што болей. Ета ж нада ўчыніць і назаўтряга напеч. А ціпер пашоў у магазін і купіў. Усё – **як на агонь**. А матка дак кажа: “*Божа мой*!..” – “Мам, тоя парвалася!..” – “Вот **як на агонь** на еты!..” Во так во гаварыла.

**Як навылёт.**

Усё, **як навылёт**... Усё навылёт... Што ё – усё праўда. Ета калісь і баба пачане гаварыць, будзя гаварыць і кажа: “*Людзічкі добрыя*, уся праўда, ***як навылёт***”. Праўда навылёт – німа тут бряхні.

**Як на ліст распісаць.**

Усё калісь дзед Майка: “Усё! Жаваранка пабыла, **як на ліст усё распісала**, расказала. Ета ўжэ ўсе новасці расказала”.

**Як нарысованая →Тапаром не рассячэш.**

**Як на свадзьбу → Памінкі да ўгодкі для чужой глоткі.**

**Як ні дружы, а за пазухай камень дзяржы.**
**Як ні дружы** з чылавекам, **а за пазухай усё раўно камень дзяржы**.

**“Якое жыццё?” – “Як у кума піццё”.**

Я пытаю: “**Якое ціперь жыццё?” – “Як у кума піццё**”. Прыдзя кум ік куму – усягда бутылка, да шкварка, драчоны, то каржы с салам. Я пытаю: “**Якое ціперь жыццё? Як у кума піццё?**”

**Як па белай бярёзі пілой.**

(а) Калісь усі так казалі. Па ём бі, ета, **як па белай бярёзі пілой**. Дак яму, хоць Хоць гавары, хоць не гавары, ён усё адно ня слухая. Так гаварылі ўсі, і я так гавару. Ета прыказка даўняя. Ета калісяшная. Там, урэдныя ці дзеўкі, ці хлопцы, на іх гаворяць: “А-а-а! Ім усё адно. **Як па белай бярёзі**. Так яму. Хоць гавары-не гавары, ён усё адно ня слухая. Я на свайго малага: “Табе, **як па белай бярёзі**. Хоць ты гавары, хоць не. Ты сваё творыш!” Да, **як па белай бярёзі пілой**. Скрыгыча. Яно ж крэпкая… Рэжыцца… Альха слабей, а бяроза – яна ж крэпкая, і дуб. Усі так казалі. Козырыха прыдзя к нам, да і гаворя… Матка: “Што там твая (…) дзелая?” А яна і гаворя: “Маёй (...), **як па белай бярёзі**. Хоць ты бі яе, яна сваё творя, хоць ты яе прасі *радзі Хряста* – усё раўно”. Ета такая прыказка. Пачані-ка бярёзу, пакуль... А сухую... Дак яна скрыгыча, пакуль прарэжыш... Крэпкая, так і... Хоць гавары, хоць не гавары.

(б) Як пойдзім, да гуляіма, загуляімсь. Дома ж дзела нада дзелаць. А мы пойдзім, да гуляіма ў Крыўцовых, матка прыдзя: “Дамавы ня любя! Марш дамоў! Гуляць цэлы дзень, а бульбу будзя баба чысціць?! Дамоў січас жа!” Козырыха: “Во мае ліняцца ўсё дзелаць.... Дземаны *такія-сякія*!..” Мы ня сердзілся... “А **па белай бярёзі**...

(в) Усі так казалі... Мельчыха... Мелька біў... Ці так вот гаворяць: “Кажы, **як па белай бярёзі**...” Як б’еш... А **як па белай бярёзі**... Белая ж бярёза нікому ні пажаліцца... Ці гаворяць: “Яму кажы, **як па белай бярёзі**...” Ці кажы, ці бі...

**Як па маслу.** Гл. таксама: **Іголкай не падчэпіш.**

Дзед Папок гаварыў: “Ета очэнь сложны вапрос: пражыць жызню, штоб усё, **як па маслу**, ішло”.

**Як па мяху (біць).**

Калісь Тусі нашай будзя баба казаць: “Вада нада...” У мяне нага балела, нільзя была хадзіць... Калодзезь пад вакном... І баба: “Тусічка, схадзі вадзічкі”. – “Січас пайду”. І раз скажа, і другі, і трэцці... Пакуль матка падойдзя і ўрэжа... І б’е, сколькі ёй нада... **І як по меху**... А мне, я не хвалюся, мне раз сказалі, я жых – сабралась і пашла. І калі баба пачане гаварыць, я чуць хаджу, і пайду, гавару: “Баба, я хоць поўвядзерца прынясу”. І яна – *якая сшылась, такая і падзярэцца*... І падохня. Гаворяць: “*Які радзіўся, такі ўжо і падохня...*” *Хоць ты яго ўбі*. Як лянівага каня... Хоць бі, хоць ня бі... Усё раўно ён ня будзя іццці... І ёй ета: як па мяху.

<*Што значыць*: **як по меху**?>

Па мяху бі – яму ж ня больна. Бі, пакуль падзярэцца... Так і Туся... Калісь б’е матка аборай, утоміцца, заплача і кажа: “Госпадзі! У каго ты ўдалася?.. Нерабацень такі...” У сіняччах усё, а ўсё раўно ня слухая... Вот што можна? І з мужыком так жыла... Сям’я распалась... Я счытаю, учыцілі не вінаваты... Проста ўрады такія раджаюцца... Яго ўбі, ён усё раўно будзя... Наш малы Сяргей...”А-а-а!... А- а-а!..” Ужо ахрыпня, а ўсё адно будзя крычаць.... І ў сухом ляжыць, і ў чыстым ляжыць, і накармлю... І ўсё адно... І ціперь такоя счасце...

**Як пень → У старасці дзве радасці.**

**Як перязнятае → Іголкай не падчэпіш.**

**Як прыгаварылась.**

Пашка ад мяне не адходзіла, **як прыгаварылась.** Паходзя... Зноў падойдзя... К каму яна яшчэ падойдзя... Падойдзя... Зноў гаворым.

**Як пятух кала курэй.**

Ягорка сядзя напроціў нас, такі ўслончык з достачак быў, сядзя на ём, і мы пяём, і ён пеў. Іграў ён атлічна, у Гомелі вучыўся. Яго паслаў калхоз. І сам пряпяе любую песню. Усё адзін дзед калісь гаварыў: “Ты, **як пятух кала курэй. Усі** песні знаіш. Пяеш із імі”. Певень усё кала курэй пяе.

**Як з ружжа → За спасіба ідзець.**

**Які ўжо зарадзіўся, дак хоць ты яго вазьмі ў мялку пасадзі, дак не перямнёш.**

Кляшчотка – мялка завецца. Хто – мялка, хто кляшчотка казаў. Мялка, кляшчотка... Лён мялі... Посканні, лён, салому...

**Які радзіўся, такі ўжо і будзя чорт → Як скляпіўся, так і зляпіўся...**

**Як клапоў ( развялося).** Гл. таксама: **Лёгкі хлеб.**

Калісь жа клапоў нечым было травіць... Ва ўсіх былі клапы... Вот ужо кірасінам аблівая... І кірасін ні бярэ... Трэску закапчываяць... Так і папоў... Развялось іх ужо, **як клапоў**...

**Як клапы.**

Матка наша чытала... Пасабіраяцца бабы: “Грэцкая, якую кнігу...” Матка чытая якую кнігу, а яны сядзяць, **як клапы**... Калісь дзед Амерыканец, дзед Касцючкаў прыходзяць.... Жаваранка: “Грэцкая, ты красіва с інтанацыяй чытаіш... Чытай!” І сядзяць, слухаяць... Матка гаворя: “Дайця перядыхну трохі...” І абсудзяць, што к чаму яны.

**Як клапы (у шчалі).**

Казала ўчыцільніца: “Падойдзіш к парці, сядзяць, **як клапы**...”

<*Чаму*: **як клапы**?>

Клапы ж ноччу пяшчуяцца, а ўдзень спяць... Дак усё гаворяць: “Сядзяць ціхонька, **як клоп у шчалі**”. Дзе ямачка якая, яны туды.. Калісь дзерявянныя караваці былі, дак яны пазалазяць туда... Карасінам ллюць, штоб яны дохлі.

**Як каралева→ Як барыня.**

**Як кот і з сабакам ( Як сабака з катом).** См. таксама: **Пад выборкі падкіня чорт аборкі.**

(а) А кошка з сабакам... Ета ўжо не жывуць, а гарюяць... Усягда... Гаворяць... Прыказка ета старынная. Кажаць: “Харашо яны жывуць?” – “**Як кот і з сабакам**...” Кот сабакі ня любя... На вуліцы сабака а кот бягіць, за ім бягаць. Я гаварю: “Баб, чаго-та сабакі кот?..” А яна: “Таго-та сабаке, што дадуць, а еты ўкрадзя... І ў хаці кошка, яна ў цёплым ляжыць... Вот яны ненавідзяць”.

(б) Усё хадзіла: “Мой Іван! Мой Іван!” З Іванам тым пражыла**, як сабака з катом**. Чатыры разы развадзіцца! Вот яна ўпрочкі хадзіла. Сабярэцца, упрочкі пойдзя.

**Як не пад’ясі, дак шаўковаю рубашачку зніміш з сябе і аддасі.**

Што жраць хочыш... Ці паміраць нада, ці ў шаўковай прахадзіць. Дак лучшы... Есць жэ чылавек хоча... Ну, як не пад’ясі, кажаць, дак і шаўковаю сарочку з цела зніміш і аддасі, штоб кусочык хлеба ў рот укінуць. Ці паміраць з голаду, ці ў шаўковай хадзіць. На чорта мне тая кохта, калі я есць хочу. І сілы німа, і дзень і ноч ня спіш... Кажаць: “Вочы, маі вочы, чаго вы не спіцё?!” – “А есць хацімо!”

<*Вы раней казалі*: “**За хлеба лусцінку аддасі шаўкову хусцінку**”.>

І так гаворяць... І за рубашку, і за хусцінку... І неўма што аддасі...

**Як парадзіха (ходзіць).**

<*Вы сказалі на Сяргея*: “Ноч хадзіў**, як парадзіха**…”>

Кажаць, як што забаліць ці так: “Ходзіш...” Калісь Сяргей наш ужо вып'я, вады яму нада… То на двор… П’яны… Я гаварю: “Ідзі ўжо... **Як парадзіха,** не хадзі…” Усі так казалі.

<*Чаму* – **як парадзіха**?>

Парадзіха – ета ж, як радзіць... Трудна ёй, дак яна ходзя, ня зная, куды ёй... Усё баліць... Нільзя ад болі... Дак яна... І парадзіхі ўсякія... У нас Зена была, дак казала: “Мне радзіць, **як на двор схадзіць**...” Дак і казалі: “Што ты ходзіш, як парадзіха... Ці на агародзі б ты хадзіў... Ходзіш... “Што ты **ходзіш, як парадзіха**?”

**Як перяд вялікай пагібеллю.**

Калісь усі казалі: “Ох, уцяшаіцца, як перяд вялікай пагібеллю. Калісь Сталяны ў нас... Еслі чылавек прывязе дроў, перяд леснікамі абізацільна расшыфруя: “Тады і тады, у столькі столькі ўкраў у цябе”. І сам вазіў. А яму прашчалі, што выказываў. Дак усі казалі: “Ты, **як перяд вялікай пагібеллю**, Сталяная галава, уцяшаісся”.

<*Вы ж на сваіх сказалі.*>

І свае такія. Вот ня знаяць, што ім нада... Адзін на аднаго... **Як перяд вялікай пагібеллю**, ўцяшаяцца.

Ці казала баба Алёна: “Як **перяд вялікай пагібеллю”**?]

І баба казала... І на нас... Пачанём, дак яна: “Дзеці, ета вы, **як перяд вялікай пагібеллю**, уцяшаіцеся”. Мы калісь то крычым, то боряімся...

**Як помаз (высвечвацца).**

Як пачане... Ягорка калі пачане, семак хоча: “Баб, дай мне...” – падлашчыцца...” Матка і кажа яму: “Ідзі! **Як помаз,** не высвечыйся... У мяне дзеці ўсе роўныя...

Каждаму, маламу, бальшому – стакан семак, сахару ці канхвет... Роўна ўсім даю. І без абіды. А не выблісківайце кала мяне, **як помаз**...”

**Як прысак (зала, попел), зямля (сухая).**

[**Гарявая Т.А.**: “**Попел**...”]

**Як прысак**... Хоць гаворя : “**Як попел**...” Хто: “**Як прысак**...” Прысак – ета сухая зямля дужа”.

<**Прысак**... *Гэта што?*>

Сухоё ўсё... Вот гавораць: “Сухая...” Хоць гавораць: “**Сухая, як зала**...” Кажаць: “Во сухая, як **зала**...” Хто кажа: “Як **прысак**...”

<*Прысак* – гэта што?>

Не магу табе сказаць... Чуць чула... Кажаць: “Зямля, **як попел**, сухая...”

**Як рыба ў вадзе →Як робіць матка, так і дзіцятка.**

**Як сам сабе не беряжэш, дак Бог не ўберяжэ →Як мёртваму прыпаркі.**

**Як скляпіўся, так і зляпіўся...**

Ну праўда, *які радзіўся, такі ўжо і будзя чорт*... Ё дзеці ціхія... Ё харошыя... Ё і ўзрослыя... Еслі ўжо малы ўрэдны, будзя і бальшы ўрэдны... *Які ўжо зляпіўся, такі ўжо і парвецца*... І гавораць яшчэ: “Які сшыўся, такі і падзярэцца...”

Ці: “Які зляпіўся...” Хто так гаворя... Каму якоя *на язык успадзе*...

**Як слова пусціць на вецер, дак лучшэ яго ў карман пакласць.**

Наш Ягор ажаніўся, с Танькай жыў, а мне казаў: “Нікалі, Варька, нільзя мужыку праўды казаць жонцы. Чуць сварка, яна табе *па бяльмах* будзя *сеч*. Дак лучше, **як слова пусціць на вецер, дак лучшэ яго ў карман пакласць**.

**Як таўкачом у ступі → Малоць языком.**

**Як старцу (даваць) → Із-пад бары.**

**Які сшыўся, такі і падзярэцца.** Гл. таксама: **Як скляпіўся, так і зляпіўся; Як па мяху (біць).**

Гавораць: “Які ўжо чорт радзіўся, *хоць ты яго ўбі*, ён будзя такі самы”. Другі спакойны дзіцёнак родзіцца, а другі... Во наш, вазьмі... Ён як радзіўся, і глотка такая была... У Тусі Валерык... Пакормя груддзю, паложа... Усё... Як памёр... І спіць... А наш: “Га і га...” І цяперь: “Га і га...” Як цвярёзы, а як п’яны... *Пайшло дзела у ад*. Вот і гавораць: “**Які ўжо сшыўся, такі і падзярэцца**”. **Які ўжо ў сярёдку сшыўся, такі ўжо**... Ці дзеўка сшыіцца, ці хлопіц...

**Якія сшываюцца, такія і падзяруцца**... Плаццяісшый ня так, і ўжо і падзярэцца. Распарываць ня хочыш... Распары... Тады зноў... Так і носяць.

**Як задавілась**.

<*Вы сказалі*: “Туся пашла дроў... **Як задавілась**...”>

Так гавораць... Ідзе доўга быў, гавораць: “Пашоў ужо, дак як задавіўся...” Пакалісяшняму каліcь.

**Як камар укуся (ня больна) → Як у цюрьме.**

**Як камар укусіў (нябольна).**

**Як камары палятали.**

Гаворяць: “Колькі ён есць?” – “А **як камар укусіў**”. Такая прыказка ё. “Што ты ня жрэш? **Як камар укусіў**, паляцеў”. Ці мала здзелаў, прыдзіш: “Да вы тут **паляталі, як камары**!..”

**Як коней табун.**

Бачыла ва сне, як стаялі, уродзі, і баба, і бацька наш, і матка... Ну, многа... Павел Адамачкаў... Ну, гурт такі, табунок такі... **Як коней табун...** І матка, уродзі, трошкі далей. Баба наперядзі стаяла, і бацька... Вот як січас гляджу: чорныя штаны, і такая, уродзі, палосачка, крывулічка, белая рубаха. Вот у чом клалі яго ў гроб. І яны сталі. І Машы не бачыла. І вот стаяць і дзед Жаваранка... Мёртвыя... Адны мёртвыя стаялі!.. Баба ў міне пытая: “Варячка, ну як ты?” Я гаварю: “Ой, баба!..” Як глянула і заплакала. Хацела беч і к ёй. А яна рукой вот так (перагарадзіла), кажа: “Ня нада... Ня нада...” І хтось мне з гурта... Я гаварю: “Баб, я ж ляжала ў бальніцы... Можа, вы і ўперяд прыходзілі... Мяне дома не было”. Баба: “Ня нада!.. Ішчэ прыдзіш”. А вот хтось ізбоку, ці мужчынскі голас, такі вот мяккі, тонкі, сказаў: “Ня нада! Ты прыдзіш на дзевяноста первым гаду”. І я кажу (радасна): “Праўда?..” І ў мяне ў вачах светла, я прашнулася. Светла ў вачах. Я зноў закрыла... Іх ужо німа нікога. І рада б я закрыць вочы... А вочы стоўбам. Уродзі, я на Амяльном, і на дварэ... І дзе мы жылі, на том месці, на вуліцы стаяць. Там праізашло. Пабачыла матку, бацьку, суседзяў. І **табуном стаялі**. І вот хто сказаў, не паняла я: “Ня нада! Ты прыдзіш на дзевяноста первым гаду”. Працяжна так: “На дзевяноста первым гаду”.

**Як кароль.**
**Як пан.**

Будзіш сядзець, **як кароль**... **Як кароль,** будзіш сядзець... А табе падай усё, паднясі... Дак ідзі-ка сам прынось!

<*Вы сказалі на мяне*: “Сядзіш, **як кароль**”. Чаму **як кароль**?>

Кароль жа... Каралю падай, прынясі ўсё, а ён сядзіць. Усё калсь казалі: “О, сеў, як...” А то: “**Як пан**...” – кажаць... “Ох, сеў, **як пан**!” Там ці кароль... Ета ж – чыны... Калі дзед прыдзя Майка, глядзіць-глядзіць... Матка: “Вон тваё места! А то ты хочыш сесць, **як кароль**, за стол... А выпіць німа...” Ён: “Палашка, будзя ўрэмя, што і вып’ю...” Такі гуляка ў нас быў... *Царства яму нябесная*! Харошы дзед быў... Ён век ні на кога ні сердзіўся... Рукой махне...

**Як конь (тоўстая) → Кілу не надарвеш.**

**Як красць (іцці).**

Я іду к ім, дзверы адчыняю, так во галаву і гляджу, ён: “Што ты, **як красць** што ідзеш? Я дома”. Я гаварю: “Да баюся, штоб услончык не ляцеў”. – “Я, Варвара, цябе нікагда ні трону”.

І скрозь: “Што ты ідзеш, **як красць**?” Еслі ідзеш і выглядаіш.

**Як курыцільная бумага (гарыць) →Ад харошага целяша дак і трэска хараша.**

**Як лёд (растаяць) → Як растала.**

**Як магнітам.**

Танька Пужлівая казала, у яе сын быў… Злодзей і п’яніца… Дак казала: “Грошы хавала… На печы валенкі былі… Дак узяла туды ў насок схавала… А яго, **як магнітам прыцягвая** яго, дзе етыя грошы ляжаць… Дак думаю: “Дай у валенкі…” І падвесіла: жэрдка на печы, зімой сушыць што… І агледзіла… Сон сасніўся: пажар у хаце… Я

думаю: “Дай-ка я пашукаю”. Палезла, валенкі дастала, палядзела, а там – *мацьхвацъ*! Грошай німа…”

**Як маламу дзіцёнку.**

**Як маламу дзіцёнку**, усё ладзь да прынось. Вот то тоя падай, то тоя падай. **Як маламу дзіцёнку**, паднось. Я прыду к Машы, сядзіць мужык: “Маша, ложку! Маша, вады падай!” Што ты ня можыш? Наш Ягор быў, абед садзяцца, ён і ложкі дастае із шкафіка, і хлеб рэжа. А ета, **як малы дзіцёнак,** сядзіць, усё падай яму, прымі.

**Як малатком выбівая → Бог лесу ні раўняя.**

**Як мёд .** Гл. таксама: **Няшчотная сіла.**

Вінаград буйны, **салодкі, як мёд**.

**Як мёдам намазана → Як дзёгцям намазана.**

**Як мурашак → Поўна і роўна.**

**Як мяртвец.**

Бутэля стаіць, сала, хлеб...І яна ляжыць, **што мяртвец**... П’яная ляжыць...

**Як на бумазі выпісыя.**

**Як піша.**

Казаў: “Я ня знаю, што такоя перядавая. Я і немцаў ня бачыў”. Прышоў... Аж усё **раўно піша**... Выпісыя... І танцаваць пойдзя... Перяд бабамі...

**Як на бумазі выпісыя**... Ідзёць, выкаблучыя... Танцуя...

**Як на ляду.**

Усі казалі: Аставіў, **як на ляду**... Ні крышы, ні сцен... На ляду... Стой, каўзайся, падай... Німа жылля нідзе.

<*У вас казалі?*>

Усі тады казалі: “Асталась, **як на ляду**...” Гаворяць: “Астаўся чылавек, **як на ляду**. Каўзайся, ні іціць, ні ехаць... Ні сцен, ні крышы”.

**Як нявеста на свадзьбі прыбраная.**

І калісь баба наша казала: “Устала... Маруся мая – красавіца на ўсё Закружжа была... Устала, да і кажа: “Мам, што-та я за сон бачыла? – Бабіна дачка, майво бацькі сястра. – Будта ты ўзяла і вянок белы, такі длінны красівы, белыя цвяты ўсякія, вяночык... І мне ўзяла, да і надзела, і кажыш: “Будзіш, **як нявеста на свадзьбі прыбраная**”.

**Як павукі** (поўзазаюць).

Мая матка і свінней даглядала, і кароў даіла, і ўсё брала, і ўсё з яе мала было... Усе яе не любілі: “Во абжыральная! **Як павукі поўзалі**... А што я... Дак з малаленства рабацяга была...

<*Чаму* **як павукі***?*>

Павукі ж без канца лазяць... Не сядзяць у гнёздах... **Як павукі, поўзалі.**

**Як паліц** (худая).

Ён вышоў: “Грэцкая! Сколькі можна пасланцоў за табой пасылаць? У настаўніцкаю быстра!” А я такая худзінькая. Ну, **як паліц**. Я паднялася, гаварю: “А чаго?” – “Ідзі!” Я вышла ў настаўніцкаю. І ён ідзець услед.

**Як парвецца мех, дак і на бацьку грэх.**

Усі любяць і бацька, і матка, як яно ўсё харашо... А як так, дак хто вінават... Ну, усягда вінуяць крайняга... “Нада была ладзіць...” І тоя ня так, і тоя...

Што-нібудзь, шкода іздзелаіцца... Хто вінават?.. Бацька...

<*Чаму бацька, а ня матка?*>

Бацька ж хазяін...

**Як певень кала курэй**.

Бацька пеў на клірусе... І дзед Капрал... Там жа бабы пяюць... А дзед ужо тый пяе... Мужчына... Яны ўсі кажаць: “**Як певень кала курэй**”. Дзед Капрал ідзець на Свячу... Мужчыны: “Пайшоў ужо кудахтаць... Пайшоў ужо певень к курям...”

**Як перышка.**

Ты выдзі і патанцуй, штоб ты**, як перышка, лятала**... Я сама нікалі не наряджалася і не любіла хто... Ета, каторыя, такія... Пахабныя... У нас *сіняя парція* была... Надзявалісь... Дак ім усё раўно... Яны надзенуцца, ходзяць, срамныя песні пяюць... Дак ета нехарашо... У нас адна баба была, Дунічыха... Дак што дзелала... Надзеня штаны такія... Дзе яно ўжо найшла дзірявыя?.. Штаны надзеня і сарочку падкасая... І выгінаіцца і ўся жопа тырьчыць... Ну, ета красіва?.. У “Стряле”... Дак калісь Амерыканец дзед прайшоў... Мужчына... Кажа: “Пятровіч, пайдзём...” А ён гаворя: “Не магу іціць... Што яна мне жопу выстаўляя... Усім людзям...” Ты здзелай красіва, а не то, што ты... К чаму яна ета здзелала... Вот такіх я не люблю...

<**Як перышко**...>

**Як перышка**, лятая... Яна выдзя, лёгінька танцуя. Што яна кружыцца, **як перышка**...

**Як правалам прайшоў(ла) → Пашоў, як удавіўся.**

**Як пулямёт.**

**Пастрачыў, як пулямёт.**

Пецька Купрэеў... У іх многа была дзяцей... А ета самы паследні... І вот ён такі быстры... Тут есць, тут німа яго... Дак бацька іхні празваў яго... Матка іхняя Марфа: “Ідзе Пецька?” – “А-а-а? Ты етава пулямёта шукаіш? Ён ужо дзе-та **пастрачыў, як пулямёт**”. Бацька сказаў: “Ён ужо пастрачыў, як **пулямёт**!” І пайшло на вуліцу... І вот ужо пажаніўся... І памёр – **Пулямёт**...

**Як пяць пальцаў (знаць).**

Ты ім давяряіш? – Я іх, **як пяць пальцаў, знаю**.

**Як рабы → Вумныя ездзяць на п’яніцах.**

**Як растала.**

**Як лёд, растала.**

<*Вы сказалі*: “**Як растала** маладзіца... Была і німа...”?>

Да... **Як лёд тый, растала**... І ўсё... Калісь усё казалі... Баба наша, як што шукая... “Як растала”. Мы гаворым: “Баба, ета ж ня лёд... Што растаня... Усё ж адно вада будзя...” Так і яна... была і растала...

**Як робіць матка, так і дзіцятка.**

**Якая матка, такая будзя і дзіцятка.**

Ета праўда... Як матка харошая... Маю матку ні любілі... Калісь сказалі на матку... Былі такія мужчыны... “Во памёр Сашок, дак ціперь яна паглядзіць... Ня будзя ўжо так

жыць...” Узялі, матцы сказалі нашай... Прышла там адна і кажа: “Так і так табе, Полька, казалі...” Грэцкая... Грэцкая звалі... “Грэцкая, на цябе так і так сказалі...” Дак матка ім сказала... Дзесь пры кампаніі... Матка іх ўбачыла і сказала: “Я жыла і жыць буду... Мае дзеці!.. *По міру* ні водзін *ні пойдзя*... У мяне іх шэсцера... Пяціра дзяцей, баба шостая, як дзіцёнак... І я сёмая... Сем душ пракармлю, і галодныя ня будуць і халодныя... Будуць хадзіць яны ў міне *чык на чык*... А вы за сваімі самы глядзіця, а ў маю сям’ю ні ўлазця”. І сказала: “Дзеці, слухайця міне... Буду над вамы *жалезнаю дзісціпліну дзіржаць*, толькі штоб міне слухалі. Я сіратой жыла, век у горы... Вы сіратамы расціцё, дак дзелайця так, як я вялю, і ні будзіця галодныя і халодныя”. І, праўда, і стала даяркай у калхозі, а тады ў магазіні некага... Каго ні паставяць, месяц-два пабудуць – недачот, месяц-два пабудуць – недачот... І сказалі на обшчым сабраніі... Матка з бацькам у Сівінцы таргавалі... Нідачот і нідачот... Матка з бацькам сталі – усё харашо. Год праработалі – усё *шык-блеск*. Дак матка і сказала: “Ні даждзіцёся вы маёй пагібілі... Можа, хвароба спутая міне”. І стала кароў даіць, тады сказалі: “Грэцкая, станоўся ты, а то правал у магазіні”. І матка стала, і адна таргавала, і кароў даіла, і свінней прыгналі, ніхто ні стаў... “А-а-а! Свінней тых!.. Ну, іх *к чорту*! Ішэ с свіннямі будзім!..” Матка прышла, на бабу: “Давай і еты груз вазьму... Ні на себя, а на цябе... Багата столькі работ ні пішаць у калхозі”. – “Станоўсь...” – “Пішыця на бабу, што баба – свінарка”. На бабу запісалі. І ўсё выпалнялі. Яна: “Дзеці, свінні будуць за вамы!” Трава... Мукі дамоў возьміма сваім свінням... Кабана нада выкарміць к новаму году, штоб сала харошая была. “Вы штоб даглядаць памагалі, патаму шта мне сільна цяжола”. І ўсё дзелалі, і спраўляліся, і прыдсідацііль на сабраніі хваліў. “Во, – гаворя, – вазьміця, Грэцкія... Я знаю, што ім цяжола, ну ўсё раўно, дзеці памагаюць, дзеці рабочыя”. І жылі мы *чык на чык*... Мы пра голад ні зналі... Тады, послі вайны матку паставілі, усё згарэла, хаты пагарэлі, пастроілі... Ні згарэў анбар калхозны, быў клуб, дак ён ні згарэў, клуб астаўся, дак здзелалі анбар... Ня клуб, анбар, што строіць некаму, мужчын німа... І пражылі, і ні любілі маю матку за ета, што матка сказала: “*У кроў* буду *біцца*, усё раўно, сто работ вазьму, но, ўсё раўно, штоб маі дзеці *чык на чык* хадзілі”. І мы ні хадзілі галодныя, лучшы ўсіх хадзілі, надзеўшы. Тады ўсё сіццавая была... Хадзілі мы... У мяне дак штукі чатыры ці пяць было... Як і ў Машы, і ў Тусі... І Ягорка, і Іван, і баба ні дзярявая хадзіла, і матка. Матка харашо, чыста хадзіла... Срэдзі ж людзей, у магазіні... І бегала ўсюдых... Прыдзя дамоў, ляжа і кажа: “Дайця мне аддыхнуць, дзеці... Штоб я хоць перядрямала”. **Якая матка, такая будзя і дзіцятка**... Дзеці ж вучацца ў маткі... Ну, бываяць неслушы... Наша Туся... Матка калісь казала: “Цябе б у жалезнаю машыну ўкінь, і адтуль ты *выскачыш, як усё раўно рыба з вады*”. Патаму шта еслі закаліцца ужо дзіцёнак такі, хоць ты яго што хочыш, ён будзя такі самы чорт, як і ё. Кажаць, *яблана кала ябланы...* Вецер хай шуруя неўма які, а ўсё раўно яны тут пападаюць, яблакі... Ад салодкіе салодкая сагніе, дак порасткі пойдуць... Ад горькіе горькая... Гаворяць: “*Які пень, такі і клін – які бацька, такі і сын*”.

**Як родны(я) → У гасцях харашо, а дома лучшэ; Свят душой; Як звер.**

**Як рыба (маўчаць) → Каменем на дно; У трэскі здзелацца.**

**Як ряпуха на гарбузу.**

Ряпуха – эта жаба. Калісь на старых баб усё гаворяць: “Што ты ўжо сядзіш, **як ряпуха на гарбузу**?” Жабы ё такія, пухнатыя, як надзьмуцца.

**Як сабака → На кулак работы шукаць.**

**Як сабаку (выгнаць, зняць).**

Выгналі, **як сабаку.** Ён піў *без памяці.*

<*Чаму* **“як сабаку”?**>

Сабака *шкоду здзелая*... Ці курыцу разарве ў дварэ... Ці дзіцёнка ўкуся... Тады ўжо бяруць што-нібудзь і б’юць гаразда.

**Як сабачы хвост (калоціцца).**

Сэрца **закалоціцца, як сабачы хвост**. Сабака як пачане віляць... Так скора калоціцца... Як усё раўно машынальна.

**Як смала (ліпня).**

Матка будзя казаць: “Смала, ідзі ўжо, смала, ня ліпні! А то ты, ***як*** тая ***смала, ліпніш*** к бярёзі, к дубу”.

**Як снігіры на марозі.**

Снігірь яго дражнілі. “Хто-та пайшоў?” – “Снігірь”. І Малекула яго звалі хлопцы: “Эй, Малекула, ідзі сюда!” <*Чаму* **Малекула**?> Малы. Ён з нашым Ванем равеснік. Вот картачкі... Ён сядзіць... Ня скажыш, што ета сядзіць школьнік. А ў сёмы клас хадзілі... Ён сядзіць, як усё роўна, первячок...

<*Чаму* **Снігірь**?> Такі худзінькі, ростам малы, мордачка, як у малага дзіцёнка.... Снігіры ж такія... Усё гаворяць: “Што ты сідзіш, **як на марозі снігірь**?” На малых... Баба наша калісь казала: “Ну, што вы сідзіцё, **як снігіры на марозі**?” А мы сядзім... Калісь жа сарочачка, ні цёплага нічога ні надзенім... Німа... Вот на грубцы адзін к к аднаму пасадзімся і грэім адзін аднаго... Упяцёх...Усё баба казала: “Снігіры ж сабіраюцца капэлай і сідзяць”. І усе людзі так казалі: “Што ты сагнулася, **як снігірь**?”

**Як сом.**

Усё калісь казалі: “Што ходзіш, **як сом**, надуўшы? Ну, што ты ўжо, **як сом**, надуўся?”<*На каго так казалі?*> І ты б хадзіў, нудзіўся... “Што ты нудзісся? Ходзіш, **як сом**”.

<*Варя сказала на Сяргея*: “Што ты ходзіш, **як сом**?”>

Да. Гаворя: “Што ты ходзіш, **як сом**? Ні пытаіш нічога, нічога ні гаворыш”. – “Мне ё з кім гаварыць... Па крайне мере людзі... І пагаворяць са мной, і раскажаць, і пасаветыяць... А вы!..” Махнуў рукой, да пашоў.

**Як старцу (даваць) → З-пад бары (даваць).**

**Як сто баб адхадзіла.** Гл. таксама: **Вомегай вылазя; Штоб (хто-небудзь) парог не перяступаў.**

Гаворяць: “Па бабках хадзіла, хадзіла. Сто баб прайшла, дзевяноста дзевяць, а на сотай памаглося мне”. Шэпча... Па шэптах. Ці гаворяць: “Выругалася, **як сто баб адхадзіла**”. Калісь у нас бряхлівая Моця была. І вот прыдзя, што-нібудзь перяверня і набрэша. Матка наша калісь не любіла бряхлівых. Тая прышла, яна гаворя: “Усё! Моця, *штоб тваей нагі болей не было*. Вот раз табе скажу, **як сто баб адхажу**! І штоб большы ка мне не хадзіла”.

**Як сыч (надуўся**).

Вот бальшы што-нібудзь будзя плесць, гаварыць абы-што. Я так сяду, думаю: “*Ідзі ты к чорту”*. – “Што ўжо **надулася, як сыч**!”. Сыч – ета верабей такі. Сычы... Яны і на карцінах надутыя сядзяць.

**Як таўкачом ваду ў ступі →Старая баба, як таўкач у ступі.**

**Як траўленая рыба.**

Я хажу, **як траўленая рыба**... Некаму пажаліцца, не з кім пагаварыць... Толькі табе... Я думаю, еты чылавек нікому ні скажа... Як тая песня...

Я пад белаю бярёзу
Пайду паплачу-паряву,
Мая белая бярёза
Век ні скажа нікаму...

Патравяць... Яна паўзе, ня зная куда. Рыбу рэдка хто бача, як яна гуляя... А мы калісь хадзілі с Тусяй на Рявучае... Што яны там здзелалі, што яна плавала пузам уверьх... Яна ішчэ жывая... А сілы німа плаваць... Яна плавала і падыхала...

<*На каго так казалі?*>

Ну, ты вот ходзіш... Ці не даволен, ці забаліць што...

**Як у бані (раздзецца) → Як маць радзіла.**

**Як убіты (спіць).**

Нясе, яна казала, маладзіца дзіцёнка. Я гаварю: "Куды-та ты ідзеш?" – "Да пайду к Просьцы. Хай Проська пашэпча. Дзіцёнак ня спіць начамы". "Я, – гаворя, – хадзі-ка сюды". Яна падышла. "Давай дзіцёнка. Дай-ка я пашапчу". Думаю: "Падаждзі, Проська. Я табе *пяраб'ю хлеб*". За тога дзіцёнка: "Пасядзі на лаваццы. А я пайду пашапчу". Падышла, дзе куры сядзяць, і кажу: "Як куры рана лажацца спаць, штоб ты лёг і да рання ні прашнуўся. Спаў крэпкім сном". Вынясла, на яе і кажу: "Хадора, на нясі. Палож яго. І цішына ў хаці штоб была. Ён будзя спаць. Яна пашла. Я: "Штоб ты да вечаря і ні прашнуўся. І ноч штоб спаў!" Назаўтря, гаворя, прыходзя ў абед Хадора, прынося мне, пірагоў напякла, да сала – гасцінца прынясла: "Ой, баба Насцюха, на табе гасцінца. Прышла, як паклала, ён, **як убіты, спаў**. Дак я і к табе пашла, ён спіць яшчэ. Дак еслі будзя, я к табе буду насіць". – "Прынось". І гаворя: "Нясуць ка мне дзяцей да гасцінцы. Дак Проська тая і кажа: "Чагой-та ты ў мяне *хлеб перябіла*?"

**Як у вянку (вяночку).** Гл. таксама: **Як пойдзя з ранку, дак да самага смерканку**.

Ну, ета вот гаворяць: хто харашо з мужыком жыве да багата, дак гаворяць: "Вот жыве, **як у вяночку**. Шчаслівыя такія ё: жыве, мужык такі харошы... І жыве, ***як у вянку***. А вянок – ета ж з цвятоў. Прэлесць. Усё на Амерыканчыху казалі. У яе мужык харошы быў. Ён век не мацюкне, ніщто. Харошы быў. Сямейны такі. Дак усё баба казала: "Ой, Прося, ты пражыла, **як у вянку**!" І ўсі так казалі: "Ты ўжо жывеш, **як у вянку**". А ў другіх мужык такі: то нерабацень, то п'яніца... Ня то шта **ў вянку**, у трэсках – і то не скажыш.

**Як угарэлы.**

Другі пачане... Будзя крычаць... "Чаго ты, **як угарэлы,** бегаіш?" Гарыць жа чылавек, галава баліць, ня зная, куды кідацца.

<*Чаму так на Сяргея сказалі?*>

Што-нібудзь шукаяць... Нада ня бегаць, **як угарэлы**, а нада харашэнька....

**Як у мертвяца (халодный) → Як лёд.**

**Як услана.**

Прыехалі ў лес, апеняк – **як услана**! Ета многа!.. Так ужо багата!..

**Як у трэсках → Як у вянку.**

**Як у тумані.**

Вот туман. Ня відна нічога. Песня ё: “За туманам нічыво не відна...”

**Як у фуру сабраўся.** Гл. таксама: **Як камяга (разраслася).**

Ты надзелаў каткоў, я надзелала каткоў, мне іх прадаць нада. Куды іх везць? Ты, напрымер, у Гомелі дзелаў, у цябе ё станкі такія, што выскабліваяць, а ты чылавек – у цябе конь ё, і ён к табе прыходзя, дагаварывая: “Паедзім пагрузім”. Цяпер – машыны, а калісь коні, пакладуць ужо колькі скатаў (скат – чатыры каткі), вот ён сколькі скатаў пакладзе і скажа: “Вязі, там і там будзя ярмалка... У Свяцкой... І прадай па такой цане”. Ты скажыш: “Ну, добря”. – “А я табе заплачу, за то, што – ты туда і аттуда”. Вот ты садзішся, называіцца “фура”. І ён вязе на ярмалак туда етыя каткі, прадасць, і надзяецца – еслі зімой, сані нагрузяць, ета называіцца, прыходзяць: “Паедзіш ты ў фуру?” Ета называіцца: “Вязі ўжо на армалак”. І валенкі, суконкі, наскоў не было, суконкі тканыя, шэрсцяныя ніткі, прядуць з авечак, з воўны, надзяюцца цёпла, у шубы, штоб жа ехаць, праедзь-ка з Гомеля да Свяцкія. Называіцца “фура”.

<“Фура” – на чым едзіш, альбо проста на ярмалку едуць?>

Ярмалак – ета ярмалак, а ты едзіш, уноч черяз Амяльноя, і табе нада з Барьбы ехаць черяз Амяльное і на Закружжа, і тут куловарат. Яны ўранні рана едуць, самы адчыняюць куловарат, а ўжо як адтуль едуць, а мы ўжо стаім : “Фуршчыкі будуць ехаць! Вон ужо едуць фуршчыкі!” Не кажаць “ярмаршчыкі”.

<**Ехаць у фуру** *значыць “ехаць на ярмалку”?*>

Да. На ярмалак. Прадаваць што-нібудзь – “*у фуру*”. Ішчэ далей куды-нібудзь, дзе збытак харошы.

<*Чаму такое слова* “**фура**”?>

Я ня знаю.

<*На каго казалі*: *“***Як у фуру сабраўся***”*?>

Я сёдні Райцы казала. Райка прышла ў валенках здаравенных, па два наскі, і парцянкі байкавыя. Я кажу: “Ты ўжо **як у фуру, сабралась**?” Яна ўжо зная, што такоя “фура”. Яна гаворя: “І не гавары. І то лягчэй у фуру надзяюцца”.

<*І баба так казала? На каго?*>

Вот ці ты б прышоў, да шубу надзеня дзед Майка, дак яна і гаворя: “Ты ўжо, Майка, **як у фуру сабраўся**?” Я сёдні на Райку кажу: “Райка, **ці ня ў фуру ты *сабралася***?” – Яна: “Ну, маўчы. Я і знала, што ты ета мне скажыш. Надзяю... Мне ўсё халодна”.

<*У фуру толькі зімой ездзілі?*>

І летам “у фуру называяць”. А летам ты едзіш... Дак так во галахвасцікам? Тож надзяешся нанач цяплей. “Надзявай цяплей. Ты ж у фуру едзіш!”

**Як учора радзіўся.**

Пражыве чылавек, а **як учора радзіўся**. Усё забытая.. Усё яно прайшло, як учора радзіўся. А тоя забываіш. І баба казала: “Пражыла. Смерць *на насу*. А **як** усё раўно **учора радзіўся**...”

**Як цацка → Як цацку (здзелаць).**

**Як цацку (здзелаць).**

<*Вы сказалі:* “Я воз складу, **як цацку**”.>

Ета харошы... І красівы будзя... Ня то шта з аднаго боку наляпіў... А падае табе, падае, кладзеш на адзін бок і на другі... А трэцці падае, кладзеш на сярёдак... І другі пласт... І воз, **як цацка**. Гаворяць: “Ты ўжо, **як цацку**, здзелаў”.

**Як цень.**

**Як цень па націні.**

Калісь хворы, дак гаворяць: “Я бачыў тога... Дак ужо ходзіць, **як цень**”. Ета слабы, дак гаворяць: “Ён ужо ходзіць, ***як цень***...” Дак усё казалі: “Ходзіць, **як цень па націні**...” Ну, цень на цень.

**Як чорт аблізаў.**

Ну во, што-нібудзь паложыш... Учора палучыла пенсію, зматала ў платок... І шукаю платка, і не найду... І я гаварю: “**Як чорт аблізаў**!” І хаджу, і шукаю. І палядзела сёдні ўранні: платок *колам ляжыць*, учора ні найшла. Ета ўжо: “**Як чорт аблізаў**”. І баба, і матка: як толькі чаго німа, яны: “Госпадзі! **Як чорт узяў да аблізаў**!” Паложыш... Во калі ключ палажу ў кармані... Паляжу: у століку – німа і ў замку...

**Як чорт зубамы дзяржыць →З кіпіча гаршка вырываць (атрываць).**

**Як чорт у лапцях → Ваду варыць.**

**Як чужы (як чужак).**

(а) Ён для мяне, **як чужы**, а к табе мы прывыклі, ты ўжо як свой.

(б) Раздзявайся... **Як чужак**, стаіш...

**Як чурбанок → Як чурак.**

**Як чурак.**

Уверцяць яго, дак ён ляжыць, **як чурак**. Крэпкі, і ручкі ўвязываюць, і ножкі – штоб ня былі крывалапыя. Будзя, **як чурбанок** ляжаць.

**Як чуркі → Пустая вада.**

**Як чылавек → Хвокусы выкідаць.**

**Як чэряз канвеір → У папа рукаў шырокі (бальшы).**

**Як харошая жана, дак у запасі бочка пшана.** Гл. таксама: **Вумная жана – як бочка пшана.**

Гаворяць: “**Як харошая жана, дак у запасі бочка пшана**”.

Як харошая жонка, а другая табе... Крычыць... Ё чаго... Німа.. Будзя ўсё *глотка хлешчака стаяць*...

**Як шаўковыя.** Гл. таксама: **Хоць ты ў вуха ўлож.**

(а) Шаўковы... Мякінькі ж... Ці ўзяць яловы. Дзве разніцы.

(б) <*Вы сказалі*: “Матка як *адчысця аборай*, дак мы, **як шаўковыя**”. *Гэта якія?*>

Калісь жа шоўк... У нас хустачка была шаўковая... Бацька ў Кіїў чагось ездзіў і прывёз. Дак у ета скрысенне я завяжу, у тое скрысенне Маша, тады Туся... Дак па скрысеннях толькі завязывалі. Я гаварю: “Ужо мая вочырядзь падышла”. А матка говоря: “Вочырядзь бабіна і мая”. Мы ўжо маўчым... Баба ўжо завяжа і матка... Баба: “Ніхай ужо дзеўкі завяжаць”. – “А я табе гаварю: “Завяжы!.. Празнік”. **Як шаўковыя** хадзілі.

<**Шаўковыя** – *гэта як?*>

Мякінькая, красівінькая...

**Як штык.**

Будзя закідаць, дак улятуча, **як штык**. *Пайдзёць прямым саабшчэніем*.

**Як шчотачка.**

Перяц не ўзыходзя. *Ту, нячыстая сіла!* Памідоры ўзышлі, **як шчотачка**.

На што-нібудзь гаворяць: "*Ту, нячыстая сіла!*" Як няўдача якая. То ні туды пайшоў... То ні то здзелаў.

**Як царэўна.**

Пашкіна бацькава матка на матку сказала: "Прахадзімка. Ты *к царю Давыду і к тому даб'ешся*". А матка гаворя: "Адной жывучы, нада і сцаць бегучы. За то ў міне ўсё ё, куды ні цапну: і крупа, і мука, і бульба, і кашу густую варым. Вы жыдзінькую варыця, і то цераз дзень. За то, што ў калхоз не ідзіцё. Адарка за то сядзіць, **як царэўна**". А якая яна царэўна была?..

**Як ціхае лета.**

<*Вы сказалі: Сашка быў*, **як ціхае лета**.>

Ціхае лета. Бяз буры, бяз гразы, бяз молніі. Харошы такі. Ён *вады ні замуціў* нікому. Усі так казалі: "Што ета за чылавек?" – "А ён – як ціхае лета".

Ета прыказка такая. І дзеці бываяць.... Бываяць, што глотку разяўляюць, глоткі малыя, а бываюць ціхія.

**Як цэп (п'яны).**
**Як цэп, набраўся.**

(а)<*Варя сказала на бацьку*: "П'яны ляжаў, **як цэп**">

Ета ўсе так гаворяць: "Ляжыць**, як цэп**". Калісь баба Іванюшкава прыдзя: "Не ў вас ён быў?" – На дзеда Майку. Матка гаворя: "Не. У нас ён ня быў". – "Ён жа прышоў, упаў, ляжыць, **як цэп**. І дзе ён?.. Хтось яму даў выпіць".

<Чаму **як цэп**?>

Цэп ляжыць. Не падымаіцца сам. Так і гаварылі: "Набраўся. **Як цэп**, ляжыць". Цэп не падымі, заржавея, ляжыць.

(б) Ён казаў: "**П'яны** прыду, **як цэп**. На жонку сварюся, а на матку слова ні скажу".

<**Як цэп** – *гэта як?*>

Ну, п'яны ўжо. Усі так казалі... "Во ўжо**, як цэп, набраўся**". Калісь дзед Майка казаў: "Не, Куліна... Ішчэ не **як цэп**. Ішчэ іду на нагах... А як упаду, ужо **як цэп**".

(в) **Цэп цэпам ляжыць –** п'яны ляжыць.

**Як ячмень у ступі таўчэш.**

...выцісківаць, штоб вада светлінькая бегла. Дак будзя ці Жавараніха, ну, суседзі. У нас копані свае былі за гародамі на поплаві, капалі кажды ж сабе сціралі, прялі абы ў якой: у адной пяруць, у адной палошчаць, а тады ішчэ ў чысцейшай. Копаняў шэсць было. Так будуць казаць: "Хваця! Ужо, **як ячмень той у ступі таўчэш**! Ужо паразбіваш і сарочкі, і ўсё!

Як асмётак, ходзя – **чэряз грыб ня плюня**!

Дадатак

## “ХТО ПРЫКАЗКУ ГАВОРЯ, І СЛОВА ЎМЕСЦІ СКАЖА З ПРЫКАЗКАЙ...”

Дадзены матэрыял з’яляецца ўступным артыкулам да асобнай часткі Фразеалагічна-парэміаяагічнага слоўніка, складзенага мной паводле маіх шматгадовых размоў з жыхаркай пасёлка Амяльное Веткаўскага раёна Варварай Аляксандраўнай Грэцкай. Гэта частка слоўніка ўключае ў сябе адзінкі з ненарматыўнымі (нецэнзурнымі)

элементамі. Не скажу, што падрыхтоўка гэтай часткі слоўніка далася мне вельмі проста. Былі ваганні: друкаваць альбо не друкаваць. А калі друкаваць, то якім чынам: растварыць іх у масе прыстойных, нарматыўных альбо звесці іх разам і зрабіць своеасаблівы выбух у прасторы беларускага мовазнаўства. [1]

Праблемы з публікацыяй падобных адзінак як у расійскіх, так і ў савецкіх як мовазнаўцаў, так і фалькларыстаў існавалі заўсёды. У вышэйшай ступені істотна і падрабязна гэтая сітуацыя прааналізавана Б.А. Успенскім у артыкуле “Мифологический аспект русской экспрессивной фразеологии”.[2, 53-128] Рэдагаванню падвяргаліся слоўнікі У.І. Даля і Фасмера, фольклорные зборнікі Кіршы Данілава і А. Афанасьева. З іх выкрэслівалася ўсё, што не адпавядала уяўленням аб чысціні мовы. У гэтым плане цікавымі з’яўляюцца ўспаміны А.М. Трубачова, прыведеныя ім у артыкуле, прысвечаным гісторыі рускага перакладу этымалагічнага слоўніка Фасмера, дзе ён дзеліцца жывымі ўспамінамі пра жорсткую барацьбу, якую яму – тады яшчэ маладому даследніку і перакладчыку слоўніка – прыйшлося весці з рэдактарам гэтага выдання праф. Б. А. Ларыным. Трубачоў змагаўся за захаванне непрыстойнай лексікі, тады як Ларын настойваў на яе выключэнні. [3]

Зразумела, што ў падобнай сітуацыі апынуліся і беларускія навукоўцы. Гэта празрыста прасочваецца у артыкуле С. Некрашэвіча, дзе ён вызначае: “Асобнае месца ў слоўніках займаюць так званыя непрыстойныя словы. Іх нярэдка выкідаюць, як абразу маральных пачуццяў чапавека. Але мы з гэтым зусім нязгодны; іх патрэбна ўводзіць у слоўнік і таму, што такімі словамі надта багата наша мова, і таму, што за гэта гаворыць наша сучаснае грамадзянскае жыццё. Тэндэнцыя да выкідання такіх слоў пайшла ад Французскай акадэміі навук, якая наогул падзяліла мову на вышэйшую і ніжэйшую, на панскую і мужыцкую. А паколькі ў нас ні вышэйшай ні ніжэйшай мовы няма і быць не можа, а таму няма ніякай падставы дзяліць нашы словы на добрыя і благія, непрыстойныя, і не ўносіць апошніх у слоўнік. Што іх патрэбна ўносіць у слоўнік, скажам словамі прадмовы Якава Грыма: “Слоўнік не заслугоўваў бы сваёй назвы, калі б ён, заместа таго, каб выстаўляць словы, хаваў бы іх. Слоўнік не павінен скрадваць аніводнага жорсткага славечка, ніводнай сапраўды існуючай у мове формы, а тым болып цэлай катэгорыі слоў, якія жывуць з незапомных часоў і па неабходнасці даюцца таму, што існуе ў прыродзе. Такой катэгорыі слоў мы не маем права адхіліць, таксама, як не можам знішчыць звычайных прадметаў, якія нас непакояць”.[4,67]

Аднак варта адзначыць, што ў апошнія гады расейскімі мовазнаўцамі былі выдадзены некалькі акадэмічных слоўнікаў “русского сквернословия”.[5]

Што тычыцца беларускіх мовазнаўцаў, то ў іх і па наш час існуюць праблемы з публікацыяй падобных складнікаў мовы. І гэтая публікацыя, сапраўды, першая ў гэтым накірунку.

Але паўтаруся, што яна далася мне з вялікімі сумненнямі. Спрацоўваў унутраны рэдактар, унутраны прыхільнік чысціні мовы. Я элементарна апасаўся выставіць Варвару Аляксандраўну Грэцкую ў непрыглядным выглядзе. Яна ні ў якім разе не з’ўляецца махровай мацершчынніцай. Гэта сямейнае выхаванне: *“Калісь баба наша казала: “Два празнікі ў гаду...” Ета Юрый-Ягорый і ходзя на маслянай нядзелі – Уласкі... Дак дужа ўрэдны ён. “Дзетачкі, нічога ня дзелайця, прагуляйця тэй дзень і скаромных слоў, нябыльных не гаварыця. Ета вялікі празнік... адна мінута і ўсё спорця”.* І яшчэ... <Запытваю:> “Дзецям не казалі, што ета мацюкі, што нельга казаць?” – *“І нам казалі... Я ўжо забыла, што мы ўсё гаварылі. Баба наша: “Вон Бог усё чуя і зная”. – “Баб, ён ня чуя. Ён высока”. – “Ён у хаці сядзіць на вíконі, ён усё, куды...” І праўда, зойдзім туда, ён глядзіць “Баб, чаго ён на нас глядзіць?” – “Таво, штоб плахіх слоў не гаварылі, абы што ня дзелалі”. І яшчэ: “Ці украдзіш што-нібудзь... Душу ў ад пускаіш...Ці хто мацюкне, дак душа у ад ідзе. Як нехарошае што-нібудзь здзелаіш – ужо у ад ідзець”. І пра свайго бацьку: “Наш бацька вабшчэ не мацюкаў. І быў прыдсідацілям калхоза. Другія прыдсідацілі, знаіш якія… А ён спакойны быў. Усі казалі:*

*“Сашок, ні кідай нас…” У яе мове таксама асобныя мацюкі практычна не сустракаюцца. Яны ўзнікаюць толькі ў прыказках. Як вызначае яна сама: “Хто прыказку гаворя, і слова ўмесці скажа з прыказкай... Тоя самая і плахоя скажа...”* Прыказкі не рэдагуюцца. <Бываюць прыказкі з нябыльнымі словамі. А калі выкінуць нябыльнае слова?> *“Няльзя ж... Гаворяць, із песні слова ня выкініш... Як яно ўжо гаворыцца... Ці пяеш, дак ужо ня выкініш... А выкінь... Ня то будзя...* [То песня... А прыказка...] І з прыказкі ня выкініш ужо... Як нада, дак яго патрябляіш...” [А калі слова выкінуць?] *Не дадзеланая. Гаворяць: недадзеланая казка бывая і недадзеланая песня. Ета ўсё калісь... Пачынаіш песню, дак пей усю, штоб яна не была не дадзеланая... І дапеваіш”.* Варвара Аляксандраўна Грэцкая, не абцяжараная лінгвістычнымі ведамі, амаль слова ў слова паўтарае сказанае ў падобнай сітуацыі І.А. Бадуэнам дэ Куртенэ: “Рэдакцыя новага выдання, <гаворка вядзецца пра Слоўнік У.І. Даля> маючы на ўвазе і тут першым чынам навуковыя меркаванні і поўнасць слоўніка жывой рускай гаворкі, знайшлі неабходным дапоўніць і гэту частку слоўніка, зусім не лічачыся з меркаваннямі і поглядамі чапурыстых педантаў-“маралістаў”. Як па прымаўцы “з песні слова не выкінеш”, так і са слоўніка жывой гаворкі нельга выкінуць нават тых слоў, якія рэжуць вуха”.[6,236]

*Нябыльныя* – вызначэнне амяленскае, хаця яно і не адзінае: “*Срамныя, ліхія, нябыльныя*. І так, і так... І *гадкія* кажаць...” І калі *ліхія, срамныя*, *гадкія* – відавочна, то чаму *нябыльныя* – пытанне. Усе мае спробы высветліць гэта ў Варвары Аляксандраўны Грэцкай далі толькі адзін больш-менш слушны адказ: *“Нябыльныя словы – ета мацюкі. “Нябыльныя словы” завуць. І баба наша: “Нябыльных слоў не гаварыця”. Ета калісяшні разгавор. Ціперь “ніякія” завуць, а тады – “нябыльныя”. Разгавор саўсім другі быў. А мы ішчэ па-калісяшняму гаворым”.* Больш плённай аказалася размова з яе стрыечнай сястрой Праскоўяй Сяргееўнай Кужэльнай.

<Варвара Аляксандраўна кажа, што мацюкі – гэта нябыльныя словы... Чаму нябыльныя?>

*“Таго шта некультурныя... Нябыльнае слова... Як па-навучнаму гаворяць нецынзурныя, а ета – нябыльныя... Ета па амяленскі...”*

<Нябыльныя... Што за словы?>

*“Па розуму... Ніхарошае... Вот быліны... Можа, ад слова быліны... Быліна ж... Ета ні казка, а быль... Можа, ад етага слова... Плахоя... Небыліцы... Гаворяць: “Што ты пляцеш усякія небыліцы... Значыць, ета абы-што... Што небыліцы... І страмныя прыпеўкі... Па-навучнаму – небыліцы... Ад небыліцы слова ўзяла...”*

І зноў, развažанні простай вясковай жанчыны, якія грунтуюцца толькі на яе логіцы, альбо, як яна сама вызначае, “па розуму”, супадаюць з развагаваннямі вядомага навукоўца. М.М. Бахцін, разважаючы наконт ненарматыўнай лексікі, робіць наступныя высновы: “Ва ўсіх сучасных народаў ёсць яшчэ велізарныя сферы непублікуемай гаворкі, якія з пункту гледжання літаратурна-гутарковай мовы, выгадаванага на нормах і пунктах гледжання мовы літаратурна-кніжнага, прызнаюцца нібы **неіснуючымі**”.[7, 464]

Аднак так было не заўсёды. Як сцвярджае М.М. Бахцін: “Шмат якія непрыстойнасці і блюзнерскія выразы, якія ўжо ў XVII стагоддзя набылі такую сілу зменьваць кантэкст, у эпоху Рабле зусім **не ўспрымаліся як такія і не пераходзілі меж прынятага ў афіцыйнай гаворцы. Кожная эпоха мае свае нормы маўленчай афіцыйнасці, прыстойнасці, карэктнасці**”.[7,207] Тое самае на прыкладзе амяленскай гаворкі вызначае і Варвара Грэцкая: *“Ціпер па-культурнаму... папераменівалі... а тады дулі...* [Аляксееўна казала, што вы не культурна гаворыце... А вы казалі, што са мной як са сваім гаворыце...] *Я гавараю: “Табе культурна нада, гавары... А як гаварыла, так гавараю... Ты ўчыцілка, гавары па-культурнаму, а як гаварыла, так гавараю... Во ты кажыш: “Насяры ты на ета дзела... Дак пры ём нільзя...” Я гавараю: “Ён што сраць ня ходзя?.. Ходзя... І ты ходзіш, і ўсі ходзяць... Толькі культурыціся...” І яшчэ: “Баба ўсё*

*казала... Як пачанеш спорыць... Вот калі дзед Майка прыдзя, будзя сваё гаварыць... Баба: “**Багата ты знаіш, да с... ня просісся, у штаны валіш**...”*

[Ета така прыказка?]

*Ну, казалі... “**Багата ты знаіш, да с... ня просісся, у штаны валіш**...” Гаварылі скрозь усі... Як пачане... Баба будзя казаць на любога... Ці будуць гаварыць: “Вот так во-во...” А баба: “Багата ты ўжо знаіш, там Іванічка ілі Раманічка, да сраць ня просісся, у штаны валіш...” Усі так казалі... **Не счыталі за пазор**... Ціперь жа: “Пайду ў туалет...” А калісь: “Куды ты пойдзіш?” – “Пайду с...” – “Ну, ідзі...”*

Пры адмысловым зборы матэрыялаў для гэтага слоўніка перашкодай станавілася прыродная сарамлівасць і сямейнае выхаванне Варвары Грэцкай. Калі я рабіў захады вярнуць маю субяседніцу да тога ці іншага нябыльнага выраза, каб удакладніць яго сэнс і поле распаўсюджвання, спрацоўваў яе ўнутраны рэдактар. Гэтая сітуацыя, калі “сарамлівасць і недавер сялян замінаюць увайсці ва ўсе таямніцы хатняга і сямейнага іх побыту”.[8, 55] добра знаёма фалькларыстам і этнографам.[9,55] Але мне ў гэтым плане пашанцавала больш чым Е. Раманаву альбо Ф. Сярэбранікаву, на якіх спасылаецца У. Лобач. Стуацыю, у якой апынуўся я, на прыкладе карнавала ў свой час разгледзіў М.М. Бахцін: “Ва ўсякую эпоху ёсць свае словы і выразы, ужыванне якіх успрымаецца як вядомы сігнал казаць вольна, зваць рэчы сваімі імёнамі, казаць без змоўчанняў і эўфемізмаў. Ужыванне такіх слоў і выразаў стварала атмасферу вулічнай шчырасці, наладжвала і на вызначаную тэматыку, і на неафіцыйнасць самага пункта гледжання на свет. Вядома, карнавальныя магчымасці такіх маўленчых элементаў расчыняюцца цалкам менавіта на святочным пляцы ва ўмовах адмены ўсіх іерархічных бар'ераў паміж людзьмі і рэальнага фамільярнага кантакту паміж імі”.[7,463] Нашы адносіны з Варварай Грэцкай з цягам часу сцёрлі паміж намі такія апазіцыі як свой – чужы, інфармант – збіральнік, і яна стала ўспрымаць мяне як свайго, як члена сваёй сям’і.

На мой погляд, із вынесенага ў загаловак *хто прыказку гаворя, і слова ўмесці скажа з прыказкай... Тоя самая і плахоя скажа...* вынікае, што нябыльныя словы – гэта словы без якіх можна абысціся. Аднак прыказкі без іх неабыходзяцца. Прыказкі захоўваюць у сябе шмат лексічных адзінак, якія ў простай гаворцы носбітамі мовы звычайна не выкарыстоўваюцца.

СПІС ЛІТАРАТУРЫ

1. Цалкам прыводзіцца ў публікацыі: Лопатин, Г. Варвара Грэцкая: “Я гаварю па-амяленскі...” Из опыта изучения диалектной фразеологии. (Материалы к Фразеолого-паремиологическому словарю личности.) Варвара Грецкая. Записи 2005 – 2012 г. / Г. Лопатин. // Palaeoslavica, Vol. XXII, № 2. Cambridg,, Mass, 2014. Pp. **147**-221.

2. Успенский Б.А. Избранные труды. Т.2. Язык и культура. /Б.А. Успенский. – М: “Гнозис” - 1994. - 688 с.

3. Трубачев О.Н. Из работы над русским Фасмером. К вопросам теории и практики перевода / Трубачев О.Н. // Русское языкознание. – 1978, 6 – С. 15-24.

4. Некрашэвіч С.М. Да пытання аб укладанні слоўніка ждывой беларускай мовы/ С.М. Некрашевіч // Выбраныя навуковыя працы акадэміка С. М. Некрашэвіча: Да 120-годдзя з дня нараджэння / НАН Беларусі; Ін-т мовазнаўсгва імя Я. Коласа; Навук. рэд. А. І. Падлужны. – Мн.: Бел. навука, 2004. – 190 с.

5. Мокиенко В. М., Никитина Т. Г. Русское сквернословие. Краткий, но выразительный словарь– М.: ЗАО “ОЛМА Медиа Групп”, 2008. - 384 с. Мокиенко В.М., Никитина Т.Г. Словарь русской брани (матизмы, обесценизмы, эфменизмы) – СПб “Норинт” – 2003 – 448 с. Плуцер_Сарно, А. Материалы к словарю русского мата. Т. 1. / А. Плуцер Сарно. – СПб.: ООО “Издательство “Лимбус Пресс”, 2005. – 392 с.

